*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 30 верасня 1988 г. № 39 (3449) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## М. С. ГАРБАЧОЎ: «РУХАЦЬ НАПЕРАД ПРАЦЭС ДЭМАКРАТЫЗАЦЫІ»

**«Без галоснасці няма перабудовы, няма дэмакратыі. Галоснасць — натуральная атмасфера жыцця і прагрэсу дэмакратычнага, гуманнага сацыялізму». Так сказана ў рэзалюцыі «Аб галоснасці», прынятай на XIX Усесаюзнай партканферэнцыі.**

**Месяцы, што прайшлі пасля канферэнцыі, яшчэ раз ясна паказалі: самыя лепшыя рэзалюцыі застануцца ўсяго толькі рэзалюцыямі, калі не прымаць рашучыя, дзейсныя меры па іх ажыццяўленні, не ламаць супраціўленне ведамаснага бюракратызму, ваяўнічага дагматызму кансерватараў.**

**Гэта паказала і сёлетняя падпісная кампанія, якая вылілася, па сутнасці, нечакана для чыноўнікаў розных рангаў, у народны рэферэндум у падтрымку сродкаў масавай інфармацыі супраць усіх і ўсяляніх лімітаў на галоснасць і дэмакратызацыю.**

**Аб вялікай ролі друку на цяперашнім этапе перабудовы гаварыў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў на сустрэчы ў ЦК КПСС з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі, ідэалагічных устаноў і творчых саюзаў. Вялікая роля абавязвае, аднак, і да вялікай адказнасці.**

**«Прэса, няхай пакуль што і далёка не заўсёды, дапамагае людзям усвядоміць перамены і растлумачвае, прапагандуе гаспадарчы разлік, арэндны падрад. Абараняе прэса і многія іншыя новыя метады, ініцыятывы, самастойнасць прадпрыемстваў. Гэта добра, — падкрэсліў М. С. Гарбачоў. — Але ёй трэба рашуча збаўляцца і ад няправільных падыходаў, ад калекцыяніравання «палохаючых» выпадкаў. Як іх чакаюць кансерватар і прагрэсіст на гадзіну! І той і другі зларадпічаюць: мы ж гаварылі, што перабудова — гэта справа надуманая, што яна нічога не дасць, мы ж гэта даўно гаварылі».**

**Зараз пачаўся самы цяжкі час, калі стратэгія перабудовы, усё, што намечана, павінна ўвасобіцца ў канкрэтныя справы. А менавіта гэтага яшчэ не хапае. Застаецца той жа разрыў паміж словам і справай. Неабходны рэальныя і энергічныя і практычныя дзеянні. А між тым, многія, кажучы словамі М. С. Гарбачова, думаюць, што яны яшчэ на мітынгу. А сёй-той, збаяўшыся рэвалюцыйнага працэсу, нават кінуўся ў паніку. Безумоўна, у перабудовы ёсць нямала цяжкасцей. Тут і нецярплівасць, і раздражненне, і блытаніна ў розумах. І гэта зразумела, бо ўсе мы — жывыя людзі, а не робаты. Працэс перабудовы складаны, дыялектычны. Старое і новае — усё побач. «Гэта і ёсць той пераходны перыяд, у якім будуць суіснаваць усе метады, усе спосабы работы — старыя і новыя»,— зазначыў Генеральны сакратар.**

**У такіх умовах роля прэсы ў грамадстве будзе нарастаць. «Без яе, — падкрэсліў М. С. Гарбачоў, — мы не справімся, працэс перабудовы не асілім, усю навізну праблем, якія ёсць у эканоміцы, у палітычнай сферы і ў ідэалогіі, не ўсвядомім. Але размова патрэбна сур'ёзная, адказная, прамая, сумленная...».**

**Якія ж задачы партыі і прэсы на новым этапе перабудовы? М. С. Гарбачоў у сваім выступленні на сустрэчы ў ЦК КПСС адзначыў наступныя:**

«Па-першае, неабходна арганізацыйна і ідэалагічна забяспечыць палітыку перабудовы і рашуча спыняць спробы дыскрэдытаваць яе.

Па-другое, у пераломны, адказны для лёсу краіны час трэба цвёрда стаяць на пазіцыях рэалізму, ведання жыцця, узважаных адносін да ацэнак. Інакш вельмі хутка можна збіцца на лёгкаважныя меркаванні, а то і проста на балбатню.

Па-трэцяе, не настройваць людзей на цуд. Неабходна збаўляць грамадскую свядомасць ад такога надзвычай шкоднага комплексу, як вера ў «добрага цара», усемагутны цэнтр, у тое, што хтосьці зверху навядзе парадак, арганізуе перабудову...

Па-чацвёртае, змяніць адносіны людзей да справы, да жыцця, да грамадства. А гэта можна зрабіць толькі рэальна ўключаючы іх у перабудовачныя працэсы...

Па-пятае. Трэба моцна весці, як мы вялі яе ў пачатку перабудовы, тэму павышэння адказнасці, дысцыпліны і парадку».

**Зразумела, ніякай гаворкі пра абмежаванне галоснасці быць не можа. «Галоснасць у інтарэсах народа, у інтарэсах сацыялізму, — падкрэсліў М. С. Гарбачоў,— павінна быць бязмежнай».**

**Нашы каштоўнасці — каштоўнасці сацыялістычныя. І мы павінны паставіць на службу абнаўлення грамадства ўсе магчымасці сацыялізму, — сказаў Генеральны сакратар пры завяршэнні сваёй сустрэчы з журналістамі, ідэалагічнымі работнікамі, творчай інтэлігенцыяй. — Такім чынам, трэба рухаць наперад працэс дэмакратызацыі, галоснасці. Без гэтага мы не вырашым нашых задач».**

РЭПАРТАЖ У НУМАР



Урок вядзе настаўніца Ірына Валяр'янаўна РАМАНОЎСКАЯ.

## З ВЕРАЮ І НАДЗЕЯЮ...

**Пра сярэднюю школу № 108, якая знаходзіцца ў Партызанскім раёне сталіцы рэспублікі, мы ўжо расказвалі на старонках нашага штотыднёвіка. І невыпадкова. Справа ў тым, што менавіта тут *шэсць гадоў назад*, дзякуючы намаганням шырокіх колаў грамадскасці і падтрымцы з боку кіраўніцтва школы, быў заснаваны першы ў Мінску клас з навучаннем на роднай мове.**

Сёлета такіх класаў прыкметна пабольшала, яны з'явіліся і ў іншых раёнах і мікрараёнах горада. Гэта радуе і абнадзейвае, але разам з тым гэта паставіла перад усімі намі мноства сур'ёзных пытанняў. Іх і рашаюць, як кажуць, на практыцы ў школе № 108, у школе, якая па-ранейшаму застаецца першапраходцам у арганізацыі беларускамоўнага навучальнага і выхаваўчага працэсу ў гарадскіх умовах. Напярэдадні цудоўнага свята — Дня настаўніка — мы завіталі ў гэтую школу, сустрэліся з дырэктарам Валянцінай Апанасаўнай Капусцінскай, класным кіраўніком беларускамоўнага 6 «А» класа Раісай Фёдараўнай Гамолка і настаўніцай пачатковых класаў Алінай Іосіфаўнай Клімантовіч. Пад час гутаркі даведаліся, што на *сённяшні дзень па-беларуску* тут навучаецца 107 хлопчыкаў і дзяўчынак. З кожным годам гэтая лічба, хоць і пакрысе, але расце.

— Некалькі год запар вельмі цяжка было набіраць першы клас, — расказвала нам Валянціна Апанасаўна. — Ды вучні прыходзілі часта непадрыхтаваныя, абдзеленыя родным словам. *Мы разумелі: пачынаць* трэба з дзіцячага садка, каб ужо там рыхтавалі для нас выхаванцаў. Такім для нас стаў садок № 457, дзе створаны дзве беларускамоўныя групы. Бацькі з ахвотаю аддаюць сюды сваіх дзяцей, многія з іх горача падтрымліваюць ідэю адраджэння нацыянальнай школы. Важна толькі, каб не на паперы, а ў жыцці з'яднаўся ў адно цэлае ланцужок — дзіцячы садок, школа, сярэдняя спецыяльная ці вышэйшая навучальная ўстанова. Усюды павінны быць групы з навучаннем на роднай мове.

— А як вы вырашылі ў сябе праблему кадраў? — пацікавіліся мы. — *Ці ўсе настаўнікі-*прадметнікі добра выкладаюць па-беларуску?

Дырэктар школы прызналася: на жаль, атрымліваецца не ўсё так гладка, як хацелася б... Большасць настаўнікаў з разуменнем ставяцца да прапановы выкладаць у беларускамоўных групах, але не кожны здольны лёгка пераходзіць з аднае мовы на другую. Прыходзіцца прасіць, угаворваць людзей, каб яны заселі за кнігі, самастойна падрыхтаваліся чытаць той ці іншы прадмет

(Заканчэнне на стар. 2—3).

## З пошты «ЛіМа»

# ● ПАТРАБУЕЦЦА ІНШЫ ПАДЫХОД

# ● ЦІ ПРЫЕДЗЕ ДАНЧЫК НА БЕЛАРУСЬ?

# ● А МОВАЗНАЎЦЫ МАЎЧАЦЬ...

●

Вельмі важную гаворку пачалі нядаўна І. Кудраўцаў і М. Спірыдонаў («ЛіМ», №№ 25 і 35). Сапраўды, шматтомную працу «Гарады і вёскі Беларусі» трэба падрыхтаваць і выдаць так, каб яна мела навуковую каштоўнасць не для аднаго пакалення — на стагоддзі. І такую каштоўнасць ёй, у першую чаргу, прыдадуць звесткі пра мінулае нашых населеных пунктаў — і тых , што існуюць, і тых, што па розных прычынах зніклі. Тут я цалкам згодзен з пафасам выступленняў абодвух аўтараў.

Узяцца ж за пяро мяне прымусіла жаданне падказаць навуковаму калектыву, які працуе над «Гарадамі і вёскамі Беларусі», адзін вельмі істотны і перспектыўны арганізацыйна-метадычны выхад з нялёгкага цяперашняга становішча. Сёння матэрыялы збіраюцца па асобных абласцях (спярша — па Магілёўскай, потым — па Мінскай і г. д.), раёнах, гарадах, вёсках. Але ж ранейшае і цяперашняе адміністрацыйныя дзяленні далёка не супадаюць... Наколькі я зразумеў з артыкула М. Спірыдонава, адным навукоўцам сёння плануецца збор звестак па XVI стагоддзю, другім — па XVIII і XIX стагоддзях, трэцім — па савецкім перыядзе. Але ж такія звесткі могуць быць у адных і тых жа крыніцах... Значыць, розным людзям давядзецца іх праглядаць па дзесятку разоў! Ці рацыянальна, ці прадукцыйна гэта?

Каб быць лепей зразуметым, правяду такую аналогію. Уявіце сабе сітуацыю: некалькім Папялушкам даручылі перабраць велізарны мех з самым розным зернем. Тут і жыта, і авёс, і ячмень, і гарох, і грэчка, і кукаль, і яшчэ шмат чаго іншага. І кожная вышуквае ў мяху толькі «сваё» зерне. Колькі на ўсё гэта пойдзе марнага часу?! Куды лепш было б, калі б адна з Папялушак сказала: «Давайце не будзем дзяліць зерне на сваё і чужое, давайце перабіраць яго разам, кожная — на адпаведную колькасць купак».

Такім жа велізарным «мехам» уяўляецца мне ўся сукупнасць друкаваных і рукапісных крыніц па гісторыі беларускіх гарадоў і вёсак. Вядома, кожны можа ў ім капацца, вышукваючы сваё, паасобку. Але колькі пры гэтым будзе прапушчана важных звестак (кожны праглядзець усе крыніцы не ў стане), колькі пойдзе марнай працы і камандзіровачных грошай. Таму прапаную сваім калегам-гісторыкам «танцаваць» не ад абласцей і стагоддзяў, а ад **крыніц**. Спачатку выявіць і распісаць іх усе (наколькі гэта магчыма), а потым размеркаваць увесь сабраны матэрыял па абласцях, раёнах і стагоддзях (вядома, сёе-тое потым давядзецца ўдакладняць дадаткова, асабліва калі розныя крыніцы будуць сабе пярэчыць). Адным словам, перш, чым ствараць гісторыю беларускіх гарадоў і сёл, трэба стварыць фундаментальную картатэку па гэтай гісторыі.

Падказваю гэты шлях не толькі таму, што па ім ідуць гісторыкі за рубяжом, але і таму, што магу тут абаперціся на ўласны вопыт. Група навукоўцаў з Інстытута літаратуры АН БССР вось ужо шосты год працуе над шасцітомнікам «Біябібліяграфічны слоўнік беларускіх пісьменнікаў», у якім асноўны аб'ём зойме бібліяграфія. Пры зборы матэрыялаў мы таксама маглі пайсці па такім шляху: адзін вышуквае ва ўсіх крыніцах — зборніках, часопісах, газетах, архівах — усе звесткі пра Купалу, другі — пра Коласа, трэці — пра Чорнага. І так — пра кожнага з добрай тысячы нашых пісьменнікаў. Маглі б (каб хутчэй «адрапартаваць») асобна падрыхтаваць том на літары «А — В», потым — на «Г—З»... Тады б кожны «пералапачваў» бы тыя ж крыніцы, што і яго калегі. Але мы пайшлі іншым шляхам. За першыя тры з паловай гады распісалі ўсе крыніцы, якія захаваліся (іншая справа, што многія да нас не дайшлі — усе яны таксама ўлічваліся), і тут жа расставілі картачкі па пісьменніках. А цяпер на аснове картатэкі, у якой каля 700 тысяч картак, штогодна рыхтуем па тому. А сёлета нават плануем і два. Уяўная «зацяжка» на першапачатковым этапе абвярнулася відавочным выйгрышам на заключным.

Я разумею, чаму гісторыкі пайшлі такім, вонкава лягчэйшым шляхам. Яны арыентаваліся і арыентуюцца на «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», дзе кожны том, прысвечаны канкрэтнай вобласці, рыхтаваўся паасобку. Але ж у «Зборы...» асноўнае месца займае тое, што ёсць сёння. А ў «Гарадах і вёсках Беларусі» (лепш было б гэтае выданне назваць «Гісторыяй гарадоў і вёсак Беларусі») асноўнае месца зойме матэрыял гістарычны, які яшчэ трэба выяўляць (і выяўляць комплексна, бо, скажам, у інвентарах з Брэстчыны могуць быць матэрыялы з Магілёўшчыны). Таму тут патрэбны прынцыпова іншы падыход, заснаваны на першапачатковым вывучэнні **ўсіх** крыніц. А іншага шляху я проста не бачу. Пры падрыхтоўцы кожнага тома паасобку або ўсё выданне расцягнецца на дзесяткі гадоў, або яно будзе вельмі няпоўным.

І апошняе. Пакуль што над выданнем працуюць людзі розных калектываў, арганізацыйна слаба аб'яднаныя. А дзеля карысці справы трэба (переканаўся ў гэтым на ўласным вопыце), каб яны былі ў адным калектыве, пад адным навуковым і арганізацыйным кіраўніцтвам.

**Адам МАЛЬДЗІС.**

●

**Усім нам, каму давялося слухаць запісаныя на магнітафонную стужку беларускія народныя песні, а таксама песні беларускіх і іншых аўтараў пра Беларусь у выкананні маладога спевака са Злучаных Штатаў Амерыкі Данчыка (Багдана Андрусішына), глыбока запалі ў душу яго выдатны голас,ranікнёная шчырасць спеву. Мы лічым, што асабісты прыклад гэтага чалавека, які, ніколі не быўшы на радзіме сваіх продкаў, за тысячы кіламетраў ад яе вывучыў родную мову і сэрцам далучыўся да беларускай песні, можа паслужыць найлепшым урокам для шмат якіх нашых земляноў, адкрыць ім вочы на тое хараство, якое яны не бачаць, а часам і не хочуць бачыць.**

**8 верасня г. г. газета «Савецкая культура» паведаміла, што ў творчую паездку ў ЗША па запрашэнні Данчыка паехаў вядомы беларускі спявак Леанід Барткевіч. У апублікаваным інтэрв'ю ён дае высокую ацэнку вакальным здольнасцям свайго амерыканскага калегі, паведамляе пра выхад у ЗША пласцінкі «Данчык спявае «Беларусачку».**

**З інтэрв'ю Данчыка, апублікаванага ў беластоцкай газеце «Ніва» за 11 верасня г. г., нам стала вядома, што ён вельмі хацеў бы пабываць у нас на Беларусі. Мяркуем, што Беларускі фонд культуры мог бы зрабіць неабходныя захады, каб арганізаваць у БССР выступленні нашага земляка-спевака са Злучаных Штатаў Амерыкі.**

**Спадзяёмся, што партыйныя органы і Міністэрства культуры рэспублікі не толькі паставяцца прыхільна да нашай прапановы, але і акажуць Беларускаму фонду культуры патрэбную дапамогу ў гэтай справе, бо прыезд Данчыка ў нашу рэспубліку мог бы адыграць неацэнную ролю ў павышэнні прэстыжу беларускай культуры і роднай мовы.**

**Уладзімір АРЛОЎ, Леанід БАРШЧЭЎСКІ, Ірына ЖАРНАСЕК і іншыя, усяго 17 подпісаў.**

г. Наваполацк.

●

Цалкам пагаджаюся з меркаваннямі, выказанымі ў лісце «Рэпрэсіраваны «правапіс» («ЛіМ», № 37). Пачатак нігілістычнага стаўлення да роднай мовы ў рэспубліцы менавіта ў тым 33-м годзе. Вытокі сітуацыі, што маем з мовай, яшчэ глыбейшыя. Але ў 33-м годзе быў перапынены натуральны ход падзей. Заганны працэс працягваецца і зараз пад пільным наглядам шмат каго з акадэмічных мовазнаўцаў, якія манапалізавалі права «развіваць» беларускую мову. Гэта сітуацыя дазваляе праз друк і радыё распаўсюджваць элементарную непісьменнасць. А мовазнаўцы маўчаць. Бывае нават, што замацоўваюць яе адпаведнымі правіламі ў чарговым салідным выданні.

Апошнім часам, напрыклад, у перыёдыцы актыўна пачалі выкарыстоўвацца дзеепрыметнікі няпоўнай формы. Адметна, што ў асобных рэдакцыях падмацоўваецца такое выкарыстанне (ды і іншыя новаўвядзенні, а дакладней — калькі з рускай мовы) спасылкамі на падобнае напісанне ў... «Звяздзе». Але ж дзеепрыметнік — часціна мовы, якая па граматычных адзнаках ідэнтычная прыметніку. Кароткія ж прыметнікі, пра што сведчаць і даўнейшыя пісьмовыя крыніцы, у нашай мове не існуюць. Ёсць яны толькі ў фальклорных тэкстах: «ясен маладзік». Да нядаўняга часу пра іх нават не згадвалася ў падручніках, што таксама пра многае сведчыць.

У «Беларускай граматыцы» на с. 192 (1985. Ч. І) ужо з'явілася агаворка пра ўжыванне ў ролі выказніка часам і кароткай формы дзеепрыметнікаў мужчынскага роду са спасылкаю ў першую чаргу на... перыядычны друк. Праўда, на той жа старонцы сказана пра ўжыванне дзеепрыметнікаў мужчынскага роду ў ролі выказнікаў **пераважна** ў поўнай форме. Але ж выключэнне з правілаў зроблена, а праз які час можна будзе памяняць і само правіла, спаслаўшыся на тую ж перыёдыку. Можна будзе замацаваць і напісанне ў месным склоне назвы горада Гродна з канчаткам -а, што ўжо зараз робіцца ў «Звяздзе», «Чырвонай змене», «Вячэрнім Мінску», выдавецтве «Навука і тэхніка». Падобны падыход да мовы нявечыць яе, збядняе, дае падставы казаць, што яна нічога адметнага не мае, а з'яўляецца толькі «горшым перакладам» рускай.

Тут можна было б прывесці нямала прыкладаў ужывання тэрміналогіі. Апошнім часам часцей і часцей чытаю слова «кладка» ў дачыненні да мураванага аб'екта. Але ж ёсць спрадвечнае слова «муроўка» (мур, мураваць, муляр), якое прыйшло яшчэ ў сярэднявеччы ў нашу мову разам са шмат якімі традыцыямі дойлідства. Класці сцены можна ў драўлянай хаце. Гэтым самым, не называючы нават аб'екта пабудовы, без лішніх слоў высвечваецца характар з'явы.

Гэткім жа чынам выглядае выкарыстанне ў нашай мове і паняцця «каменны будынак», што скалькавана з рускага «каменное здание». Для беларускай архітэктуры каменныя пабудовы не былі характэрныя. Асноўным будаўнічым матэрыялам на Беларусі традыцыйна была цэгла (у XI—XII стст. яна называлася плінфай). Толькі ў замках-кастэлях XIV ст. частка (!) аб'ёму будавалася з камянёў. Зыходзячы з гэтага ў нас і не магло з'явіцца паняцця «каменны будынак» або «каменная архітэктура». Гаворачы «мураванае дойлідства» ці «мураваныя збудаванні» мы разумеем, што маецца на ўвазе будаўніцтва з каменю ці цэглы. У Расіі існаванне паняцця «каменная архитектура» правамернае, бо ідзе яно ад будаўніцтва з апрацаваных камянёў Уладзіміра-Суздальскага, а пазней і Маскоўскага княстваў. Праз няведанне гісторыі свайго краю ў нас адбылося занядбанне і такіх адметных слоў, як «дахоўка», «ветранік». Першае ўжываецца на Беларусі, верагодней, з XIV ст., калі шмат якія будынкі, у першую чаргу мураваныя, пачалі пакрывацца дахоўкай. Шаноўныя ж мовазнаўцы неяк нават дазволілі сабе пакпіць з такога нязвыклага для іх вуха «гукараду», («Ці глыбока думаў рэцэнзент?»), А. Я. Баханькоў, Г. Ф. Вештарт, А. М. Прышчэпчык. («Полымя», 1987, № 12). Другое — азначае не толькі флюгер, колькі прыстасаванне ў выглядзе дэкаратыўнага сцяжка, які выконваў, адначасова, і інфармацыйную функцыю, размешчанага на дахах будынкаў і вежаў. У свой час у Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва быў пададзены артыкул пра гэты цікавы элемент сярэдневяковых будынкаў. Але ў рэдакцыі паведамілі, што тэрміналагічная камісія яго не прапусціла, бо такі тэрмін... ёй невядомы.

Усё гэта наводзіць на горкі роздум пра культуру мовы і вымаўлення.

**І. ЧАРНЯЎСКІ,**
**археолаг.**

# З ВЕРАЮ І НАДЗЕЯЮ...

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

па-беларуску. Раней было спадзяванне на выпускнікоў педагагічных інстытутаў. Але ў гэтым плане яны падрыхтаваны вельмі слаба, а дакладней — зусім не падрыхтаваны, як быццам навучаліся дзесьці далёка за межамі рэспублікі. Міжволі паўстае пытанне: як жа яны тады навучаюць дзяцей у вясковых школах? І хто, нарэшце, адкажа за такое антынавучанне, калі настаўнікі і вучні размаўляюць на ўроках на розных мовах? Раіса Фёдараўна Гамолка, якая з'яўляецца выкладчыцай замежнай мовы, з расчараваннем гаварыла, што вымушана весці свой прадмет па рускамоўнаму падручніку. Беларускамоўнага пакуль не выдалі і невядома, ці выдадуць наогул. Няма таксама і беларуска - замежных слоўнікаў, якія так неабходны школе.



«Спытайце мяне!»



І клопаты, і радасці... Дырэктар СШ № 108 В. А. КАПУСЦІНСКАЯ з настаўніцамі А. І. КЛІМАНТОВІЧ і Р. Ф. ГАМОЛКА.

Даўно вядома: настаўнік пазнаецца і тады, калі гаворыць пра вучняў. Раіса Фёдараўна расказвае пра свой шосты «А» з радасцю, з захапленнем. Адчуваецца — яна любіць сваіх выхаванцаў, ганарыцца імі. Як і ў кожным класе, тут ёсць выдатнікі, ёсць і тыя, каму вучоба даецца цяжэй. Але ўсіх іх яднае, вылучае сярод астатніх класаў дысцыплінаванасць, працавітасць, адказнасць за даручаную справу. А галоўнае, яны адчуваюць сябе ў школе не горш, чым астатнія шасцікласнікі, дзе навучанне вядзецца на рускай мове. Большасць вучняў 6 «А», у адрозненне ад сваіх аднагодкаў, добра размаўляюць і па-руску і па-беларуску. Гэта бачаць і бацькі, таму без усялякіх угавораў самі аддаюць малодшых дзяцей

# КАМІТЭТ «58»

Адгукаючыся на пажаданні грамадскасці, гісторыка-мемарыяльная камісія Беларускага *фонду культуры* аднагалосна прыняла рашэнне стварыць добраахвотны Камітэт памяці ахвяр сталінізму. Адбыліся тры сходы грамадскасці, дзе абмяркоўваліся задачы, праграма і структура камітэта. Утварылася арганізацыйная група па стварэнні «Камітэта «58» (рабочая назва, узнікла як напамінак аб адпаведным артыкуле крымінальнага кодэксу РСФСР, па якім былі несправядліва асуджаны мільёны людзей ва ўсіх рэспубліках СССР). Камітэт будзе садзейнічаць выяўленню поўнай карціны масавых забойстваў, рэпрэсій і тэрору на тэрыторыі Беларусі. Распрацаваны праект дэкларацыі і анкеты па збору інфармацыі.

Асноўныя задачы камітэта сканцэнтраваны на ўстанаўленні колькасці і пайменна ўсіх загінуўшых у час масавых забойстваў і тэрору 1920-х — 1950-х гадоў на тэрыторыі БССР, Віленскага краю, Смаленшчыны і Беласточчыны; высвятленні прозвішчаў арганізатараў і выканаўцаў масавых забойстваў, рэпрэсій і тэрору; вызначэнні месцаў забойства і пахавання ахвяр; стварэнні мемарыяла памяці і помнікаў замучаным і нявінна забітым людзям.

Мяркуецца, што ў мемарыял, акрамя помнікаў у Мінску і абеліскаў у месцах пахавання ахвяр, павінны ўвайсці інфармацыйна-даследчы цэнтр з архівам, музей і бібліятэка.

Маецца на ўвазе, што камітэт будзе выдаваць свой бюлетэнь, садзейнічаць публікацыі ў перыядычным друку матэрыялаў аб народнай трагедыі, выпуску кніг, зборнікаў дакументаў, дакументальных фільмаў.

Павінен быць таксама адчынены спецыяльны рахунак у банку, на які можна перасылаць *грошы на помнікі і мемарыял.*

Улічваючы важнасць праўдзівага адлюстравання народнай трагедыі, арганізацыйная група лічыць, што камітэт звернецца ў прэзідыум Акадэміі навук БССР з прапановай адкрыць у Інстытуце гісторыі АН БССР сектар гісторыі сталінізму; паставіць пытанні аб тэрміновай падрыхтоўцы і прыняцці неабходных заканадаўчых дакументаў па ўтрыманні архіваў з указаннем цэнзу часу (ад 3-х да 30 гадоў), пасля якога ўсе ведамасныя архівы і дакументы павінны быць рассакрэчаны, стаць агульнадаступнымі і перададзены ў дзяржаўныя гістарычныя архівы. аб ліквідацыі «спецфондаў», «спецсховішчаў» і ўсіх праяў «арышту» дакументаў, кніг і перыядычных выданняў.

Арганізацыйная група «Камітэта «58» ужо вядзе пэўную работу па выяўленні злачынстваў сталіншчыны. Дзеля пашырэння гэтай працы і практычнага ажыццяўлення пастаўленых задач мяркуецца склікаць у першай палове кастрычніка гэтага года ўстаноўчы сход «Камітэта «58», на якім будзе прынята адпаведная праграма, выбраны кіруючыя і рабочыя органы.

# ДА ВЕДАМА ЧЫТАЧОЎ

**7—8 ліпеня ў рэспубліканскім друку, у тым ліку і на старонках «ЛіМа», быў апублікаваны для абмеркавання грамадскасцю спіс твораў літаратуры, тэатра, музыкі, кіно, выяўленчага мастацтва, архітэктуры, журналістыкі, тэлебачання і радыёвяшчання, вылучаных сёлета на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР.**

«Зараз, калі ўсё шырэе і паглыбляецца дэмакратыя, галоснасць, павышаецца патрабавальнасць,—звяртаецца да нас у рэдакцыю адказны сакратар Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры У. Юрэвіч, — такое абмеркаванне ў друку, шчырая размова чытачоў аб вылучаных творах шмат у чым дапаможа камітэту зрабіць чарговае прысуджэнне прэмій яшчэ больш аб'ектыўным і прынцыповым».

Сапраўды, апошнім часам, калі з многіх сфер нашага жыцця апалі покрывы таямнічасці і актывізавалася грамадская думка, востра дыскутуюцца і шмат якія праблемы, што раней лічыліся, так бы мовіць, «чыста працэдурнымі». Напрыклад, лімаўскі чытач з Рыгі В. Целеш прапануе зрабіць вызначальным крытэрыем ацэнкі таго ці іншага мастацкага твора, асабліва пры вылучэнні на атрыманне высокай узнагароды, яго ўклад у нацыянальную культуру.

Са свайго боку рэдакцыя ўсведамляе, што колішнія формы абмеркавання вылучаных твораў сёння выглядаюць анахранізмам, а таму спадзяецца найперш на ініцыятыву чытача. Яго аб'ектыўнае, прынцыповае і зацікаўленае слова знойдзе месца на старонках газеты.

Нагадваем таксама, што абмеркаванне конкурсных твораў прадоўжыцца да 15 лістапада. Свае думкі, заўвагі і прапановы дасылайце ў рэдакцыю «ЛіМа» альбо на адрас Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры — Мінск, вул. Фрунзе, 5, тэл. 36-86-71.

у першы клас навучання на роднай мове. Да месца будзе сказаць, што ў пачатковых класах у школе № 108 працуюць цікавыя педагогі. Іх з поўным правам можна назваць педагогамі - энтузіястамі. Большасць дапаможных матэрыялаў яны робяць сваімі рукамі, нават самі пішуць сцэнарыі для ўрачыстых ранішнікаў. Будзем спадзявацца, што ім пачнуць памагаць гарадскі і раённыя дамы піянераў, там не павінны забывацца пра беларускамоўныя дзіцячыя сады і пачатковыя класы.

Пад канец нашай сустрэчы Аліна Іосіфаўна завяла нас у густоўна аформлены мастаком Ігарам Марачкіным кабінет, дзе займаюцца вучні 2 «А» класа. Хацелася б, каб на такім узроўні былі аформлены ўсе беларускамоўныя пачатковыя групы. Тут знайшоўся куточак, прысвечаны народнаму ўмельству, побач праніклёна расказваецца пра родную прыроду, ёсць і іншыя запамінальныя стэнды, аздобленыя саламянымі сонейкамі.

— Партызанскі райана выдзеліў грошы за афармленне нашых класаў і для набыцця дапаможнага матэрыялу, — гаворыць Аліна Іосіфаўна,—а дзе ўзяць той дапаможны матэрыял, калі не купіць нават дзіцячай пласцінкі з запісам на роднай мове? Можа, лепей было б пералічыць гэтыя грошы ў бухгалтэрыю рэспубліканскага радыё з просьбаю зрабіць магнітафонныя запісы для нас найбольш цікавых казак, інсцэніровак, сустрэч з пісьменнікамі?

На нашу думку, слушная прапанова. Хацелася б, каб яе падтрымаў гарадскі аддзел па народнай адукацыі. Не будзем забывацца, што ўсе тыя праблемы і клопаты, якімі жыве сёння педагагічны калектыў школы № 108, чакаюць і астатнія школы, дзе ёсць беларускамоўныя класы.

**Уладзімір ЯГОЎДЗІК.**

Фота Ул. КРУКА.

# БЕЗ ПАДРОБАК

## Рэспубліканская выстаўка плаката

**У мінскім Палацы мастацтваў, дзе праходзіць рэспубліканская выстаўка плаката і агітплаката, прысвечаная 70-годдзю БССР і 50-годдзю Саюза мастакоў Беларусі, можна набыць каталог рэтраспектыўнай выстаўкі плаката за... 1984 год. Дзякуючы гэтай, мабыць, выпадковай акалічнасці жадаючыя могуць *ацаніць, наколькі далёка крочыла* плакатнае мастацтва за апошнія тры гады, што сталі пераломнымі для нашага грамадства.**

**«Меліярацыя — шлях да пашырэння пасяўных плошчаў Беларусі». Рэпрадукцыю з гэтага глыбакадумнага плаката 70-х гадоў можна бачыць ва ўзгаданым каталогу. «Нарыхтоўцы кармоў — высокую эфектыўнасць і якасць», «Слаўныя традыцыі прымножым!», «Квітней, мая Радзіма!»: гэтыя бадзёрыя заклікі можна прачытаць і на сёлетняй выстаўцы. Менавіта прачытаць. Бо ўглядацца ў стандартныя мужныя твары з плакатнымі ўсмешкамі, у трафарэтныя сярпы і молаты, камбайны і ракеты, каласкі і кветкі чамусьці не хочацца. Усё гэта даўно і да болю знаёмае. Не хапае толькі сакраментальнага «Эканоміка павінна быць эканомнай» або «Не стой пад стралой». Ёсць затое і салдат у амерыканскай форме і з галавой тыгра, і змрочнае павуціннне з надпісам ЦРУ, і абавязковы апівоха з зялёным носам, і абывацель з вялікай лыжкай і да таго падобнае...**

**Так, цяжка пазбаўляцца ад прапагандысцкіх клішэ і стэрэатыпаў. У гэтым сэнсе плакат, асабліва агітплакат — адлюстраванне тых працэсаў, што так нялёгка адбываюцца сёння ў нашай грамадскай свядомасці.**

**Як добра, што агульны змест выстаўкі вызначаецца не толькі, і не столькі тымі плакатамі, пра якія гаварылася вышэй, а зусім іншымі работамі. Барацьба за захаванне роднай мовы і прыроднага асяроддзя, вайна з бюракратызмам і дагматызмам мыслення, бязлітасны разлік са спадчынай памылак і злачынстваў мінулага, з закарэлай філасофіяй спажывецтва, з цёмнымі ірацыянальнымі сіламі, што жывуць у кожным з нас — вось тэматыка лепшых работ. Агітплакат у сілу сваёй яркасці, даходлівасці, парадаксальнасці не проста канстатуе наяўнасць дэфармацый у нашым *грамадстве — разбурэнне экалогіі* культуры, наступленне арганізаванай злачыннасці. наркаманіі, прастытуцыі, карупцыі, цялесны і духоўны СНІД. Мастакі нібы праз павелічальнае шкло выпукла паказваюць іх нам. Зло паўстае перад намі ў падкрэсленым, знарочыста гіпертрафіраваным выглядзе, і гэта прымушае розум абурыцца, жахнуцца, шукаць нейкага выйсця. Такая «звышзадача» патрабуе ад мастака, зразумела, пошукаў новых, найбольш выразных і арыгінальных форм. На жаль, іншы раз пошук гэты можа заводзіць, як пераконвае выстаўка, у абстрактную беспрадметнасць, або да празмернай ускладнёнасці, а ў рэшце рэшт і да поўнага разрыву кантакту з гледачом. І тады ўжо само паняцце агітплаката, напэўна, губляе свой сэнс.**

**На выстаўцы прадстаўлены таксама тэатральныя. кніжныя- і кінаплакаты. Пра іх можна было б весці асобную гаворку: тут ёсць свае дасягненні і праблемы.**

**Аднак, агітплакат прыцягвае сёння найбольшую цікавасць. І на гэта ёсць свае прычыны. Без сучаснага, баявога агітплаката сёння нельга ўявіць далейшае развіццё дэмакратыі і галоснасці. Сацыяльны заказ для мастака-плакатыста, відаць, даўно выспеў. Але, думаецца, нават лепшыя работы, сабраныя ў Палацы мастацтваў, пакуль яшчэ наўрад ці могуць прэтэндаваць на авангардную ролю ў фарміраванні палітычнага мыслення. Яшчэ горш, аднак, што гэтыя лепшыя работы ў большасці прадстаўлены толькі ў экспазіцыі. У той жа час працягваецца выхад у свет — і гэта таксама паказала выстаўка — штампаваных падробак пад плакатнае мастацтва. Лепшым, самым вострым, самым надзённым плакатам павінна знайсціся месца на нашых вуліцах.**

**Віталь ТАРАС.**



У. КРУКОЎСКІ. «Зброя масавага знішчэння».



Л. ГОМАНАЎ. «Бюракрату».


У. КРУКОЎСКІ. «Білінгвізм».



У. ШЧЭРБІН. «Куплю шосты палец».

### У РЭДАКЦЫЮ «ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА»

**Прашу праз вашу газету выказаць шчырую падзяку ўсім арганізацыям, сябрам і чытачам за віншаванні з нагоды майго сямідзесяціпяцігоддзя.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

### У САКРАТАРЫЯЦЕ СП БССР

**Створана камісія па літаратурнай спадчыне пісьменніка Льва Салаўя ў складзе: М. І. Татур (старшыня), Г. А. Шаранговіч, Л. Я. Салавей.**

*Экалогія: праблемы, сітуацыі, канфлікты*

**Сяргей НАВУМЧЫК**

# МЯЖА

**Экалагічныя праблемы... Напэўна, няма ніводнага рэгіёна нашай краіны, дзе праблемы гэтыя не паўсталі б у поўны рост. Яны — расплата за дзесяцігоддзі экстэнсіўнага гаспадарання. Пра гэта зноў гаварыў нядаўна Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў у сваіх выступленнях і гутарках у Краснаярскім краі.**

**Адна з самых вострых праблем вынікае з далейшага развіцця энергетыкі, асабліва ядзернай. Магчыма, зусім адмовіцца ад будаўніцтва атамных электрастанцый зараз нельга. Але Чарнобыль прымусіў пераглядзець нашы старыя ўяўленні аб АЭС, аб іх бяспецы. Відныя вучоныя прапануюць будаваць іх на значнай глыбіні пад зямлёй (гл., напрыклад, інтэрв'ю з акадэмікам А. Сахаравым у часопісе «Новое время», № 38 за г. г.). Гэта значна павысіць кошт будаўніцтва. Але ці трэба эканоміць на людскіх жыццях!**

**У любым выпадку рашэнне аб узвядзенні новых АЭС павінна прымацца сёння па-іншаму, абгрунтоўвацца ва ўсіх адносінах і ва ўмовах шырокай галоснасці, з улікам грамадскай думкі. Нельга дапусціць, каб пытанне аб будаўніцтве такой станцыі на поўначы Беларусі заставалася прэрагатывай аднаго або некалькі ведамстваў. Пра гэта—артыкул віцебскага журналіста С. Навумчыка, які друкуецца ніжэй.**

**Нядаўна на адной з віцебскіх фабрык праходзіла сустрэча дэлегатаў XIX партканферэнцыі з прадстаўнікамі грамадскасці. Сярод пытанняў узнікла і такое: ці праўда, што паблізу Віцебска плануецца ўзвядзенне атамнай электрастанцыі?**

**Першы сакратар абкома партыі У. В. Грыгор'еў прызнаў, што, сапраўды, такая задума існуе.**

**— Аднак мы лічым немэтазгодным размяшчэнне АЭС на тэрыторыі вобласці, аб чым афіцыйна паведамілі ў Дзяржплан рэспублікі, — удакладніў Уладзімір Віктаравіч. І пасля кароткай паўзы дадаў:— Але, самі разумееце, не ўсё ад нас залежыць...**

**У гэтае імгненне мне падалося, што вось цяпер і пачнецца сапраўдная дыскусія, аднак...**

РАШЭННЕ аб будаўніцтве так званай Беларускай АЭС прынята. Распрацоўкі даручаны Кіеўскаму аддзяленню інстытута «Атамэнергапраект». У раён вёсак Мяжа, Рамні, Хвошчына, што ў Гарадоцкім раёне, вышукальнікі зрабілі ўжо некалькі «вылазак»...

Значыць, будаўніцтва АЭС у паўсотні кіламетраў ад горада з 350-тысячным насельніцтвам — пытанне часу? Нічога, што побач, у Наваполацку, знаходзіцца буйны комплекс хімічнай і нафтахімічнай вытворчасці з павышанай небяспекай эксплуатацыі; што ўжо сёння выкіды шкодных рэчываў у атмасферу на кожнага навапалачаніна дасягнулі некалькі тон у год? Нікога не засмучае, што пытанне аб будаўніцтве АЭС зноў спрабуюць вырашаць келейна, без удзелу грамадскасці?! У справаздачы з вышэйназванай сустрэчы пытанне пра АЭС нават не згадвалася, не выйшаў у эфір і сюжэт, падрыхтаваны віцебскай студыяй тэлебачання. Затое на сустрэчы абласнога кіраўніцтва з жыхарамі (яна трансліравалася на рэспубліку) было абвешчана: на пытанні аб рабоце транспарту, будаўніцтве АЭС, забеспячэнні дамоў гарачай вадой адкажуць... у прыватным парадку.

Ці трэба казаць, што такія спробы схаваць праўду выклікаюць у людзей толькі недавер і трывогу?

НА ПРАЦЯГУ некалькіх апошніх гадоў жыхароў рэспублікі непакояць весткі аб будаўніцтве АЭС то ў адным, то ў другім раёне. Куды толькі не «закідвалі» станцыю праекціроўшчыкі! Але зручнага месца так і не знайшлі,— відаць, па прычыне немэтазгоднасці размяшчэння АЭС на тэрыторыі Беларусі. І заўсёды ведамствы дзейнічаюць у паўзмроку засакрэчанасці. У даведцы, што прыйшла з Кіева ў Віцебскі аблвыканком, праекціроўшчыкі прадставілі стос аргументаў на карысць будаўніцтва — досыць, праўда, сумніцельных (гаворка аб іх ніжэй). Але адзін з тэзісаў адразу выдае праекціроўшчыкаў, як кажуць, з галавой: «У тэхніка-эканамічным абгрунтаванні будаўніцтва Беларускай АЭС будзе разгледжана пытанне магчымасці і мэтазгоднасці цеплазабеспячэння рэгіёна і г. Віцебска ад гэтай электрастанцыі».

Хочацца запытацца: дык што ж ляжыць у аснове будаўніцтва АЭС: патрэбы рэспублікі альбо вузкаведамасныя інтарэсы? І чаму тэхнакраты з Мінатамэнерга СССР нацэліліся цяпер на Віцебскую вобласць?

Ну, як жа, адказваюць праекціроўшчыкі, «дэфіцыт генерыруючых магутнасцей Беларускай энергасістэмы на ўзроўні 1990 года ў рэспубліцы дасягне 12 мільярдаў квт. гадзін, а ў 2000 годзе складзе больш за 15 мільярдаў квт. гадзін». Што і казаць, уражваюць гэтыя «млрд». Але заўважу, што на Віцебшчыне цяпер размешчана палова энергакрыніц рэспублікі, агульная іх магутнасць больш як у два разы пераўзыходзіць патрэбы народнай гаспадаркі вобласці. А пасля ўводу новых энергаблокаў Лукомльскай станцыі магутнасці гэтых крыніц узрастуць яшчэ на сорак працэнтаў. Але дапусцім, што і гэтага будзе недастаткова. «Задавальненне патрэб народнай гаспадаркі рэспублікі ў забеспячэнні энергетычнымі рэсурсамі, з улікам указанага дэфіцыту, магчыма пры ўмове ўзвядзення ў БССР атамнай станцыі»,—сцвярджаюць галоўны інжынер Кіеўскага аддзялення «Атамэнергапраекта» Н. Шаўчэнка і галоўны інжынер праекта В. Пыжыкаў.

Аднак апошнім часам вучоныя ўсё настойлівей прапануюць звярнуць асаблівую ўвагу на ўдасканаленне тэхналогіі традыцыйных спосабаў вытворчасці электраэнергіі. Напрыклад, інжынер - энергетык А. Гаршкоў піша ў «Московских новостях», што страты пры здабыванні, захоўванні і транспарціроўцы аднаго толькі газу эквівалентныя выпрацоўцы электраэнергіі на ўсіх АЭС краіны! На думку ж акадэміка Л. Мяленцьева, сёння за кошт энергазберагаючых мерапрыемстваў можна было б прыкладна ў два разы скараціць вытворчасць першасных энергетычных рэсурсаў.

Як бачым, АЭС — не адзінае выйсце з магчымага энергетычнага крызісу.

Але праекціроўшчыкі прыводзяць усё новыя доказы на карысць свайго дзецішча.

Аказваецца, Гарадоччына проста самім госпадам створана для таго, каб пасадзіць тут ядзерны гігант, паколькі тутэйшыя мясціны маюць «нязначную шчыльнасць насельніцтва». Маўляў, раён не шматлюдны — чаму б не рызыкнуць?

ТАК, абязлюдзеў гэты край. Адны старыя і засталіся ў вёсках, і няма для іх ніякага «сервісу» ні пры жыцці, ні нават пасля смерці і, здараецца, родзічам самім даводзіцца надпісваць жалобныя стужкі на вянках. Ды што вянкі — у аддаленую вёсачку з лесапільні часам па бездарожжы немагчыма нават труну прывезці. А потым, калі апусцее апошняя хатка, прыходзяць магутныя бульдозеры, зразаюць хаціны і заворваюць дворышчы, прыхопліваючы, каб ужо не адкладваць на будучыню, і могілкі. І гуляе нелюдзімы вецер там, дзе гаманілі калісьці Бярозаўка і Кручок, Галаўні, Пуды і Шляпы...

Вогненным колам прайшлася па Гарадоччыне вайна. Але было яшчэ і раскулачванне з высылкай, і крывавы сталінскі тэрор, і голад, і бязглуздае гаспадаранне чыноўнікаў, апантаных псеўдавелічнымі задумамі. Калі ўжо ферму — дык не менш як на тысячу галоў. Калі жыллё будаваць — дык сабраць людзей з усяго наваколля ў адзін Вавілон—гэтак меней турбот і клопату, ды і кантроль ажыццяўляць прасцей. Перасяляюць не толькі жывых — нядаўна прапанавалі астанкі закатаваных немцамі партызан, што пахаваныя ля вёскі Наболецк, перавезці на брацкія могілкі ў Гарадок, каб у Дзень Перамогі адным разам усіх і ўшаноўваць. Чыноўніцкае глупства і амаральнасць мяжы не маюць...

Вось і прыдбаў наш некалі шматлюдны песенны край такую жаданую для энергетыкаў «нязначную шчыльнасць насельніцтва».

Між тым, толькі за апошнія дваццаць год на Віцебшчыне ўзведзена 38 буйных прамысловых прадпрыемстваў, што ўжо прывяло да рэзкага скарачэння працаздольнага насельніцтва ў вёсках. Да вайны на Гарадоччыне жыла 131 тысяча чалавек, цяпер — у чатыры разы меней. Ужо сёння дэфіцыт кадраў у гаспадарках вобласці складае 25 працэнтаў — і відавочна, што ўзвядзенне такога гіганта, як АЭС, праблему рабочых рук зробіць практычна невырашальнай...

ЯК ПРА каштоўны падарунак гавораць праекціроўшчыкі аб сацыяльнай інфраструктуры, якая складзецца ў рэгіёне АЭС пасля «будаўніцтва горада энергетыкаў з колькасцю насельніцтва парадку 50 тысяч чалавек, што запатрабуе будаўніцтва тут прадпрыемстваў сферы абслугоўвання, піянерлагераў, санаторыяў-прафілакторыяў, дарог, падсобных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, баз будіндустрыі і г. д.».

Гэткім чынам, у вялізную будаўнічую пляцоўку ператворыцца тыповы для беларускага Паазер'я раён, дзе прырода яшчэ нагадвае аб сваёй першароднасці. Ці хадзілі праекціроўшчыкі гэтымі крынічнымі лугамі, ці блукалі ў тутэйшых густалістых лясах, ці бачылі яны векавыя раскідзістыя дубровы? Відаць, не хадзілі, не бачылі. Інакш не сцвярджалі б, што на Гарадоччыне «зямельны фонд складзены малакаштоўнымі ўгоддзямі і лесам».

Хай прыедуць, паглядзяць. А калі не павераць на ўласныя вочы, могуць запытацца аб каштоўнасці «зямельнага фонду» ў эколагаў, заолагаў, батанікаў, іншых спецыялістаў.

Тыя скажуць, што асноўным паказчыкам захавання прыродных ландшафтаў з'яўляецца колькасць рэдкіх відаў раслін і жывёлы, і ў гэтым сэнсе Гарадоччына — сапраўды унікальны раён.

Ля вёскі Азяркі, напрыклад, — самая паўночная папуляцыя вадзянога арэха, чаліма. У гэтых лясах яшчэ водзіцца буры мядзведзь, яшчэ лётае арол-беркут і падпільноўвае сваю здабычу пугач. Раён Езярышча дзесяць гадоў назад стаў арніталагічным заказнікам як месца масавага скопішча гняздуючых і пералётных птушак.

Азёры тут месцяцца ў вярхоўях рэк і таму лічацца вадаёмамі самага вышэйшага класа. Нерастуе вугор. У Ловаці — там, дзе яна спалучаецца з Мяжой,— плёскаюцца судак і лешч.

Словам, прырода пакуль яшчэ трывае. Нават больш таго, на думку спецыялістаў, Гарадоччына — адзіны эталонны раён, які няўхільна сам сябе аднаўляе. Таму і прапануюць заолагі з АН БССР стварыць тут комплексны прыродны заказнік.

Затое праекціроўшчыкі прыводзяць чарговы аргумент: вельмі ўжо выгадны гэты раён для водазабеспячэння АЭС пры правядзенні «адпаведных інжынерных мерапрыемстваў па яго дадатковай падпітцы ў вясновавосеньскі перыяд з ракі Заходняя Дзвіна ў аб'ёме да 300 мільёнаў кубічных метраў у год». Летась «ЛіМ» пісаў аб магчымых выніках затаплення вялікай тэрыторыі Беларусі і Латвіі пры ўмове будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС. Цяпер — пагроза абмялення. Ды якога!

Колькі год назад у тым жа Гарадоцкім раёне ўжо распачалі «інжынерныя мерапрыемствы» непараўнальна меншага размаху — стварылі меліярацыйны комплекс, і маляўнічыя рачулкі Чарноўка і Бернаўка засталіся толькі на старых картах. Ссохла трава, завялі дрэвы, а пасярод вёскі Селішча ўтварылася смярдзючае балота, на якое баяцца садзіцца нават дзікія качкі. А ўявіце, калі з і без таго абмялелай, санлівай Дзвіны штогод выкочваць сотні мільёнаў кубаметраў вады! Падзенне грунтовых вод, змяненне гідралагічнага рэжыму мясцовасці, канчатковы заняпад пашавых земляў зробяцца першай, але яшчэ ці не самай паблажлівай помстай за вузкаведамасную непрадбачнасць.

ДВА ГАДЫ назад дырэктар мясцовага саўгаса загадаў пабудаваць сховішча для камбікармоў на месцы старажытнай стаянкі, унесенай у Збор помнікаў і пазначанай IX тысячагоддзем да нашай эры. Выпадак не адзіны — нядаўна ў гэтым жа раёне начальнік МПМК распарадзіўся знішчыць гарадзішча двухтысячнай даўніны, бо спатрэбіўся пясочак для будаўніцтва свінакомплексу. Узбудзілі крымінальную справу, але замест пакарання начальнік атрымаў... Грамату Вярхоўнага Савета рэспублікі. За ўдарныя тэмпы работ.

Зусім недалёка ад Мяжы вёска Рамні, дзе стаіць адзіны ў гэтых мясцінах помнік дойлідства XVIII стагоддзя — драўляны касцёл. На нейкія гаспадарчыя патрэбы разабралі бярвенне з рызніцы, і ў спякотны дзень сюды, нібы ў стайню, заводзяць коней...

Быў раён песенным краем, ды забыліся тыя песні. Славілася Гарадоччына і майстрамі — плялі кошыкі з дранкі, рабілі



З раскіданага гнязда... Фота Я. КАЗЮЛІ

вышыванкі і карункі, а якія глякі выходзілі з ганчарных колаў! Але ў раённым краязнаўчым музеі аддзел народнага мастацтва вельмі бедны. Як зубры і бабры, занесены ў «чырвоную кнігу» мастацкіх рамёстваў кавальства і апрацоўка скуры, бандарніцтва і пляценне з бяросты. Усё радзей бярэцца за гліну і вядомы на ўсю рэспубліку ганчар Уладзімір Іосіфавіч Татарыс:

— Нядаўна, як быў фестываль польскай песні, ладзілі ў Віцебску кірмаш для гасцей. Завезлі мяне на завод дрэнажных труб, ну, я ім крутануў колькі глякоў і жбанкоў. Паказаў. А ў Гарадку звычайным ганчарствам ніхто ўжо не займаецца, не. У трыццатых жа гадах забаранілі народныя промыслы як дробнабуржуазныя, цяпер у нас ёсць толькі вялікі ганчарны цэх. Робяць вазончыкі для зелянгаса.

Але ці не наблытаў аўтар, выпадкова змясціўшы ў сваім артыкуле старонкі пра нейкія касцёлы і выкапнёвыя жбанкі?

Не, не пераблытаў. Для ўзвядзення АЭС і яе далейшага абслугоўвання пабудуюць вялікі горад. Вышэй гаварылася пра катастрафічны дэфіцыт працоўных рэсурсаў у вобласці, ды і рэспубліка не здолее забяспечыць столькі рабочай сілы. «А мы вам з-за мяжы рэспублікі прывязём», — чую гатовы адказ ініцыятараў будаўніцтва. Але—каго прывязуць? Зразумела, што высокакласных спецыялістаў-атамшчыкаў будзе абсалютная меншасць, у асноўным жа прыедуць так званыя «перакаці-поле», для якіх і гэтая зямля — не зямля, а так, будпляцоўка альбо месца для жыхарства.

Чым пагражае яшчэ адзін новы гігант Віцебшчыне? На карту, думаецца, ставяцца не толькі унікальныя ландшафты, жывёльны і раслінны свет, не толькі старажытныя курганы. але і песня, і спрадвечнае народнае слова — усё, што складае паняцце нацыянальнай адметнасці, карацей кажучы, этнасу.

ІСНУЕ і яшчэ адзін аспект праблемы — маральна-псіхалагічны. Мы перажылі чарнобыльскі выбух. Тады, памятаеце, найбольш страшыла невядомасць: дзесяткі трывожных пытанняў заставалася без адказу. Некаторыя з іх не зняты і па сённяшні дзень.

Таму ў нас ёсць рэальныя падставы і поўнае права запытацца ў праекціроўшчыкаў: ці не паўторыцца калі-небудзь зноў красавік-86?

Відаць, зусім не лішне прыслухацца да тых, хто раіць, хоць бы ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі адмовіцца ад будаўніцтва АЭС, як зрабілі гэта ЗША, ФРГ, Канада, Англія, Швецыя. Бельгія, Іспанія. Бо дагэтуль не вырашана праблема абсалютна бяспечнага пахавання ядзерных адходаў. Сапраўды, перыяд поўнага распаду радыеактыўных шлакаў складае ад 10 да 24 тысяч гадоў, за такі час любы кантэйнер можа пераўтварыцца ў труху — гэта ўсё роўна, як гасіць вуголлі паперай.

І, нарэшце, «надзвычайныя выпадкі». Падлічана ж, што адных толькі пажараў на АЭС свету здараецца па 45 у год. Апошні — на Ігналінскай; гэтым разам сістэма блакіроўкі спрацавала. А калі б не? Неяк мне распавядалі, што, каб пабудаваць праз дарогу незапланаваны падземны пераход, трэба, каб у гэтым месцы загінула пэўная колькасць пешаходаў...

Здавалася, пасля чарнобыльскай трагедыі мы назаўсёды адкінем валюнтарызм, тэхнакратычнае мысленне, ведамаснае самаўпраўства і прагматычную недалёкасць. Ці добра засвоілі мы цяжкі ўрок? Праз якія яшчэ выпрабаванні нам трэба прайсці, каб нарэшце спыніцца і ўбачыць мяжу, за якой пачынаецца «зона»?

# Веліч яго здзяйсненняў

**Генадзь ЛЕБЕДЗЕЎ**




**З нагоды выхаду ў свет зборніка дакументаў пра жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны**

Шматлікіх беларускіх, а часткова рускіх і замежных чытачоў не можа не зацікавіць выданне гэтай кнігі. Яна складаецца з дзвюх паасобных частак: зборніка познелацінскіх, польскіх, чэшскіх, нямецкіх, французскіх, англійскіх, старабеларускіх і старадаўніх дакументаў, перакладаў іх на сучасныя беларускую і рускую мовы, каментарыяў да іх, а таксама зводнага каталога і апісання выданняў Ф. Скарыны.

Зводны каталог і апісанне выданняў зроблены доктарам гістарычных навук, вядомым кнігазнаўцам — гісторыкам Я. Л. Неміроўскім, які працуе загадчыкам аддзела рэдкіх кніг Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна ў Маскве. Ён шмат гадоў займаўся вывучэннем і навукова-кнігазнаўчым апісаннем месцазнаходжання ў бібліятэках і кнігасховішчах усяго свету старадаўніх кніг, выдадзеных Ф. Скарынам. У мінулыя гады ўжо з'яўлялася ў друку некалькі яго прац на гэтую ж тэму.

Цяперашні каталог—вяршыня яго навуковых намаганняў па адшуканні ўсіх дадзеных аб сапраўдных кнігах Скарыны. У ім адзначаны, а вельмі часта — пры наяўнасці доступу да іх — дасканала апісаны ўсе вядомыя ў наш час экземпляры паасобных і сканвалютаваных у пазнейшыя часы ў тамы — падборкі выданняў беларускага першадрукара. Прычым даволі многія экземпляры, аб якіх калісьці з'явіліся звесткі ў друку, зараз згубіліся і адзначаны пад рубрыкай «месцазнаходжанне невядома». Старадрукі знікаюць з поля зроку нават настойлівых каталагізатараў і гінуць. З часоў адшукання ў сярэдзіне мінулага стагоддзя скарынінскага «Псалтыра» ніводнай раней невядомай яго кнігі пакуль не знойдзена.

Зводны каталог Я. Л. Неміроўскага ўносіць амаль канчатковую яснасць: цяпер скарыназнаўцы могуць без асаблівых намаганняў ведаць, дзе захаваліся тыя ці іншыя прадмовы, пераклады, арыгінальныя тэксты, гравюры, арнаменты са скарынінскай спадчыны.

Складальнік каталога заўсёды адзначае, у якіх экземплярах замест сапраўдных лістоў уведзены рукапісныя факсімільныя ці прымітыўныя копіі. Дзе захаваліся сапраўдныя партрэты Скарыны, а дзе замест іх уведзены друкаваныя копіі пачатку XIX ст. гравёра на метале А. Флорава. Адзначана і замена гравюр на дрэве малюнкамі ад рукі.

Усё гэта павінна канкрэтызаваць вывучэнне скарынінскай спадчыны, адасобіць яе ад пазнейшых падробак. А гэта — надзвычай важны момант. Бо яшчэ зусім нядаўна, напрыклад, пры выданні кнігі «Гравюры Францыска Скарыны» пад выглядам яго старадаўняй работы была надрукавана адна позняя копія з яго партрэта побач з сапраўднымі варыянтамі гэтага партрэта.

Гаворка нездарма адразу пайшла аб другой частцы кнігі. Яна выканана на высокім навуковым узроўні. І нават на дробныя друкарскія хібы можна не звяртаць увагі.

Папярэдняя ж частка — першы ў скарыназнаўстве збор дакументаў і літаратурных паведамленняў — патрабуе да сябе *асабліва ўважлівых і неадназначных* адносін.

Гэты «Зборнік» — значная падзея ў скарыназнаўстве. Бо раней усе дакументы і матэрыялы былі раскіданы па дзесятках замежных і айчынных выданняў, многія з якіх сталі ўжо бібліяграфічнай рэдкасцю. Некаторыя дакументы наогул не былі надрукаваны і захоўваліся ў архівах. Скарыназнаўцы ў большасці выпадкаў не маглі ахапіць цалкам усе існуючыя звесткі пра Скарыну. З-за гэтага іншы раз узнікалі памылковыя версіі. У той час, які пра сутнасць справы можна было б даведацца зусім дакладна.

Укладальнік «Зборніка» В. І. Дарашкевіч відавочна імкнуўся сабраць усе захаваныя да нашага часу дакументы і паведамленні пра Скарыну, у тым ліку і такія, якія вельмі праблематычна могуць быць звязаны з ім, яго блізкімі, абставінамі іх жыцця.

У гэтым напрамку зроблена шмат. Асабліва ў тым, што датычыць роду Скарынаў. Да скарыназнаўства зараз далучаны звесткі пра 9 прадстаўнікоў гэтага роду або людзей з такімі ж прозвішчамі.

Але чамусьці не выкарыстаны звесткі пра сына Ф. Скарыны — Сімяона Руса з чэшскай крыніцы: «Гісторыі горада Індржыхава Грацца» Ф. Тэплага, якія адносяцца да 1563 г. — да прыезду Сімяона на радзіму. Не выкарыстаны звесткі з той жа кнігі аб прыездзе ўнука Ф. Скарыны — ужо «чэшскага суконніка»— у Вільню ў 1612 г. Яшчэ цікавей было б адшукаць першакрыніцы, з якіх чэрпаў звесткі даўні краязнаўца Тэплы.

Што датычыць наогул роду Скарынаў, дык усе ўпэўнены, што ён паходзіў з Полацка, як і сам Ф. Скарына. Але з некаторых старарускіх дакументаў, якія таксама абыдзены ўвагай укладальніка (яны надрукаваны ў кн.: «Акты Русского государства 1505 — 1526 гг.», М., 1975), можна даведацца, што ў Бежацкім Версе (цяпер у Калінінскай вобл. РСФСР) было ў XV—XVI стст. сяло «Скорыновское» і вобласць «вся Скорыновская» (sic!). А таксама, што ў Рускай дзяржаве ў пачатку XVI ст. жылі Скарыны: «Теренти Матьфеевъ сынъ Скорина» (1511 г.), селянін «Васюк Скориновъской» (1525 г. ) і інш.

Таксама незразумела, чаму не выкарыстаны матэрыялы з «Полацкіх грамат XIII—пачатку XVI ст.», карпатліва сабраныя гісторыкам А. Л. Харашкевіч. Там ёсць дадатковыя звесткі аб Гафоне (Агафоне) Пракоп'еве сыне Пасадніковіча, які ў час вайны 1492 г. разам з бацькам Скарыны ўдзельнічаў у нападзе на велікалуцкага купца. Ёсць там і шмат іншых цікавых матэрыялаў пра жыццё палачан у канцы XV — пачатку XVI ст., якія маглі б і пашырыць веды пра дзяцінства Скарыны.

Не звярнуў увагі ўкладальнік «Зборніка» і на такую вельмі важную крыніцу, як першы «Попіс войска 1528 г.» («Русская историческая библиотека», т. 33. Литовская Метрика, отд. 1, ч. III, II гр., 1915, с. 194—196). А там адзначаны людзі, *пра якіх ідзе гаворка* ў іншых дакументах, уключаных у «Зборнік»: «То реистръ земли Полоцкое... Мещанъ Полоцкихъ люди. Выслуга и купля ихъ... Еско, конь.. Иванъ Скорникъ, конь. Васко Овсяниковичъ, 2 кони». Гэта — кароткія і паспешлівыя запісы пра абавязковую адпраўку ўзброеных коннікаў у войска. Пісары так спяшаліся, што нават прозвішчы некаторых полацкіх жыхароў не адзначылі, запісаўшы толькі «мещане, конь». Па нормах, адзначаных у «Попісе», з кожных залежных 8 сялянскіх «дымоў» выстаўляўся 1 коннік. Прыкладна 90 сямействаў полацкіх мяшчан мелі гэты абавязак. Але не таму, што жылі ў гэтым горадзе. У Полацкай зямлі да канца XIV ст. яшчэ не было буйных феадалаў, як у іншых землях Беларусі. А гэтыя гараджане валодалі нароўні з тутэйшымі баярамі — шляхтай — «именьями» пад Полацкам з невялікай колькасцю феадальна-залежных, або вольных-пахожых, але аселых сялян. (Пічэта У. Полацкая зямля ў пачатку XVI ст. — Чатырохсотлецце беларускага друку. Менск, 1926, с. 90). «Иван Скорник»— гэта, напэўна, брат Францыска Скарыны. Ён сапраўды нароўні з Францыскам валодаў невялічкім «именьем» на Полаччыне, хоць жыў у Вільні. Двойчы доктар Францыск, па ўсеагульнай традыцыі, быў вызвалены ад вайсковай павіннасці.

Першыя звесткі пра ўладанне братоў Скарынаў з'явіліся роўна сто гадоў назад, калі ў дадатку да кнігі П. У. Уладзімірава («Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык». СПБ., 1888) былі надрукаваны 2 дакументы 1535 г. пра судовую спрэчку паміж зяцямі нябожчыка Івана Скарыны. З іх вынікала, што Іван і Францыск раней валодалі на правах паўфеадалаў кавалкам зямлі дзесьці на Полаччыне з залежнымі сялянамі. Затым гэтыя дакументы былі зноў надрукаваны ў «Беларускім архіве» (т. 2. Мн., 1928, с. 263—264). Але пазней пра іх амаль не ўпаміналася ў скарыназнаўстве. Ніхто не рызыкаваў верыць, што гэта было сапраўднае феадальнае ўладанне, хоць і невялікае — прыкладна на 8 сялянскіх «дымоў» — звычайная вёсачка на Полаччыне.

Цяпер дакументы судовай спрэчкі ад 1535 г. зноў надрукаваны ў «Зборніку». Але ў каментарыі да іх В. І. Дарашкевіч чамусьці па-ранейшаму невыразна адзначае: «З іх відаць, што ў Полацку засталася маёмасць Францыска Скарыны, якой карысталіся наследнікі нябожчыка Івана Скарыны» (с. 315). Ці ўся тут праўда пра Скарыну і яго сваякоў? З іншай публікацыі «Зборніка», урыўкаў з «Полацкай рэвізіі 1552 г.» вынікае, што род Скарынаў абавязаны быў раманатаваць адну з гародняў у сцяне вакол горада. Побач з ёю — гародні ўладальнікаў зямель на Асвейшчыне і каля возера Няшчэрда. Можна меркаваць, што і Скарыны валодалі «именьем» дзесьці на поўначы Полацкай зямлі. А з наступнага ўрыўка з той жа «Рэвізіі 1552 г.» вынікае, што Еска Сцяпанавіч — зяць Івана Скарыны — і Марка Міхнавіч — відаць, сын другога зяця Міхны Аўсяннікава — «маюць именье село Тройдевичы,.. дворец с пашнею. К тому дворцу людей волных дымов тры; с тых людей прыходеть им со всякого збожа четьвертая часть. В том же именю мають дерево бортное и ловы. Ку службе земской коня ставять» (с. 52). Дык вось якая «маёмасць» зусім не ў Полацку раней належала Івану і Францыску Скарынам! «Именье» — гэта не маёмасць, а маёнтак.

Дзе цяпер тое сяло Тройдзевічы? Аказваецца, у кнізе Я. Н. Рапановіча «Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці» (Мн., 1977) такой назвы ўжо няма. Але калі шукаць на поўнач ад Полацка, дык там ёсць вёска Тродзвічы ў саўгасе «Краснаполле» ў Расонскім раёне, дарэчы, недалёка ад возера Няшчэрда. Сувязь абедзвюх назваў яшчэ трэба высветліць больш дакладна.

Некаторая частка з матэрыялаў, што надрукаваны ў «Зборніку», выклікае вялікія сумненні. Перш за ўсё гэта датычыць распаўсюджанай звесткі аб тым, што ў 1504 г. Скарына (а можа, зусім не ён?) запісаўся ў Кракаўскі універсітэт. Гэты старадаўні запіс быў адшуканы і выпісаны С. А. Пташыцкім, а затым перададзены П. У. Уладзіміраву. Так ён трапіў у скарыназнаўства. Тады вучоныя спадзяваліся, што адна відавочная *неадпаведнасць* у ім — вынік недакладнага чытання. Цяпер стала ясна, што неадпаведнасць не знікла і што гаворка ідзе аб «Францыску (сыне) Лукі з Плоцка» — зусім не з Полацка: у старым лацінскім запісе стаіць «de Ploczko» (з Плоцка). А *пры* перакладзе на беларускую і рускую мовы ў «Зборніку» дададзена ад сябе: «з П(о)лацка». Гэта—ужо падтасоўка, якую невядома чым апраўдаць.Ператвараць Плоцк у Полацк можна толькі, заплюшчыўшы вочы на геаграфію. А студэнты з польскай Плоцкай дыяцэзіі кожны год па аднаму запісваліся ў Кракаўскую вышэйшую школу. Яна, дарэчы, у тыя далёкія часы называлася акадэміяй.

З апублікаваных А. Хмелем запісаў на вучобу ў гэтай акадэміі за 1490 — 1515 гг. вынікае: 1500 г.— Маціас (сын) Альберта з Плоцка, 1501 г. —Лукас (сын) Мацея з Плоцка, 1502 г.— Барталамеус (сын) Марціна з Плоцка, 1503 г.— Іаннес (сын) Мікалая з Плоншка (гэты Плонск паблізу Плоцка). 1504 г. — Францыскус (сын) Лукі з Плоцка, і г. д. і г. д.

(Заканчэнне на стар. 6—7).

Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Мн., «Навука і тэхніка», 1988.

*Крытыка, бібліяграфія*

# СПАСЦІЖЭННЕ

**Алена РУЦКАЯ. Роздум. Вершы, паэма. Мінск, «Мастацкая літаратура». 1988.**

Многія нашы пісьменнікі пачыналі з настаўніцкай працы, ішлі па шляху, пракладзеным Я. Коласам, Я. Маўрам. Цвёрда ступіла на гэты шлях і паэтэса Алена Руцкая, разумеючы ўсю адказнасць і значнасць яго.

**Твая нялёгкая справа**
**Жыццё адкрываць другому, —**

скажа яна ў вершы «Настаўніку», вершы-звароце да сябе і да тых, хто побач.

Пра заслужаную настаўніцу Беларускай ССР Алену Віктараўну Руцкую з добрай увагай расказаў А. Сачанка ў нарысе «Урок роднага слова» («Маладосць», 1987, № 8). А мы сёння пагаворым пра яе паэтычную творчасць, тым больш, што ёсць нагода: выйшаў з друку яе другі зборнік «Роздум» (першы — «Надзея» — у калектыўнай кніжцы «Сцяжына», 1983).

Другі зборнік Алены Руцкай багацейшы па зместу, шырэйшы па ахопу жыццёвых з'яў, больш разнастайны па жанры і стылі. Асноўны раздзел яго—лірыка, затым ідзе паэма і, нарэшце, гумарэскі і сатырычныя вершы. Што да лірыкі, то тут мы знойдзем вершы грамадзянска-патрыятычнага гучання, прырода-апісальныя, інтымныя, роздумныя, суаднесеныя з фальклорам. Знойдзем і розныя прыёмы і спосабы раскрыцця грамадзянскай тэмы: размову з часам («Непадкупны, суровы час, ты ніколі не быў лагодным»), непасрэдны зварот да герояў і ахвяр Айчыннай вайны («Прыміце ж ад мяне зямны паклон»), услаўленне «адданых, легендарных камісараў». І ўсё ж гэтым вершам не хапае канкрэтных жыццёвых рэалій; яны найбольш агульныя ў кнізе і беднаватыя па вобразным выяўленні. Цяжка гаварыць ад імя пакалення і знаходзіць для гэтага непаўторныя словы і вобразы.

Найбольш хвалююць у кнізе вершы не прамоўніцкія, а спавядальныя, непасрэдна звязаныя з асобай аўтаркі, яе перажываннямі, надзеямі, сумненнямі...

Ёсць думка, што асаблівасці «жаночай паэзіі» выразна выяўляюцца толькі ў вершах пра каханне. Гэта ўсё ж не так. Мацярынства, побыт, выхаванне, прырода, адносіны паміж людзьмі — усюды псіхалогія жанчыны раскрываецца па-свойму. Гэта абумоўлена і прыроднымі, і сацыяльнымі варункамі.

Гераіня А. Руцкай — сучасная жанчына, актыўная ў грамадскім жыцці, улюбёная ў сваю прафесію, здольная думаць шырока і самастойна. Паэтэса не перадае свой голас і лірычнай гераіні, як гэта часам бывае ў іншых. Усюды, ва ўсіх сваіх творах жыве і дзейнічае, сумуе і спадзяецца яна сама. З уласным лёсам і светабачаннем. З пэўным месцам жыхарства («Слоніму», «Вуліцы роднага горада»). З патрыятычным абавязкам самаадданa працаваць, вучыць дзяцей любові да роднай мовы, да роднага краю («Настаўніку»).

Каханне ў А. Руцкай няпростае, драматычнае, «на мяжы расстанняў і сустрэч», як у той песні.

**Мабыць, не з тваёй краіны мар**
**Я прыйшла ў сустрэчы і**
**расстанні;**
**Можа, спадабаўся толькі твар —**
**Сэрцы нашы блізкімі не сталі.**

Прага поўнай гармоніі дваіх і немагчымасць яе дасягнуць у сучасным супярэчлівым свеце, сум і пакуты, пераадоленне горычы і вяртанне да жыцця і барацьбы — такія грані тэмы кахання ў паэтэсы. Яна не можа-прымірыць рамантычнае парыванне з халоднай развагай, прыняць «пачуццё, нібыта ў паядынку», прыгожую мару палічыць за сапраўднасць.

Паэтэса ўмее адчуць і перадаць пераходны стан душы, трапяткое пачуццё і пераход яго ў іншую якасць.

Яна любіць пераходныя поры года: вясну і восень. Нават уласны характар упадабняецца зменлівай восені («То зарападам іскрыстым бліснe, то халадком прымарозіць»). Жыццё ўспрымаецца А. Руцкай як працэс, як бясконцасць. У ім шмат неразгаданых загадак, няпройдзеных дарог, нечаканых дзівосаў. Яно кліча ў прасцяг, нараджае трывогі, прадчуванні. Часам яе пошук не мае ясных абрысаў. У аснове яго ідэальнае, рамантычнае, як у гэтай мініяцюры:

**Восень рыжымі вачамі**
**Паглядае з-за ракі.**
**Я шукаю зорны камень.**
**Адкажыце, ёсць такі?**

**Мо няма такога цуда. —**
**Выдумала ўсё сама?**
**Ды шукаць ўсё роўна буду,**
**Адгаворваць вам — дарма!**

Затое ў вершах «Шукаю ў сэрцы кожным», «Як навучыцца...» маральныя каштоўнасці, вартыя паэтызацыі, названы зусім пэўна.

Паэзія А. Руцкай трымае сувязь з фальклорам, не абыходзіць прымаўку. Але чамусьці фальклорныя матывы звязваюцца ў яе часцей за ўсё з вобразамі бабулек, іх варажбою пра будучы лёс унукаў, казкамі і калыханкамі, якія помняцца з дзяцінства. Значнага ўплыву на паэтычны стыль яны не аказваюць.

Рамантычная ў сваёй аснове паэзія А. Руцкай не хоча заглыбляцца ў падрабязнасці побыту, дакучлівай будзёншчыны. У супастаўленні быту і быцця А. Руцкая аддае перавагу апошняму.

Не ўсе вершы А. Руцкай аднолькавыя па майстэрству, ёсць лепшыя і горшыя. Але хочацца звярнуць увагу на яе ўдачы, на арганічную сувязь зместу і стылю, на музычнасць іх. Які цэласны, «чысты», напісаны на адным дыханні яе верш «Першы снег». Паслухаем яго...

**Так незвычайна падаў першы**
**снег,**
**Няспешна апускаўся,**
**урачыста.**

**Блакітнаваты,**
**асляпляльна чысты**
**І незваротны,**
**як імгненняў бег.**
**Ён падаў у рухомай цішыні,**
**Гучаў узнёслай музыкай**
**аргана —**
**Хвалююча,**
**трывожна,**
**раскавана,**
**Сняжынкі лёгка гукамі плылі.**
**Бязважка ападала чысціня**
**На слоту**
**і асклізлую макрэчу, —**
**Ахвяравальна,**
**шчодра**
**і адвечна,**
**Як у імя аднаўленага дня.**

Можна згадаць вершы «Зорны камень», «Бабіна лета», «Часам марна цягнецца дзень». Прыемна, што паэтэса добра адчувае паэтычнае ў самім жыцці, умее яго знаходзіць.

Алена Руцкая зрабіла спробу і ў жанры паэмы, адчула патрэбу шырэй глянуць на сваю радаводную. Паэма так і называецца «Вытокі». Задума яе добра раскрываецца ва ўступе.

**Адкуль жа вы,**
**мае вытокі,**
**Мой род: дзяды, бацькі?**
**Мой лёс імклівы**
**крок за крокам**
**Адмервалі вякі.**

Далейшы працяг твора і ёсць адказ на гэта пытанне. Тры апавядальныя фрагменты, тры лёсы жанчын-папярэдніц і складаюць асобныя часткі твора. Апавяданне пра жыццёвыя лёсы жанчын самі па сабе цікавыя, але гэтага яшчэ малавата для паэмы як вельмі складанай, сінтэтычнай літаратурнай формы. Надта расцягнутая ў часе, яна недастаткова напоўнена багаццем зместу, а пад канец і зусім пайшла на спад. Увогуле маладыя аўтары не адважваюцца брацца за паэму. Удач на гэтым шляху ў іх пакуль што мала. А. Руцкая зрабіла першы крок да эпасу. І гэта ўжо добра.

**Я ў няспынным счэпе**
**звенняў —**
**Часцінкаю звяна, —**

сказана ва ўступе. Такі пасыл можа даць разгон для многіх твораў. Важна толькі знайсці адпаведны падыход.

Заключны раздзел зборніка «Роздум» — вершаваныя гумарэскі, сатырычныя вершы. Трэба адразу сказаць, што ў Алены Руцкай ёсць нахіл да сатырычнай творчасці, хаця ў жанчын-паэтэс гэта бывае рэдка. З беларускіх пісьменніц толькі ў Нэлі Тулупавай здольнасць да сатыры праявілася найбольш выразна, як доказ таго—яе кніжка ў бібліятэчцы «Вожыка». Удаліся многія сатырычныя і гумарыстычныя вершы і Алене Руцкай. Яны закранаюць розныя пытанні жыцця, чалавечых характараў і паводзін, выкрываюць адмоўныя з'явы: падхалімства, угодніцтва, пагоню за модай, няшчырасць. Асабліва неабходны шчырасць і ўзаемапавага ў няпростым сямейным жыцці, не будзе гэтага — не будзе згоды і ладу. І чужыя падказкі тут могуць быць шкоднымі («Парады»).

Дзве крайнія грані паэзіі — лірыка і сатыра — падуладныя пяру Алены Руцкай, што і засведчыў яе зборнік «Роздум».

**Марына БАРСТОК.**

# Веліч яго здзяйсненняў

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).**

(«Album studiosorum universitatis Cracoviensis», t II. fosc. I: Ab anno 1490 ad annum 1515. Ed. A. Chmiel. Cracoviae, 1892, pp. 61, 71, 78, 84, 91).* На якой падставе запіс ад 1504 г. аб мазаўшаніне з Плоцка можна ператварыць у запіс аб «русіне» ці «літвіне» Ф. Скарыне з Полацка, пакуль не зразумела.

Але Скарына вучыўся ў Кракаўскай акадэміі. Аб гэтым сведчыць актавы запіс ад 1506 г., які, дарэчы, з усімі падрабязнасцямі і ўдакладненнем даты надрукаваны і перакладзены ў «Зборніку». Ён сведчыць, што 14 снежня 1506 г. «Фран. з Полацка, літвін» атрымаў у Кракаве ступень бакалаўра «свабодных мастацтваў». Фактычна, гэта пакуль першая вяха ў біяграфіі Ф. Скарыны. Але атрыманне першай вучонай ступені — гэта ўжо не вучоба на «артыстычным» факультэце. Тым не менш, новая публікацыя гэтага запісу, дзякуючы сваёй падрабязнасці, дае цяпер канкрэтнае пацвярджэнне таго, што Скарына напярэдадні быў студэнтам Кракаўскай акадэміі. Там быў адзначаны адзін бакалаўр, які атрымаў ступень у Кёльнскім універсітэце і павінен быў пацвердзіць гэта ў Кракаве. Усе астатнія, у тым ліку і Ф. Скарына, не мелі патрэбы ў пацвярджэннях, а значыць, вучыліся тут жа.

Напэўна, Скарына паступіў у акадэмію значна раней 1504 г. Некаторыя сучасныя даследчыкі павярхоўна ставяцца да працэсу вучобы ў сярэдневяковай вышэйшай школе. Напрыклад, С. А. Падокшын ужо паставіў пад сумненне актавы запіс аб Скарыне ад 1506 г. Ён лічыць, што там дастаткова было правучыцца 2 гады, каб атрымаць ступень магістра. (Подокшин С. А. Франциск Скорина. Мыслители прошлого. М., 1981).

Але звернемся да фактаў, бо гэта — больш-менш надзейныя крыніцы сучасных ведаў пра той час. Напрыклад, будучы прафесар-медык Кракаўскай акадэміі Мікалай з Вялічкі Малодшы (пам. у 1559) быў запісаны ў матрыкулу акадэміі ў 1503 г. І толькі ў 1508 г. ён стаў бакалаўрам мастацтваў, у 1513 г.— магістрам. З 1508 г. ён вучыўся на факультэце медыцыны, паралельна выкладаючы на факультэце «свабодных мастацтваў». У 1515 г. паехаў у Балонню і там 13 жніўня 1516 г. атрымаў ступень доктара медыцыны. У Кракаў вярнуўся ў 1518 г. Другі будучы прафесар медыцыны і астралогіі Мікалай з Тулішкова (памёр каля 1534) запісаўся на вучобу ў акадэмію ў 1492 г. Бакалаўрам мастацтваў стаў у 1500 г., затым у 1503 г. атрымаў ступень магістра мастацтваў. І толькі ў 1513 г. — ступень бакалаўра медыцыны.

Сучасныя польскія даследчыкі адносяцца да сярэдневяковай вучобы не так павярхоўна, як іх папярэднікі. Яны прыходзяць да высновы, што вучоба на факультэце «свабодных мастацтваў» пяць і нават восем гадоў была звычайнай для тых, хто жадаў дасягнуць вучоных ступеняў. А прыведзеныя прыклады — з біяграфій тых, хто дасягнуў вышэйшых вучоных ступеняў, як і Ф. Скарына.

Час нараджэння Ф. Скарыны таксама пакуль што не высветлены. У большасці кніг пра яго жыццё і дзейнасць прыводзіцца прыблізная дата: каля 1490. Яна выведзена простым адлікам 14 гадоў ад сумніцельнай даты яго паступлення ў акадэмію: 1504 г. Існуюць і іншыя гіпатэтычныя даты: А. Н. Ясінскага—70-я гг. XV ст., М. М. Шчакаціхіна — 1486 г., В. В. Чапко і А. П. Грыцкевіча — 80-я гг. XV ст., М. Г. Булахава — паміж 1485—1490 гг.

Але нашы даследчыкі яшчэ не звярнулі ўвагі на працы двух вядомых чэшскіх вучоных, якія дасягнулі аб'ектыўных вынікаў у вызначэнні невядомых дат нараджэння сярэдневяковых дзеячаў навукі. Прафесар-медык і рэктар Пражскага універсітэта А.-Я. Юнгман (1775—1854), даследаваўшы сярэдневяковы універсітэцкі статут, які быў распаўсюджаны ў Цэнтральнай Еўропе, высветліў узрост студэнта, пры якім ён мог быць узведзены ў бакалаўры. Гэты ўзрост — не менш 22—24 гадоў. Пазней другі чэшскі вучоны Г. Гелнер таксама пісаў: «З даты дасягнення бакалаўрскай ступені можна прыблізна выводзіць год, калі... нарадзіўся. Згодна са старым універсітэцкім статутам бакалаўр павінен быў мець 22—24 гады».

Відавочна, так было і ў Кракаве. Бо ў 1400 г. тамтэйшы універсітэт быў рэарганізаваны па ўзросту Парыжскай Сарбоны і Пражскага універсітэта (яшчэ дагусіцкага).

У такім выпадку, Ф. Скарына нарадзіўся каля 1482—1484 гг. А ў актавых запісах Падуанскага універсітэта за 1512 г. Ф. Скарына названы «маладым чалавекам», «вучонейшым маладым доктарам мастацтваў». У каментарыях да «Зборніка» В. І. Дарашкевіч адзначае, што Скарыне тады было не больш 30-ці. Значыць, ён нарадзіўся недзе каля 1482 г.

У прадмове да «Зборніка» (аўтар В. І. Дарашкевіч) без усялякіх на тое падстаў паўтараецца літаратурная версія апошніх дзесяцігоддзяў, якая пайшла «гуляць» па кнігах ад С. К. Майхровіча: «З 1507 па 1512 г. малады вучоны (бакалаўр Скарына. — **Г. Л.**) падарожнічаў па краінах Еўропы, паглыбляў свае веды..., і ў адным з еўрапейскіх універсітэтаў, магчыма, у Пражскім, ён атрымаў вышэйшую вучоную ступень — доктара свабодных навук». Зазначым, што гэта — нават не версія, а нешта зусім фантастычнае. У Празе з часоў гусіцкага руху універсітэт стаў утраквісцкім. Там зусім не стала медыцынскага факультэта, а на факультэце artium вышэйшай была ступень магістра. Магістры, а не дактары там станавіліся прафесарамі. Замежных дактароў навук не прымалі з-за канфесіянальных разыходжанняў. Медыцынскі факультэт там адноўлены толькі ў 1611 г. Ранняя сувязь Скарыны з Прагай адпадае...

З нагоды ўзнікнення і распаўсюджання легенды аб падарожжах Скарыны пасля 1506 г., трэба звярнуць увагу на двухступенчатасць вучобы ў Кракаўскай акадэміі. Дарэчы, Ф. Скарына, атрымаўшы ступень бакалаўра свабодных навук, быў «размеркаваны ў наступным парадку месц», які тут жа падаецца. З Кракава яго ў той час нікуды адпусціць не маглі. Ён павінен быў не менш чым 5 гадоў быць выкладчыкам на факультэце artium і адначасова вучыцца на адным з «вышэйшых» акадэмічных факультэтаў: тэалогіі, кананічнага права ці медыцыны. У выпадку са Скарынам усё ясна: ён вучыўся медыцыне.

Польскі гісторык Я. Лукашэвіч адзначыў: «Для дасягнення (першай. — **Г. Л.**) ступені ў медыцыне неабходна было быць магістрам свабодных навук. Студэнт медыцынскага факультэта слухаў два гады лекцыі двух прафесароў і два разы здаваў экзамены; акрамя таго, хадзіў на лекцыі бакалаўраў... Пасля двух гадоў мог здаваць экзамен на бакалаўра (ужо медыцыны. — **Г. Л.**) і за гэта плаціў тагачасным дактарам медыцыны па чатыры злотых... Бакалаўр яшчэ два гады слухаў медыцыну ардынарных прафесароў...»

Пры такіх жорсткіх умовах вучобы, выкладання на «ніжэйшым» факультэце і дасягнення новых ступеняў наўрад ці пакідаў Скарына Кракаў да 1511 г.

Але старадаўні архіў Калегіума медыкаў Кракаўскай акадэміі не збярогся да нашых часоў. І таму мы многага не ведаем пра вучобу Скарыны ў Кракаве.

А на медыцынскім факультэце там у той час было толькі тры прафесары: знакаміты Мацей Карпіга з Мяхова (1457—1523), які дасягнуў ступені доктара медыцыны ў Падуі ў 1508 г., Адам з Бохыня з-пад Ловіча (памёр у 1514), партрэт-эпітафія якога захоўваецца ў Тарноўскім музеі ў ПНР, і Ян з Рэгулаў родам з Мазовіі (памёр каля 1510).

Вельмі абмежаваны склад прафесароў не даваў права на ўзвядзенне іншых асоб у дак-

* Аўтар і далей ў тэксце прыводзіць шматлікія спасылкі на айчынныя і замежныя крыніцы, аднак апублікаваць іх усе няма мажлівасці.

# НА АСНОВЕ АРХІЎНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ

**В. П. Грыцкевіч. З факелам Гіпакрата. З гісторыі беларускай медыцыны. На рускай мове. Мінск, «Навука і тэхніка», 1987.**

Убачыла свет кніга В. П. Грыцкевіча, прысвечаная гісторыі медыцыны Беларусі. Нягледзячы на ўяўнае багацце гісторыка-медыцынскай літаратуры, што выдаецца ў нашай краіне, развіццё медыцынскай навукі і аховы здароўя ў Расіі і СССР вывучана яшчэ далёка недастаткова. У большасці выпадкаў з'яўляюцца толькі выданні, прысвечаныя юбілейным датам (як правіла, з гісторыі аховы здароўя савецкага перыяду). Гістарычны матэрыял у іх звычайна выкладзецы вельмі коратка, перавага аддаецца сучаснасці, і напісаны гэтыя працы амаль выключна кім-небудзь з адказных работнікаў аховы здароўя ці вядучымі спецыялістамі рэгіёна, якія маюць, у асноўным, даволі слабае ўяўленне пра гісторыю медыцыны.

Знаёмячыся з выдатна напісанай, з добрымі літаратурнымі вартасцямі і сапраўды мастацкім выкладаннем кнігай В. П. Грыцкевіча (як і яго манаграфіямі, што выдаваліся раней), нельга не задаць пытанне: а ці была ў нас калі-небудзь такая поўная, напісаная такой жывой і папулярнай мовай, кніга пра развіццё медыцыны ў Беларусі, што ахоплівае значны гістарычны перыяд? Даводзіцца, на жаль, прызнаць, што такой манаграфіі няма ні пра Беларусь, ні пра большасць іншых рэспублік. Такім чынам, тэму, абраную аўтарам, нельга не прызнаць новай і арыгінальнай, тым больш што яна ўяўляе сабой сапраўднае даследаванне.

Аўтару ўдалося ахапіць самыя розныя аспекты гісторыі медыцыны Беларусі: асвятляюцца пытанні этнамедыцыны, палеапаталогіі, гігіены, эпідэміялогіі, развіццё лекавай дапамогі, лячэбнай справы, а таксама пытанне пра ўдзел медыкаў Беларусі ў грамадскай і рэвалюцыйнай дзейнасці. Аўтар выкарыстаў матэрыялы 21 гістарычнага архіва — архіўных сховішчаў Масквы, Ленінграда, Вільнюса, Кіева, абласных архіваў Магілёва, Калініна, Пензы, Саранска, Якуцка і замежных архіваў Кракава, Варшавы і інш. У большасці з гэтых гарадоў былі даследаваны таксама матэрыялы рукапісных архіваў аддзелаў іх бібліятэк. У выніку гэтай каласальнай па аб'ёме працы аўтар зрабіў свайго роду сістэмны паказ медыцыны Беларусі ў розныя перыяды, непарыўна звязаны з агульнай гісторыяй краю. У нязменнай сувязі аналізуемага матэрыялу з яго агульнай гісторыяй заключаецца прынцыповае адрозненне кнігі В. П. Грыцкевіча ад падобных работ у Літве, Латвіі і іншых рэгіёнах. Менавіта па такім шляху і трэба ў далейшым накіроўваць гісторыка-медыцынскія даследаванні іншых рэгіёнаў, а не ізаляваць, як гэта часцяком робіцца, гісторыка-медыцынскі матэрыял ад агульнагістарычнага, гэтаксама як і ад матэрыялу па гісторыі грамадскага і рэвалюцыйнага руху. Гісторыя медыцыны павінна быць прадстаўлена заўсёды як частка гісторыі культуры і грамадскага жыцця.

Праца з масай новых крыніц дала В. П. Грыцкевічу магчымасць асвятліць вялікую колькасць новых гістарычных матэрыялаў, якія ўпершыню ўводзяцца аўтарам у навуковы гісторыка-медыцынскі ўжытак. Сюды адносяцца, у прыватнасці, матэрыялы пра Ф. Скарыну, якія не могуць не цікавіць гісторыка айчыннай медыцыны. Досыць цікавая дагадка В. П. Грыцкевіча пра магчымую сустрэчу Ф. Скарыны з Парацэльсам: калі аўтар мае рацыю, лагічна дапусціць і думку пра тое, што спрэчка з Парацэльсам істотна паўплывала на фарміраванне Ф. Скарыны як вучонага і ўрача. У гэтым кароткім апавяданні пра дзеяча беларускага Адраджэння аўтар удакладняе таксама некаторыя факты з яго біяграфіі: напрыклад, адмаўляе адносіны Скарыны да кафедры батанікі і леказнаўства Пражскага універсітэта.

В. П. Грыцкевіч з асаблівай увагай ставіцца да пытання пра інтэрнацыянальныя сувязі вучоных — вялікую цікавасць для чытачоў і асабліва работнікаў навукі ўяўляе матэрыял аб прапагандзе дзеячамі медыцыны і філасофіі Беларусі перадавых ідэй свайго часу, у тым ліку вучэння М. Сервета і Г. Галілея. Раздзел «Вучні Галілея ў Беларусі» змяшчае шмат невядомых раней матэрыялаў. Для ўсіх апісаных тут дзеячаў былі характэрны гуманістычныя тэндэнцыі, але да сапраўдных вучняў Галілея, на наш погляд, можна аднесці толькі І. С. Дзельмедзіга.

У раздзеле «Даўнія традыцыі» праводзіцца новы матэрыял пра ўскрыццё цела польскага караля Стэфана Баторыя, якое было першым вядомым з дакументаў навуковым анатамічным ускрыццём у Беларусі.

Аўтар прывёў шмат новых звестак пра ўрачоў, дзейнасць якіх у XVIII ст. была звязана з Беларуссю — С. Русецкай, Ф. Т. Эме. Досыць рэльефна прадстаўлена дзейнасць хірурга К. І. Гібенталя, распрацаваная на аснове шматлікіх архіўных матэрыялаў, даследавана не толькі яго хірургічная дзейнасць, а і праца па барацьбе з эпідэміямі. Пра featнабаковасць навуковых інтарэсаў Гібенталя сведчыць і яго спроба «жыццемагнетычнага лячэння». На матэрыялах архіваў пабудаваны і раздзел «Вучань Пірагова», які расказвае пра выхаванца дэрпцкага універсітэта Е. Б. Еша, які працаваў потым у Мінску і іншых гарадах. Паказана, што ён быў прапагандыстам наркозу ў хірургіі, прапанаваў новы метад скурнай пластыкі.

Падрабязна, з прыцягненнем многіх неапублікаваных дакументаў расказваецца пра Віленскую вышэйшую медыцынскую школу. Да В. П. Грыцкевіча гэтае пытанне ў гісторыка-медыцынскай літаратуры не было даследавана з такой паўнатой. Паказана важная роля медыцынскага факультэта і яго пераемніцы — Медыка-хірургічнай акадэміі ў Вільні—у высокім развіцці медыцынскай культуры і забеспячэнні краю кваліфікаванымі медыцынскімі работнікамі.

У кнізе ўражвае багацце іншамоўнага матэрыялу: у бібліяграфіі прыводзіцца літаратура на польскай, нямецкай, венгерскай, чэшскай, славацкай, французскай, англійскай, італьянскай, літоўскай і лацінскай мовах.

Кніга В. П. Грыцкевіча — выдатная падмога і для гісторыкаайчыннай медыцыны: раздзел «Беларускія лекары ў Расіі» змяшчае матэрыял, у рускай гісторыка-медыцынскай літаратуры не асветлены.

Таксама, каштоўна, што В. П. Грыцкевіч імкнецца разглядаць гісторыю медыцыны Беларусі скрозь прызму гісторыі Еўропы. У выніку чытач можа ўявіць даволі ясна, што Беларусь была рэгіёнам, дзе ў эпоху Адраджэння цесна судакраналіся культура еўрапейскіх краін і ўсходніх славян, дзе адбывалася ўзаемапранікненне ўплываў, абмен навуковай інфармацыяй і г. д.

Кніга выдатна выдадзена, цудоўна ілюстравана, з імянным і геаграфічным указальнікам.

**В. БАЗАНАЎ.**
**кандыдат медыцынскіх навук.**
г. Ленінград.

*Віншуем!*



**Спаўняецца 60 гадоў пісьменніку Аляксею Кейзараву.**

**Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР накіравала яму прывітальны адрас з пажаданнем добрага здароўя і плёну на творчай ніве.**

Супрацоўнікі «ЛіМа» таксама зычаць юбіляру ўсяго найлепшага ў жыцці, новых творчых набыткаў.

# ЛАЎРЭАТЫ КАМСАМОЛА БЕЛАРУСІ

**Бюро ЦК ЛКСМБ прысудзіла прэміі Ленінскага камсамола Беларусі 1988 года. Сярод новых лаўрэатаў у галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і архітэктуры — паэты Алесь Пісьмянкоў, Зміцрок Марозаў і Павел Шруб, галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек БССР Аляксей Ляляўскі, мастак Уладзімір Качан, ансамбль народнай музыкі «Свята» (мастацкі кіраўнік — заслужаны артыст БССР Васіль Купрыяненка).**

тары медыцыны. Упершыню такое права атрымалі толькі ў 1527 г.

Нездарма польскі даследчык С. Віндакевіч, які першым адшукаў звесткі аб Скарыне ў Падуі, адзначае, што Скарына паехаў туды ў 1512 г. па шляху, пратораным яго кракаўскім папярэднікам — Мацеем з Мяхова, і атрымаў там ступень доктара медыцыны.

А папулярызатары біяграфіі Скарыны ўжо параўнаўча даўно і беспадстаўна «адправілі» яго ў Данію. Гэта — толькі таму, што з Польшчы тады было накіравана пасольства ў 1509 г. В. І. Дарашкевіч пайшоў яшчэ далей: ён спрабуе звязаць лёс Скарыны з Капенгагенскім універсітэтам...

Скарына сапраўды названы ў акце Падуанскай епіскапскай курыі «сакратаром караля (ці правіцеля) Дацыі». Аднак яшчэ А. В. Флароўскі (1885—1968) рабіў намаганні, каб адшукаць сляды дзейнасці Скарыны ў Малдавіі і Валахіі (былой Дакіі) і ў Даніі. Але слядоў ні там, ні там не аказалася.

А каб зразумець, што такое «Дасіа» або «Датіа», трэба мець на ўвазе, што гэта назва напісана ў эпоху Адраджэння. Геаграфічныя паняцці тады нанова складваліся пад уздзеяннем першых друкаваных геаграфічных карт. А імі былі карты з антычнай «касмаграфіі» Клаўдзія Пталемея (Балоння, 1477; Рым. 1478; Ульм, 1482 і г. д.). Усе гэтыя і многія наступныя выданні былі лацінскімі і разыходзіліся па многіх краінах Еўропы. Асабліва —ульмскае выданне таму, што ў гэтым горадзе ў канцы XV ст. працавала выдатная школа гравёраў. Сярод шматлікіх карт рэгіёнаў Еўропы ў гэтым выданні ёсць дзве, якія ахопліваюць тэрыторыю іменна Дацыі («Dacie pars»). На поўдзень ад гэтай, здавалася б, забытай назвы размешчана рака Дунай («Danubius»), на поўнач — Карпаты («Carpatu nons»). А яшчэ на адной карце, пры такім жа акружэнні — назва «Datia» (Ptolemaeus. «Cosmographia». Ulm, 1482, tabulae VIII, XII, XIII). Лёгка здагадацца, што гэта — паўночная частка Румыніі Трансільванія, на якую, дарэчы, не звярнуў увагі А. В. Фларoўскі.

Відаць, ніякага Капенгагена ў біяграфіі Скарыны не было.

Сярод таго, што адносіцца да друкарскай дзейнасці Скарыны, уяўляецца памылковым прынцыпова важнае выказванне ў прадмове да «Зборніка»: «...прыехаў у Прагу, дзе ў 1517 г. заснаваў сваю першую друкарню». Такія думкі, без істотных падстаў, ужо выказваліся дзесяткі разоў, нават чэшскімі папулярызатарамі. Але іх катэгарычна абверг савецкі даследчык чэшскай культуры А. С. Мыльнікаў. Ён слушна заўважыў: «Некаторыя біёграфы Ф. Скарыны не толькі не сумняваюцца ў існаванні такой друкарні, але без усялякіх на тое канкрэтных падстаў лічаць самога Скарыну ўладальнікам гэтай друкарні». Сапраўды, ці можна наогул такое сцвярджаць, калі Скарына ў кожнай сваёй прадмове выразна адзначае, што яго кнігі выдаваліся яго ж «повелением»? А калі «повелением», дык каму? Зразумела, не самому сабе, а ўладальнікам пражскіх, дарэчы, не занятых у той час справай, друкарняў: Яну Северыну з Мезіржычы, Мікулашу Коначу з Годзішкава і Яну Шмергаўскаму. Праўда, друкарня Шмергаўскага ў 1519 г. крыху працавала над выданнем чэшскай кнігі. Дзве ж другія былі амаль не занятымі.

У сувязі з гэтым, цікавым можа быць кароткі аналіз друкарскай прадукцыі Прагі ў пачатку XVI ст. Друкарні там узнікалі на некалькі год, закрываліся, перапрадаваліся, папаўняліся друкарскімі матэрыяламі з Нюрнберга, зноў працавалі і зноў знікалі. Але напярэдадні 1517 г. яны ўжо тры разам, пачалі працаваць больш-менш рытмічна, выпускаючы па 3—4 чэшскія кнігі ў год кожная. А за два з палавай векапомныя для нас гады (1517—1519) яны выпусцілі — смеху варта — толькі дзве чэшскія кнігі. Нават пры нерытмічнасці іх работы гэта, здавалася б, дзіўна. Але калі дадаць да гэтай мізэрнай колькасці яшчэ дваццаць скарынінскіх кніг, дык усё становіцца на сваё месца. Скарына і выбраў Прагу галоўным чынам таму, што там былі друкарні, якія нярэдка «пуставалі». У любым другім кнігадрукарскім цэнтры Еўропы ён бы такога не знайшоў. Напрыклад, у Нюрнбергу паміж 1501—1517 гг. працавала восем друкарняў і дзесяць друкароў, якія выпусцілі ў свет больш за 90 кніг, некаторыя з якіх друкаваліся па некалькі разоў у розных друкароў.

Шырокае асвятленне атрымала ў «Зборніку» познаньская справа сямейства Скарынаў. Іван — брат Францыска памёр у 1529 г. у той жа Познані, куды дакацілася эпідэмія «англійскай патніцы». Францыск там пабываў некалькі разоў у 1529—1532 гг. Неспадзявана і незаконна ён там быў пасаджаны ў турму. Раней аб гэтым былі вядомы толькі дзве публікацыі польскай даследчыцы М. Вайцэхоўскай, у якіх коратка і недакладна пераказваліся звесткі пра гэтыя падзеі. Цяпер па архіўных фотакопіях надрукавана 17 дакументаў і іх перакладаў. Гэта з'яўляецца несумненнай заслугай укладальніка і перакладчыкаў «Зборніка». Да гэтага ж дададзены яшчэ 2 каралеўскія граматы, якія былі атрыманы ў Кракаве ў 1532 г. і завяршаюць тую ж справу.

Матэрыяльна-прававы бок справы высвятляецца цяпер канкрэтна і дакладна. Затое прычыны некаторых з гэтых падзей і намеры іх удзельнікаў, асабліва ў цяжбе Ф. Скарыны з варшаўскім крэдыторам Старым Мойжэшам, па ўсім відаць, схаваны за афіцыёзнасцю дакументаў. Наогул, ці меў адносіны Скарына, які ў гэты ж час названы прафесарам, да Познаньскай, так званай, Акадэміі Любраньскага? Ці меў адносіны да міжнародных перагавораў, якія вяліся ў пачатку 1530-х гг. у той жа Познані паміж прадстаўнікамі двух ваюючых бакоў у Венгрыі? І ўрэшце — ці мог мець дачыненне Скарына да прыпынку ў Польшчы пасла Фердынанда І — Зігмунда фон Герберштэйна, вядомага дыпламата і пісьменніка, які ў той час наняў абшчыну варшаўскіх яўрэяў у якасці агентаў чэшска-венгерска-рымска-аўстрыйскага караля і эрц-герцага? Гэтыя і многія іншыя пытанні ўзнікаюць незалежна ад шматлікіх дакументаў, надрукаваных у «Зборніку».

Што ж да шматлікіх, надрукаваных там дакументаў пра дзейнасць садоўніка «майстра Францыска-італьянца», які знаходзіўся ў Празе ў 1535 — 1539 гг., дык, здаецца, яшчэ занадта рана сцвярджаць, што ён быў доктарам Францыскам Скарынам-Русам. Гэта мог быць Франчэска Банафэдэ з Падуі, які там заснаваў першы батанічны сад у 1533 г. Ён таксама мог быць запрошаны ў Прагу. Ва ўсякім выпадку, сучасныя чэшскія даследчыкі не лічаць Франчэска-італьянца і Францыска-Руса адной асобай. Карэл Пліцка і Эмануэль Похе нядаўна сцвярджалі: «Каралеўскі сад на Градзе. Заложаны ў 1534 г. архітэктарам Джавані Спацыа і садоўнікам Франчэска як першы архітэктанічны сад у Чэхіі ў стылі італьянскага рэнесанснага саду».

Неіснуючыя дакументы пра Скарыну ці падтасоўка іх могуць збіць з панталыку на многія гады тых, хто жадае сапраўднага вывучэння біяграфіі Ф. Скарыны. А зусім не яго цёзкаў! Бо гэтыя дакументы толькі ўяўна запаўняюць белыя плямы ў яго біяграфіі. Тым не менш, гэтыя белыя плямы застаюцца. Толькі каралеўская грамата Фердынанда І сыну Ф. Скарыны, Сімяону Русу, дае падставы сцвярджаць, што наш славуты зямляк памёр у Чэхіі ў 1551 г.

Затое пры аналізе некаторых гістарычных падзей і іх суадносінаў укладальнік «Зборніка» аказаўся на вышыні сучаснага скарыназнаўства. Ён дасканала разабраўся, што ніякай канфіскацыі маёмасці ў Скарыны не было. Хоць усе скарыназнаўцы - папярэднікі, услед за А. Мілавідавым, паўтаралі надуманыя «звесткі» пра яе, больш таго — тлумачылі ёю акалічнасці жыцця Скарыны ў перадсмяротны перыяд.

Не меншая заслуга В. І. Дарашкевіча ў тым, што ён суаднёс звесткі пра пажар у Вільні ў 1530 г. з тым, што высветлілі кнігазнаўцы А. С. Зёрнава, Т. С. Гарбуноў і А. І. Анушкін: шрыфты і гравіраваныя застаўкі Скарыны захоўваліся досыць доўга і выкарыстоўваліся ў Вільні да канца XVII ст. В. І. Дарашкевіч слушна даводзіць, насуперак сучаснаму скарыназнаўству, што пажар у Вільні не змог паўплываць на заканчэнне друкарскай дзейнасці Скарыны, што яе працяг быў і ёсць у працах некалькіх пакаленняў яго паслядоўнікаў.

Некаторыя іншыя пытанні скарыназнаўства таксама патрабуюць крытычных адносін і дакладнага высвятлення. І тады вобраз Скарыны з'явіцца ў сапраўдным бляску і трагедыйнасці гістарычных акалічнасцяў яго жыцця. Веліч яго здзяйсненняў стане яшчэ больш рэльефнай.

г. Віцебск.

*Пераклады*

Ганна **АХМАТАВА**

# РЭКВІЕМ

## 1935—1940

**Зусім нядаўна ў прадмове Б. В. Сакалова да кнігі Міхаіла Булгакава «Чаша жыцця» прачытала такі радок: «... у 1935 годзе Булгакаў сумесна з Ганнай Ахматавай падрыхтаваў ліст да Сталіна ў абарону яе арыштаваных мужа і сына».**

**Ці захаваўся той ліст у нейкіх архівах? Невядома! Але засталіся радкі вершаў Ганны Ахматавай, — адна з несмяротных і самых трагічных старонак жыцця вялікага паэта.**

**Гэтыя асобныя вершы скласіся ў «Рэквіем», які прапаную чытачам «ЛіМа» ў сваім перакладзе, зробленым па публікацыі ў часопісе «Октябрь», № 3 за 1987 год.**

**Раіса БАРАВІКОВА.**

### Замест прадмовы

У страшныя гады яжоўшчыны я правяла семнаццаць месяцаў у турэмных чэргах. Неяк аднойчы нехта «апазнаў» мяне. Тады жанчына, што стаяла за мной з блакітнымі губамі, якая, вядома, ніколі не чула майго імя, ачуўшыся ад уласцівага нам усім здранцвення, спытала мяне на вуха (там усе гаварылі шэптам):

— А гэта вы можаце апісаць?

І я сказала:

— Магу.

Тады нешта накшталт усмешкі слізганула па тым, што некалі было яе тварам.

1 красавіка 1957 года. Ленінград.

Мне чужое неба стала б лёдам,
Схоў пад крыллем дальнім не прызыў,—
Я была тады з маім народам,
Там, дзе мой народ, гаротны, быў.

1961

### ПРЫСВЯЧЭННЕ

Перад гэтым горам гнуцца горы,
І ракі вялікай моўкне шум,
Ды мацней турэмныя запоры,
А за імі «катаржныя норы»
І смяротны сум.
Для кагосьці вецер свежы вее,
Для кагось заход, бы з руж жывых,—
Ды пра гэта знаць ніхто не смее,
Чуем, скрыгат страшны ўсё цяжэе
Пад глухія крокі вартавых.
Уставалі бы к абедні ранняй,
Праз сталіцу неслі чорны жаль,
У дымцы сустракаліся світальнай,
Сонца нізка, і Нява туманней,
А надзея ўсё пяе праз даль.
Вынесуць прысуд... І слёзы хлынуць,
Паміж светам стане ўміг сцяна,
Быццам разам з болем сэрца вымуць,
Дагары, нібыта, перакінуць,
Ды ідзе... Хістаецца... Адна...
Дзе цяпер нявольныя сяброўкі
Двух гадоў той долі маёй злой?
Што ім мроіцца пад вецер колкі
У шчылінах сібірскае каморкі?
Шлю прывет ім развітальны свой.

Сакавік 1940

### УСТУП

Гэта было, калі пасміхаўся
Толькі мёртвы, спакой — не загад.
І даважкаю лішняй гайдаўся
Каля турмаў сваіх Ленінград.
І калі, ашалеўшы ад мукі,
Ўжо асуджаных йшлі палкі,
І кароткую песню разлукі
Паравозныя неслі гудкі.
Зоркі смерці стаялі над намі,
І бязвінная енчыла Русь
Пад, у ботах крывавых, нагамі
І пад шынамі чорных марусь.

Забіралі цябе на світанні,
За табой, як на вынасе йшла,
Захлыналіся дзеці ў рыданні,
Свечка, гаснучы, аплыла.
На губах тваіх холад іконкі,
Пот смяротны ніяк не забыць! —
Буду я, як стралецкія жонкі,
Пад крамлёўскімі вежамі выць.

1935. Восень. Масква

Ціха льецца ціхі Дон,
Месяц жоўты ўвойдзе ў дом.

Зойдзе знакам перамен.
Бачыць жоўты месяц цень.

Хворасць выпіта да дна,
Тут жанчына скрозь адна,

Муж у магіле, сын у турме,
Памаліся ж за мяне.

Не, гэта не я, гэта нехта іншы пакутуе.
Я гэтак бы не змагла, а тое, што
здарылася,
Хай чорныя сукны пакрыюць,
І хай забяруць ліхтары...
Ноч.

Паказаць бы табе, насмешніцы
І любіміцы ўсіх сяброў,
Царскасельскай вясёлай грэшніцы,
Як у жылах стыць будзе кроў —
Як трохсотая, з перадачаю,
Пад Крыжамі будзеш стаяць
І слязою сваёй гарачаю
Навагодні лёд праціналь.
Ствол таполі турэмнай хістаецца,
Цішыня — толькі ж колькі там
Усё бязвінных жыццяў канчаецца...

1938

Як многа месяцаў крычу,
Семнаццаць—акурат,
Цябе пабачыць, сын, хачу,
Мяне не чуе кат.
Усё заблытана навек
І мне не разабраць
Цяпер, хто звер, хто чалавек,

*Проза*



Іван Клімянкоў

# ВЫКУП

апавяданне

МАШЫНА спынілася. Паліцаі і немцы высыпаліся з кузава. Рускія і нямецкія словы зліліся ў бязладны, узбуджаны гоман. Немцы хоць і былі сурова-пахмурныя, аднак няцяжка было адчуць іх абыякавасць. Свая, чорная, неадольная трывога душыла іх, і што ім было да нейкіх чатырох павешаных паслугачоў. Гэта абыякавасць кідала ў адчай паліцэйскіх. Яны як ніколі ясна разумелі, што пакінуты на саміх сябе, што аддаленая артылерыйская кананада—злавесны голас непазбежнасці. Ахрэм Сіпацкі глядзеў на павешаных і амаль задыхаўся, нібыта і яму вяроўка перацiскала горла, трушчыла шыйныя пазванкі. А рана ці позна ўсё скончыцца гэтым. Няхай удасца пазбегнуць партызанскай кары, але фронт не спыніш... Хоць немцы і крычаць, што рускім не перабрацца цераз Днепр, ніхто таму не верыць. Казкі для дурняў. Кола вайны закруцілася ў другі бок. І яго не стрымаць, не спыніць ніякімі ўмацаваннямі. Немцы і самі адчуваюць гэта. У сутнасці, яны змірыліся з паражэннем. Яшчэ не прызнаюцца сабе ў гэтым, але змірыліся. Ды ім што—адступай ці здавайся ў палон. А яму палону няма. І немцам ён, лічы, не патрэбен.

«Божа, што ж цяпер? Куды мне? Няўжо канец? А можа, даруюць? Я ж нікога не забіваў. На мне няма крыві. Бацьку дзякуй. Яго заслуга. Як ведаў стары—не піхаў на ражон, ад акцый пазбаўляў. Мо таму і жыву яшчэ. Партызаны ж не сляпыя... Не, не ўсё яшчэ страчана! Ёсць яшчэ шанец... Кволы ён, ненадзейны, але што цяпер надзейнае? Ды і шанец гэты адзіны, апошні...»

●

Ноч стаяла цёмная, халодная. Стаіўшыся ў разгалістым кусце бэзу, Сіпацкі напружваў слых, але нічога, акрамя шапацення дажджу і кароткіх завыванняў ветру, не было чуваць.

«Няўжо і сёння не прыйдуць? Няўжо сённяшняя ноч упустую? Ці нешта западозрылі? Наўрад... Божа, зрабі так, каб яны прыйшлі!».

Нешта хрумснула ў агародзе. Сіпацкі страпянуўся, сціснуў вінтоўку. У цемнаце расплывіста абазначылася нечая постаць, бясшумна падплыла да акна. Пачуўся ціхі, з інтэрваламі стук у акно. Неўзабаве рыпнулі дзверы, пачуўся насцярожаны шэпат.

— Ты, Іван?

— Я, бацька. Як тут у вас?

— Ціха. Няма нікога. Ты адзін?

— Не, з Сяргеем.

— Кліч яго. Не бойся, у вёсцы спакойна.

Кароткі прыглушаны прысвіст, і другая постаць вынырнула з цемры, падалася да ганка. Дзверы зачыніліся, зашоргала жалеза аб жалеза—сенцы запіралі на засаўку. Сіпацкі глыбока ўздыхнуў, абмяк целам. Дастаў з кішэні бутэльку, зрабіў некалькі вялікіх, прагных глыткоў.

Ужо шарэла, калі асцярожна прыадчыніліся дзверы, з іх выйшаў высокі, з пасівелай галавой дзядзька, абышоў кругом хаты, махнуў рукой. З дзвярэй выслізнуў малады хлопец з вінтоўкай напагатове, а за ім з'явіўся другі, таксама з вінтоўкай, з клункам у левай руцэ.

— Ну, бывай, тата. Нам трэба спяшацца.

— Шчасліва, сынкі! — Стары абняў па чарзе кожнага з хлопцаў, і яны хутка пакрочылі да хмызняку, што пачынаўся адразу за агародамі. Схаваўшыся ў кустах, яны запаволілі хаду, закінулі вінтоўкі за плечы, пачалі круціць цыгаркі.

— Стой!

Абодва як ударыліся аб сцяну.

— Не азірацца! Кідай зброю!

Адзін ссунуў з пляча рамень вінтоўкі і яна, саслізгнуўшы па руцэ, упала на зямлю. Другі марудзіў.

— Ты — таксама. Кідай! Лічу да трох. Раз!

Другая вінтоўка чмякнулася ў мокрую траву.

— Рукі ўгору! Вышэй! Ну! Рук не апускаць. Павярніцеся!

Абодва павярнуліся. Адчай і нянавісць крывілі іх твары.

— Сіпак!—вырвалася ў аднаго.

Сіпацкі з вінтоўкай напагатове стаяў каля кінутай зброі, сачыў за кожным іх рухам.

— Што, брацікі, даваяваліся?—Сіпацкі ашчэрыўся пагардлівай усмешкай.—Ваякі...

Браты маўчалі. Адзін з іх каўтаў і каўтаў горлам, быццам хацеў і ніяк не мог штосьці праглынуць.

— Даўно я за вамі сачу,—цадзіў Сіпацкі і пагардлівая ўсмешка не сыходзіла з яго худога, няголенага твару.—Даўно мог у распыл пусціць. І вас, і старых вашых. І кубло мог спаліць.

Твар яго нахмурыўся, ён аблізаў языком губы.

— Мог, але не зрабіў. Бо сваім людзям я не вораг. Чуеце—не вораг! І за ўсю вайну я нікога не забіў.—Ён змоўк, упіўся позіркам у твары братоў.

— Другія забівалі, а я—не. І ў паліцыю не па сваёй волі пайшоў—бацька прымусіў. Да вас даўно збіраўся... Толькі баяўся, што не даруеце... павесіце... Калі зараз з вамі пайду—не заб'яце? Жывым пакінуць?

— Мы маленькія людзі. Мы не рашаем.

— Ведаю. Тады пагаварыце з начальствам. Раскажыце, як было.

— Раскажам. Гэта абяцаем.

— Заўтра раніцай я буду чакаць каля дуба, над рэчкай. Ведаеце?

— Ведаем.

Сіпацкі закінуў вінтоўку за спіну.

— Не ўздумайце за мной гнацца, ці страляць. Бацьку пад бяду падведзяце. Да заўтрага.

●

Камандзір атрада Залыгін і камісар Бабарэнка ніяк не маглі прыняць канчатковае рашэнне.

— Чорт ведае, што з ім рабіць,—пацiснуў плячыма Бабарэнка,—не кожны дзень такое здараецца.

Залыгін раздражнёна чмыхнуў:

— Знайшоў праблему! Няхай прыходзіць, а там нам рашаць. Без усякіх умоў і гарантый.

— Дык ён не пойдзе. Гарантаваць жыццё можна. Калі і сапраўды на ім няма крыві.

— Можа, і ордэн яму за гэта? Паліцай, сын начальніка раённай паліцыі. Колькі бацька яго людзей на той свет адправіў?

— Бацька, а не ён. І не забывайся, сам да нас прыйшоў.

— Таму што смаленым запахла.

— Ганчарыкаў не выдаў.

— Выгадваў—куды ўсё павернецца. Бралі б верх немцы... А цяпер адкупіцца імі хоча. Ведаю я яго сабачую пароду. Дзеля сябе на ўсё пойдзе.

●

Сіпацкі стаяў пад дубам, апёршыся на вінтоўку, і курыў. Ганчарыкі былі ад яго метраў за дзвесце, калі Сяргей спыніў Івана, прапанаваў:

— Ты пачакай тут. Падстрахуй. Мала што...

— І то праўда,—кіўнуў той.—Ідзі.

Сіпацкі адкінуў цыгарэту, правёў языком па губах, упіўся позіркам у твар Сяргея.

— Ну што?

— Начальства жыццё гарантуе. Віну сваю ў баях змываць будзеш.

Сіпацкі ўздыхнуў на поўныя грудзі.

— Гэта Залыгін абяцаў?

— І Бабарэнка таксама. Але ты не ідзі.

Сіпацкі скалануўся, збялеў.

— Чаму?

— Усё адно не жыць табе. Салохін, падрыўнік, прыкончыць.

# Сеанс лялечнай тэрапіі

**«ЗДАРЭННЕ Ў ГОРАДЗЕ ГОГА» на сцэне Дзяржаўнага тэатра лялек БССР**

Вядомую загадку пра тое, хто ходзіць раніцай на чатырох нагах, удзень — на двух, а вечарам — на трох, Сфінкс прыдумаў не сам, а скарыстаўся з падказкі муз. Напэўна, таму пад час ракавой сустрэчы з Эдыпам яго не наведала думка спытаць у сумоўцы, хто ходзіць ноччу на адной назе...

Падобна, аднак, да таго, што праз шмат гадоў музы самі звярнуліся з гэтым пытаннем да югаслаўскага рэжысёра Эдзі Майарона. Ён адказаў пастаноўкай спектакля «Здарэнне ў горадзе Гога» паводле аднайменнай п'есы Слаўка Грума.

У вузкага кола спецыялістаў імя Грума выклікае ўспамін пра экспрэсіянізм у славенскай літаратуры. «Называць з'яву, да якой цяпер ужываюць сцёртае слова «экспрэсіянізм», новай — хлусня. Называць модай — абраза. Называць толькі мастацкай з'явай — паклёп...» — пісаў яшчэ (ці ўжо) у 1917 годзе яго заснавальнік і тэарэтык Казімір Эдшмід. І дадаваў: «Экспрэсіянізм існаваў ва ўсе часы... І вось ён ужо захоплівае цэлае пакаленне. Цэлае пакаленне Еўропы. Вялікая хваля духоўнага руху ўзлятае паўсюдна высока. Апошняга патрабуе эпоха».

Прынята лічыць, што патрэбнасць у экспрэсіянізме ўзнікае, калі адбываюцца зрухі ў раскладзе грамадскіх сіл — устаноўленым раней і ўяўна непарушным да часу. Калі старыя закасцянелыя формы рассыпаюцца прахам. Калі новае з'яўляецца яшчэ аморфным і няўлоўна цякучым. Г. зн., калі наступаюць смутныя часы, і мастакі губляюцца ў няпэўнасці; калі не маюць ні сіл, ні імпэту тварыць чыстыя і празрыстыя вобразы і ствараюць мутныя па сэнсе з-за сваёй шматзначнасці сімвалы.

Страціўшы дарогу на зямлі, адны з іх пачынаюць шукаць яе на небе і, у рэшце рэшт, хаваюцца ад рэчаіснасці за манастырскімі сценамі рэлігійнага самапаглыблення. Другія, да якіх схіляецца і Слаўка Грум, прысвячаюць сваю творчасць паказу трагічнага распаду асобы і для гэтага нярэдка звяртаюцца да жанру гратэску.

У фантастычна-гратэскавай манеры п'еса «Здарэнне ў горадзе Гога» раскрывае, як піша адзін з даследчыкаў славенскай літаратуры, «страшную мёртвую сілу мяшчанскага асяроддзя, у якім гіне і глухне ўсё сапраўды чалавечае: паэзія, каханне, прага жыцця. Аднак як мяшчанскае асяроддзе, так і героі п'есы, якія задыхаюцца ў ім, пададзены ў псіха-паталагічных танах, абцяжараны хваравітай эротыкай».

Апошняе, трэба думаць,— заразлівы прыклад аўстрыйскага драматурга Фердынанда Брукнера і ўплыў яго суайчынніка Зыгмунда Фрэйда. Гэты, хоць п'ес і не пісаў, але, відаць, чытаў мастацкую літаратуру настолькі ўважліва, што мог бы ўсклікнуць: «Сафокл дае мне больш за любога мысліцеля, нават больш за Дастаеўскага»...

У сувязі з гэтым можна сказаць, што матывы «Здарэння ў горадзе Гога» адыходзяць каранямі аж у часы «Цара Эдыпа». Аднак рэжысёр Эдзі Майарон, які, акрамя яўнага рэжысёрскага таленту, валодае яшчэ талентам кампазітара і музыканта-выканаўцы, робіць усё магчымае, каб старадаўнія матывы загучалі ў сучасных рытмах, і спектакль стаў падзеяй у горадзе Мінску.

«Як даўно ў нас нічога не здараецца... Якая жахлівая душная ноч... Штосьці абавязкова павінна адбыцца...» — скардзяцца жыхары Гогі. І іх рэплікі, разам з трывожнай музыкай тэатральнага кампазітара Лада Якшы, ствараюць неперадавальную атмасферу чакання невядома якога Гадо.

Гога не можа ўмясціць у сабе свет з яго разнастайнымі праблемамі. Умясціць — значыць парушыць тыя прадпісаныя «эдыпавым комплексам» законы, паводле якіх Грум прымушае жыць насельнікаў горада. У прыймальнасці падобнага заканадаўства для мастацтва сумняваўся яшчэ гадоў за дзесяць да з'яўлення п'есы швейцарскі пісьменнік Герман Гесэ. У артыкуле «Мастак і псіхааналіз», маючы на ўвазе вучэнне Фрэйда, ён пісаў: «Калі цяпер лягчэй стала займацца псіхалогіяй, то карыснасць гэтай псіхалогіі для мастака ўсё яшчэ застаецца сапраўды сумніцельнай. Наколькі мала веданне гісторыі дапамагае гістарычным творам, а веданне батанікі ці геалогіі — апісанню ландшафту, настолькі ж мала можа дапамагчы выяўленню чалавека самая лепшая навуковая псіхалогія».

Аднак Грум прытрымліваецца іншай думкі, быццам звяртаючыся з артыкуламі «Пра нарцысізм», «Пра асаблівы тып выбару аб'екта ў мужчыны», «Пра прыніжэнне любоўнага жыцця», «Табу цнатлівасці» і іншымі, напісанымі Фрэйдам і прадстаўнікамі яго школы. І ўжо, вядома, фундаментальнай працай «Траўма нараджэння», што належыць любімаму вучню Фрэйда Ота Ранку. Таму ў Гоге, дзе адносіны паміж жыхарамі будуюцца на прынцыпе пансексуалізму, пануюць любоў і згода.

...Губляюць галовы ад узаемнага кахання неразлучныя сяброўкі-пляткаркі Тарбула і Афра... Юта кахаецца з Клефам... Юліа Гапіт да паталагічнай рэўнасці любіць сваю пасіўную ляльку Гізелу... Служанка Тэрэза настолькі любіць сваю пані, што гатова ў любую хвіліну аддацца з ёй каханню... Эма робіць усё магчымае, каб П'яны мастак мог любіць не толькі віно, але і віно кахання стала яму па густу... Клікот уяўляе, што любіць паненку, якая жыве насупроць. Але калі тая прапаноўвае яму сябе, жадае застацца сам-насам і працягваць кахаць сваё ўяўленне... Атмар Прэліх, які згвалціў некалі трынаццацігадовую Хану, з'яўляецца да яе, і, прамовіўшы, як закліnanне: «Першага ніколі не забываюць!» — робіцца чарговым...

Але ад кахання да нянавісці — адзін крок: Хана забівае Прэліха. Труп яго аказваецца пасярод вуліцы, і па горадзе разносіцца вестка пра неверагодную падзею. Усе так усхваляваны, што амаль не заўважаюць «недзе на беразе» чырвонае зарыва. І толькі калі яно знікае, і ўсё зноў пагружаецца ў змрок ночы, чуецца нечы абыякавы каментарый: усяго толькі салома і некалькі дошак... Ці ж гэта пажар?..

Каханне, мякка кажучы,— вось адзіны пажар, які патрэбен жыхарам Гогі. Толькі ў яго яны гатовы да бясконцасці падкідаць палены. У ночы пануючых паміж імі адносін яны запальваюць інтымныя ачагі жывёльнага жыцця і хочуць іх колькасцю замяніць адно вялікае сонца, якое адсутнічае. Больш жыхароў нішто не цікавіць. І толькі ў гарбуна Тэабальда яшчэ ўзнікаюць дзіўныя фантазіі. Ён, перш як пагрэцца ля камялька з пані Прэстапіль, просіць яе памагчы разыграць сцэны з ібсенаўскіх «Зданяў». І, увайшоўшы ў вобраз, у шаленстве крычыць: «Мама, дай мне сонца!».

Навошта ў Гоге прамаўляюцца словы з «трагедыі пра венерычныя хваробы», якой лічылі п'есу абураныя ёю бацькі высакародных сем'яў—сучаснікі Ібсена? Дзе яшчэ можна ўбачыць за паўтары гадзіны столькі перабольшаных unterus'аў, penis'аў і coitus'аў? Можна, вядома, спаслацца на прыгаданага ўжо Заля: «Калі мы разбурым прычоску ў жанчыны — яна ўжо дзеўка; калі мы дазволім зняць з рэспектабельнага пана сюртук — ён ужо прайдзісвет. Натуральная хада штодзённага быцця, узаконеныя мараллю адносіны, дапушчальная вольнасць гаворкі і пачуццяў, уся гэтая плынь, якая складае жыццё, адразу ж у нашых сачыненнях набывае бачнасць паклёпу». Але прасцей спаслацца на праграмку спектакля.

У ёй з гранічнай яснасцю выкладзены «ўмовы гульні», якую прапануе рэжысёр Эдзі Майарон. Аказваецца, у аўтарскіх каментарыях да п'есы Слаўка Грум піша, што персанажы «падобны да лялек». І вось у спектаклі п'еса Грума атрымлівае арыгінальную інтэрпрэтацыю: акцёр уяўляе сабой... знешнюю абалонку персанажа, яго знешне нармальнае, не кранутае тленнем цела. Душу ж, «скрыўленую, дзіўную, трансфармаваную выхаваннем і часам» (Майарон)—прадстаўляе лялька.

Сказанае прымушае глядзець спектакль зусім іншымі вачамі і бачыць далей уласнага носа. Прачытваць за лялькамі несвядомыя памкненні чалавечых душ і атрымліваць адказы на непастаўленыя пытанні. Чыёй душой з'яўляецца лялька з двума галовамі, адна з якіх называецца Тарбула, а другая — Афра? Чаму ўсіх баіцца і ад каго хавае ў цэлафан сваю драўляную душу Юліа Гапіт? Навошта Клікот прамаўляе сакраментальнае: «Уяўленне — гэта адзіны рай, з якога нельга быць выгнаным»? У пошуках чаго мітусіцца П'яны Мастак, уся патэнцыя якога адыходзіць са словамі: «Вып'ем за новае, светлае жыццё!»?


Сцэна са спектакля.

# Не словам адзіным

**Што і як мы бачым на тэлеэкране**

—Бачыў вас нядаўна па тэлевізары. Нешта няважна вы глядзеліся...— Мой твар, вядома, выцягнуўся, а чалавек, які сказаў гэта, прадоўжыў.— Ды не, не ў вас справа. Непісьменна яны там святло ставяць. А святло ў нашай прафесіі — вялікая рэч.

Прафесійны кінааператар, які амаль тры дзесяткі гадоў адпрацаваў на кінастудыі «Беларусьфільм», заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі ведаў пра што гаворыць... І я падумала вось што. Кожны з нас можа меркаваць пра сваю знешнасць, як хоча. Ала Пугачова таксама лічыць, што ў жыцці яна значна лепшая, чым на экране. Але што з гэтай прычыны думаюць тыя, што па абавязку сваёй прафесійнай дзейнасці з дня ў дзень, з году ў год маюць справу з паказам па тэлебачанні розных людзей? Ні шматгадовы вопыт удзелу ў перадачах рэспубліканскага тэлебачання, ні рабочыя кантакты з рэжысёрамі і аператарамі не даюць мне магчымасці з упэўненасцю сказаць, што да гэтай далікатнай праблемы ёсць цікавасць, якую мы звычайна звязваем з высокім прафесіяналізмам.

Тэлевізійнікаў можна зразумець. Аператыўная работа прывучыла іх бачыць у выяўленні толькі так званую функцыю. Нездарма ў гэтым асяроддзі існуе свая лексіка: чалавек у кадры і чалавек за кадрам. А як выглядае гэты чалавек? Ці здольны тэлевізійны партрэт перадаць яго псіхалогію, індывідуальнасць? Ці можа адлюстраванне дапоўніць яго асобу нейкімі непаўторнымі рысамі? У тэорыі распрацавана цэлая канцэпцыя, якая сцвярджае, што тэлебачанне — гэта «рэнтген характару». Значыць, не толькі словам, а і электронным промнем высвятліць сутнасць героя. Але вось на практыцы...

Не так даўно запісвалі мы перадачу з удзелам двух лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій СССР — эстонскім рэжысёрам-аператарам Арва Іха і беларускім аператарам Таццянай Логінавай. Прызнаюся, мая ўвага была цалкам занята гутаркай з імі... Пасля «эфіру» перадачу адзначылі на агульнарэдакцыйнай «лятучцы». Гордая за нас траіх, пры сустрэчы сказала пра гэта Таццяне.

— Ну і што? — расчаравана прамовіла яна.— Кепска яны працуюць. Ніводнага добрага кадра...

Спрактыкаванае вока аператара заўважыла статычныя планы, прымітыўную мізансцэну, прамое святло, якое забівае плоскасць экрана.

— Няўжо яны гэтага не бачаць? У першую чаргу гэта павінен бачыць рэжысёр...

Не будзем спрачацца аб тым, колькі ў глядацкай масе знойдзецца людзей, якія вось гэтак жа прафесійна здольны ацаніць відэарад нашых тэлевізійных праграм. У гледача ёсць свая і, трэба сказаць, дакладная ацэнка:

— Мала дынамізму, сумна, расцягнута, доўга. Шмат гавораць і мала паказваюць...

Усё гэта давялося пачуць ад удзельнікаў абмеркавання беларускіх тэлепраграм для моладзі пад час іх сустрэчы з творчымі работнікамі тэлебачання. Глядач па-свойму сказаў пра тыя недахопы, якімі пакуль грашаць тэлевізійныя выпускі. Калі тэлебачанне вынайшлі дзеля таго, каб паказваць жыццё, а не расказваць, як у газеце і на радыё, то форма, у якой гэта робіцца, становіцца такой жа важнай, як і змест. Іншымі словамі, любая тэлепраграма — гэта відовішча.

Гляджу суботні выпуск пад рубрыкай «Літаратура і час». Актуальная, сур'ёзная тэма. Удзельнікі перадачы гавораць пра факты станаўлення мастацкай думкі на Беларусі, пра сувязь літаратурнага светапогляду з сучаснымі падзеямі. Тут і пытанні адносін да творчай інтэлігенцыі, і праблема развіцця беларускай мовы. Прынцыповыя і неабходныя сёння тэмы. Ведаючы ўнутрытэлевізійную «кухню», адчуваю, колькі працы давялося ўкласці ў стварэнне гэтай перадачы рэдактару. Не так проста прымусіць людзей гаварыць перад камерай востра, эмацыянальна, шчыра. А што ж зрабіў рэжысёр, каб падмацаваць старанні рэдактара? На мой погляд, ён зрабіў усё, каб перадача атрымалася манатоннай, згубіла вастрыню — у доўгіх агульных планах, калі не разгледзець твару таго, хто гаворыць, у традыцыйным, як на групавым фотаздымку 50-ых гадоў, размяшчэнні людзей у студыі, у мантажы, дзе чыста тэхналагічна «ўрэзаны» асобныя твары, і гэтыя «ўрэзкі» не вяжуцца з логікай думкі, якую другі ўдзельнік у гэты час выказвае «за кадрам». Не кажу ўжо пра адсутнасць цікава аформленага інтэр'ера, пра тыя магчымыя выяўленчыя «дробязі», якія з дапамогай спецэфектаў прывабілі б вока да экрана... Гэта — узор тыповай студыйнай трансляцыі, калі рэжысёр за шырокай спіной журналіста не абцяжарвае сябе мастацкім пошукам. Больш за тое. Бачу тут тую прыкрую з'яву, перад якой даўно «губляюцца» творчыя работнікі, што адказваюць за эстэтычную якасць перадачы: назва «з'яве» — своеасаблівы «тэхналагічны сіндром». Што перш за ўсё ставяць галоўнай прычынай нізкага ўзроўню вяшчання? Слабую тэхналагічную базу! Паводле старажытнага прынцыпу — дай мне пункт апоры і...

На самой справе, з «і» нічога не атрымліваецца, калі няма самастойнага мастацкага мыслення, калі хочаце — тэлевізійнай прафесійнай культуры.

Неяк на атэстацыі рэжысёраў рэспубліканскага тэлебачання рызыкнула задаць пытанне:

— Над якімі перадачамі вам больш за ўсё падабаецца працаваць?

І пашкадавала, што спыталася пра гэта. Таму што замест творчай праграмы, у якой рэжысёр мог бы выказаць асабістае «я», пачула:

— Над тымі, пад якія даюць добрую тэхніку.

Так, пастаянны недахоп сучасных тэхнічных сродкаў не садзейнічае творчасці, а рэспубліканскаму тэлебачанню не хапае тэлевізійных журналісцкіх камплектаў, апаратных відэамантажу і яшчэ шмат і шмат чаго. Але зважым на рэальнасць: вось, уявім, наша тэлебачанне займела раптам усю патрэбную дарагую тэхніку, якую часам можна ўбачыць у замежных кінафільмах (у рэшце рэшт яе ж можна купіць!). Але дзе ўзяць добра навучаныя, творчыя кадры рэжысёраў і аператараў — у такой колькасці, каб тэхніку гэтую з толкам скарыстоўваць?

Неяк у апаратнай пацікавілася ў відэаінжынера:

— Вось у вас такія адмысловыя спецэфекты,— на экране, змяняючы адзін аднаго, беглі каляровыя кропкі, квадраты, кругі.— Чаму мы не бачым гэтага па хатнім тэлевізары?

— Таму што толькі некалькі чалавек,— былі названы чатыры тэлевізійныя рэжысёры,— могуць імі карыстацца...

Нядаўна з'явілася яшчэ адна навінка — электронны аловак. Як належыць, рэжысёры здалі тэхмінімум. Ні ў адной перадачы пакуль гэтай навінкі не бачна.

У былыя гады тэлевізійнікі маглі толькі марыць пра пяць камер у студыі, пра відэамантаж, пра кампактную здымачную тэлекамеру. Сёння ўсё гэта ёсць. Але перадачы на жаргоне нашых тэлерэжысёраў «не ствараюць», а «выдаюць». На патоку, на аднастайным канвееры... Здаецца, меў рацыю І. Ільф, калі абвясціў: «Вось і радыё вынайшлі, а шчасця ўсё няма...»

Стэрэатыпы, асабліва калі яны склаліся ў вузкім асяроддзі, з цяжкасцю паддаюцца ломцы. Падазраю, што ўся тая арганізацыйная сумятня, якая звычайна суправаджае работу

Але самае страшнае аказваецца тое, што агідны, з ліпкімі рукамі Отмар Прэліх не забіты віяланчэллю Ханы, а толькі аглушаны ёю. І не па ім выконваюць жалобны марш бацька Квірын і кат Капс,— яны спрабуюць заглушыць сваёй музыкай віяланчэль. І хочацца прывесці словы героіні «Зданяў» фру Альвінг: «У нас праяўляецца не толькі тое, што перайшло да нас на спадчыне ад бацькі з маці, але даюць сябе знаць і ўсялякія аджыўшыя паняцці, вераванні і да таго падобнае. Усё гэта ўжо не жыве ў нас, але ўсё-такі сядзіць моцна і нам не выжыць яго. Варта мне ўзяць у рукі газету, я так і бачу, як шныхараць паміж радкоў гэтыя магільныя выхадцы. Так, правільна, уся краіна кішыць такімі зданямі, відаць, яны незлічоныя, як пясок марскі. А мы такія няшчасныя баязліўцы, так баімся святла»...

Такое здарэнне ў горадзе Гога. Гратэск, калі верыць венгерскаму пісьменніку Іштвану Эркеню, як мастацкая форма ёсць «рэакцыя XX стагоддзя на XIX стагоддзе і папярэднія часы». Можна дадаць — вымушаная рэакцыя, своеасаблівая прышчэпка, якую робіць сваім спектаклем Эдзі Майарон ад цяжкой, пакутлівай хваробы — абыякавай распусты і, адначасова, хваравітай чалавечай «правільнасці». У канцы мінулага стагоддзя яе дыягнастуе Ібсен. У першай трэці нашага стагоддзя Слаўка Грум (не толькі літаратар, але доктар медыцыны і псіхіятр) робіць ускрыцце гнайніка. У канцы стагоддзя, выцягнуўшы на сцэну хваробатворных зданяў, што стаяць адной нагой у магіле, і зрабіўшы ін'екцыю гледачам, наш лялечны тэатр дае магчымасць перахварэць на гэтую хваробу ў аблегчанай форме экспрэсіянізму.

У гэтым — тэрапеўтычная каштоўнасць «Здарэння ў горадзе Гога» з яго адказам на пытанне, не зададзенае Сфінксам будучаму фіванскаму цару. Што ж да значэння формы, то пра яго наўрад ці скажам лепш за Казіміра Эдшміда, які ўжо цытаваўся: «Можа здарыцца, што экспрэсіянізм прывядзе да вялікіх дасягненняў. Мы б прынялі іх на свае плечы. Можа здарыцца, мы зразумеем, што прызначаны для спраў не настолькі вялікіх, што мы не дасягнулі сваёй мэты. Але нават у гэтым выпадку ў нас быў сэнс. Мы нібы падрыхтавалі шлях нечаму іншаму, больш вялікаму, таму, што толькі пазней уварвецца ў наша жыццё»...

**Барыс СВЯТЛОЎ.**

**рэжысёра над перадачай — заяўкі, выклік людзей, рэпетыцыі, агучванні і да т. п. — у сённяшняга рэжысёрскага пакалення лічыцца сапраўднай творчасцю!**

**Сярод многіх праблем, якія стаяць сёння перад Беларускім тэлебачаннем, адна з самых галоўных — выхаванне і падрыхтоўка новага пакалення тэлевізійнай рэжысуры, якое здолела б узняць на сучасны мастацкі ўзровень рэспубліканскае тэлевяшчанне. І ў абласных студыях, і ўвогуле на БТ настаў час змены пакаленняў. Калі журналісты штогод маюць выпускнікоў факультэта журналістыкі БДУ, але ўсе іншыя тэлевізійныя прафесіі... Практычна ў нас няма школы рэжысёраў для тэлебачання, хоць навучальныя ўстановы, дзе «навучаюць рэжысуры», ёсць. Перыядычна выпускае некалькі чалавек Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, некаторыя супрацоўнікі ТБ навучаюцца ў Мінскім інстытуце культуры (дзе ўвогуле няма такой дысцыпліны, як тэлевізійная рэжысура). Няма ў рэспубліцы навучальных устаноў, дзе рыхтаваліся б аператары для тэлебачання. Між тым, у штаце БТ ёсць людзі, якія маюць спецыяльную адукацыю і шматгадовы вопыт сапраўды творчай работы, які ў адпаведных умовах навучання зрабіўся б шмат каму карысным.**

**Тэма якасці, пра якую шмат гавораць нашы сродкі масавай інфармацыі, у тым ліку і тэлебачанне, закранаюць і ўласна рэспубліканскае тэлебачанне. Высокі прафесійны ўзровень тэлебачання — гэта сапраўды эфектыўны інструмент уздзеяння на аўдыторыю (лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць). Тэлебачанне моцнае гэтым — «карцінкай».**

**Ніна ФРАЛЬЦОВА.**

*1 кастрычніка — Міжнародны дзень музыкі*

# Сезон адкрыецца заўтра

Па даўняй традыцыі ў Міжнародны дзень музыкі адкрывае канцэртны сезон Беларуская дзяржаўная філармонія. Сёлетні, 51-шы сезон пачнецца выступленнем добра вядомага ў рэспубліцы калектыву — Дзяржаўнага Малога сімфанічнага аркестра Саюза ССР пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Юрыя Сіманава. У праграме першага вечара — уверцюра да оперы «Тангейзер» Р. Вагнера, Сімфонія рэ мінор С. Франка, уверцюры і арыі з опер заходніх кампазітараў. Салістка — лаўрэат Ленінскай прэміі Марыя Біешу.

Тры дні прадоўжацца гастролі маскоўскага аркестра. У праграме з твораў М. Рымскага-Корсакава, Д. Шастаковіча, І. Стравінскага возьме ўдзел лаўрэат міжнародных конкурсаў піяніст Міхаіл Петухоў. Сустрэча з вядомым калектывам чакае і юных аматараў музыкі: Малы сімфанічны і музыказнавец Белдзяржфілармоніі Анатоль Парэцкі адкрыюць цыкл «Маленькія сімфоніі для вялікага аркестра», прызначаны для школьнікаў 5—7 класаў.

Прыхільнікаў мастацтва чакаюць сустрэчы з многімі вядомымі музыкантамі краіны. Сярод іх акадэмічныя сімфанічныя аркестры — Літоўскай ССР (мастацкі кіраўнік Ю. Домаркас) і Украінскай ССР (мастацкі кіраўнік І. Блажкоў), сімфанічны аркестр Люблянскай філармоніі з Югаславіі, Літоўскі камерны аркестр пад кіраўніцтвам С. Сандэцкіса, Дзяржаўны Ленінградскі камерны аркестр пад кіраўніцтвам Р. Мартынава і інш. Дзяржаўны акадэмічны рускі хор Саюза ССР, Маскоўскі камерны хор, Акадэмічны хор Латвійскай ССР і Акадэмічная харавая капэла з Арменіі пад кіраўніцтвам такіх выдатных майстроў, як У. Мінін, І. Цэпіціс, О. Чакіджан, выступяць з сольнымі праграмамі, а таксама разам з нашымі калектывамі — Акадэмічным сімфанічным аркестрам і Дзяржаўным камерным аркестрам БССР.

Да нас прыедуць піяністы Эліso Вірсаладзе, Дзмітрый Аляксееў, Андрэй Гаўрылаў, Міхаіл Плятнёў (дарэчы, мы ўпершыню сустрэнемся з ім і як з дырыжорам сімфанічнага канцэрта), спевакі Ірына Архіпава, Сяргей Лейферкус, Галіна Калініна, Віргіліус Нарэйка, Анатоль Салаўяненка, інструменталісты Наталля Шахаўская, Ігар Ойстрах, Марына Яшвілі. Гасцямі будуць камерныя ансамблі амаль з усіх саюзных рэспублік.

Абедзве канцэртныя залы прапануюць у новым сезоне 27 абанементаў і 15 цыклаў. Значная частка з іх — для дзяцей і юнацтва. У рамках абанемента № 8 пачне сваю работу маладзёжны музычна-дыскусійны клуб «Знайсці ў сабе слухача», канцэрты-пасяджэнні якога падрыхтавалі музыказнавец Міхаіл Казінік і Дзяржаўны камерны аркестр БССР. «Сімфанічныя вечары» і «Літургія. Легенда і міф» — абанементы Акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР. Сваіх слухачоў маюць ужо традыцыйныя абанементы «Для настаўнікаў г. Мінска», «Літаратурна-музычныя вечары для моладзі», «Вечары джазавай музыкі», шэрагі абанементаў розных жанраў для музыкантаў-прафесіяналаў.

У зале БДФ пройдуць аўтарскія вечары гасцей Мінска Р. Шчадрына, А. Шнітке, С. Губайдулінай, а таксама беларускіх кампазітараў У. Алоўнікава (да 70-годдзя з дня нараджэння), У. Будніка і традыцыйны — маладых аўтараў (у рамках фестывалю «Мінская вясна»).

Напярэдадні свята рэспублікі — 70-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі шырока прадстаўлены беларускія калектывы і салісты, якія выступяць з новымі праграмамі. Менавіта ім аддадзена большая частка філарманічных вечароў.

Перад пачаткам кожнага канцэрта ў вялікай зале БДФ слухачы змогуць наведаць філарманічны музей, пазнаёміцца з гістарычнымі старонкамі музычнага жыцця рэспублікі, паглядзець старыя афішы, праграмкі канцэртаў. У фае залы іх чакаюць рэкламныя лісткі з абвесткамі далейшых канцэртаў. Для тых, хто набыў абанементы, прапануецца і новая форма інфармацыі пра дату канцэрта — паведамленне па тэлефоне.

А каб лепей пазнаёміцца са сваім слухачом, вызначыць супольна з ім далейшыя напрамкі канцэртнай работы, выслухаць ягоныя прапановы і пажаданні — філармонія мяркуе правесці канферэнцыю аматараў музыкі, сталых наведвальнікаў сваіх залаў.

**В. ГАЛІНА.**

## Труба, валторна і...

З 23 верасня ў Мінску праходзіць Усесаюзны конкурс музыкантаў-выканаўцаў на медных духавых інструментах. Багата гэтымі днямі работы ў журы, якое ўзначальвае заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР галоўны дырыжор Савецкай Арміі А. Міхайлаў: праслухаць каля паўтараста маладых удзельнікаў, вызначыць лепшых... Музыканты, адзначаныя прэміямі і дыпломамі, будуць названы амаль праз тыдзень — 6 кастрычніка падводзяцца вынікі конкурсу, мае адбыцца традыцыйны канцэрт лаўрэатаў. Новыя імёны, вядома, паведаміць і «ЛіМ».

**Наш кар.**

## «Камерата» на фестывалі

У Паневяжысе прайшоў першы ў краіне міжнародны фестываль вакальнай джазавай музыкі. Фестываль (ён цяпер будзе адбывацца праз год) быў даволі прадстаўнічы. Апрача калектываў з Літвы, у ім удзельнічалі «Свінг сінг сексет» з Эстоніі, «Спірытуал сінгерз бэнд» з Вроцлава і «Нью свінг квартэт» з Югаславіі.

Сярод запрошаных арганізатарамі фестывалю быў і мінскі ансамбль «Камерата» (пад кіраўніцтвам Алега Шыкунова), які на сцэне Палаца культуры «Экранас» паказаў праграму з твораў джазавай класікі — кампазіцыі Д. Элінгтона, Д. Гершвіна, О. Пітэрсона. «Камерата», калектыў, вядомы як выканаўца пераважна акадэмічнай музыкі, плануе выступіць з новай праграмай і на джаз-фестывалях у Віцебску, у Тарту.

**Ч. КАСІНАС.**

## У дзень нараджэння залы

Сёлета зала Беларускай дзяржаўнай філармоніі адзначыла свята. 20 гадоў назад тут адбыўся першы з многіх тысяч канцэртаў, якія дазваляюць цяпер назваць гэтую залу галоўнай. Колькі праслаўленых артыстаў ацанілі яе гасціннасць і зычлівасць! Але для ўсіх без выключэння выступаць тут — заўсёды сур'ёзны экзамен.

І як цудоўна, што «дзень нараджэння залы» супаў з канцэртам народнага артыста РСФСР прафесара Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі Віктара Мяржанава. Выдатны савецкі піяніст выступае ў нашым горадзе не ўпершыню. Магчыма, таму ў артыста адразу ж наладзілася тая двухбаковая сувязь з залай, што ўзнікае ў атмасферы ўжо заваяваных слухацкіх сімпатый.

Лёгкае дакрананне да інструмента — і быццам з цішыні нараджаецца светлая паэзія шуманаўскай «Арабескі». У трактоўцы самых папулярных і цяжкіх твораў фартэпіяннага рэпертуару — «Карнавала» Р. Шумана і Балады соль-мінор Ф. Шапэна — В. Мяржанаў праявіў якасці, якіх бракуе ў фартэпіянным выканальніцтве: палкі тэмперамент, але без эмацыянальных перабольшанняў, бліскучую віртуознасць, але без знешніх эфектаў, арыгінальнасць выканаўчай версіі рыцарска-ашчадным стаўленні да аўтарскай задумы.

У Пятай санаце А. Скрабіна прывабліва «выканальніцкая» рэжысура. Піяніст нібы падкрэслівае асаблівасць кампазітарскага стылю А. Скрабіна — спалучэнне вытанчанасці гарманічнай мовы з класічна стройнай формай. У інтэрпрэтацыі пяці мазурак Ф. Шапэна (з розных опусаў) В. Мяржанаў імкнецца дакладна перадаць найтонкія дэталі мініяцюр і надаць музычнаму апавяданню выразнасць багатых адценняў чалавечай мовы.

Зведваеш радасць адкрыцця, калі сустракаешся з мастаком адухоўленым, які жывіць сваю творчасць пастаянным пошукам і які заваблівае ў гэты пошук іншых.

**У. НЕХАЕНКА,**
**старшы выкладчык Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.**

## Адзін з найстаражытных

Гуслі, як і цымбалы, — адзін з самых старажытных інструментаў свету. Многія народы далі ім сваю назву на роднай мове: кантэле, кокле, кесле і г. д. А проста іх называюць рускімі, фінскімі, латышскімі, беларускімі гуслямі.

У Старажытнай Русі, у склад якой уваходзілі і беларускія землі, гуслі набылі значэнне ўсенароднага інструмента. Ім належала асаблівая роля: яны — неад'емны прадмет побыту: на іх іграюць на гулянках, пірах, вяселлях, каляндарных святах, пра іх спяваецца ў народных песнях. Росквіт майстэрства ігры гусляроў прыпаў на эпоху феадалізму, калі гусляры былі вестунамі і летапісцамі асноўных падзей жыцця народа і ўдзельнікамі ўсіх урачыстасцяў. Княжацкі пір, дзе хваліліся незлічонай казной, добрым канём, сілай і ўдачай, прыгожай дзяўчынай, не быў пірам, калі на ім весела і заўзята не ігралі танцы гусляры і не «заводзілі прыпевак».



Іграе Ганна Кавалёва.

Сёння цікавасць да свайго кроўнага, да ўсяго «дзедаўскага» робіцца ўсё больш шырокай. Перажывае новы ўздым і народна-інструментальная музыка. Ужо больш чым 10 гадоў педагог Віцебскага культасветвучылішча Ганна Кавалёва вучыць моладзь ігры на гуслях. Яе выпускнікі іграюць у ансамблі «Сярэбраныя струны».

Яна іграе на гуслях, удасканаленых на рубяжы XIX—XX стст. М. Прывалавым сумесна з В. Андрэевым. «Гэты самабытны інструмент нашых продкаў, якому шмат стагоддзяў, я палюбіла за прыгожы тэмбр і іграю з вялікім захапленнем, — гаворыць Ганна Паўлаўна. — Іграю на канцэртах, для гасцей горада, іграю дома сваім сябрам».

Творчую струнку абудзілі ў ёй маляўнічыя вяселлі, іншыя святы, якія ладзілі ў вёсцы, дзе жылі яе бацькі. Асабліва вабіла ігра «дзедаўскіх» гурткоў. Яны захапілі яе сваёй самабытнасцю, прастатой... Ганна Кавалёва — ураджэнка Полацка, пасля заканчэння 8 класаў паступіла ў педвучылішча. У гады вучобы захапілася гісторыяй роднага горада, дзе так адчуваецца дух даўніны. Апанавала Ганну мара: адрадзіць гуслі — адкрыць забытую старонку гісторыі...

Скончыла Гомельскае музвучылішча, працавала кіраўніком ансамбля прафтэхадукацыі «Сіверка», потым паступіла ў Ленінградскі інстытут культуры. Будучы студэнткай, пазнаёмілася з узорамі гусляў у музеях Ленінграда, з беларускай батлейкай. Старанна вывучала дакументы, старадаўнія гуслі з калекцый Прывалава, Раманава, даследавала шляхі з'яўлення гусляў на Беларусі. Пасля, вярнуўшыся дадому, арганізавала навучанне на гуслях у культасветвучылішчы Віцебска і дасягнула поспехаў у любімай справе.

«Пастаянна абнаўляю праграму, — гаворыць Ганна Паўлаўна. —Да 500-годдзя Скарыны падрыхтавала п'есы з «Полацкага сшытка». Вось толькі амаль увесь рэпертуар беларускія гусляры іграюць з рукапісаў, бо нотных публікацый няма».

Свет нашых народных інструментаў багацее: беларускія майстры ўдасканалілі ліру, дудачкі, стварылі іх сямейства... У чароўным царстве гукаў зойме належнае месца і найстаражытны голас гусляў.

**З. НАСЦЕНКА.**

# БЕЗ САМАЗАСПАКОЕНАСЦІ

**Сярод падзей мастацкага жыцця Беларусі міжабласной выстаўцы, што праходзіла ў жніўні ў Мінску, належыць асобае месца. Гэтая выстаўка адбылася амаль праз дваццаць год пасля падобнай жа экспазіцыі.**

**Зразумела, чакаць ад выстаўкі якога-небудзь эпатажу гледача, што стала апошнім часам звычайным атрыбутам прадстаўлення твора мастацтва, было б проста недарэчна. Выстаўка традыцыйная. Але ў адрозненні ад іншых яна выключае такі звыклы прынцып ацэнкі, як «удача» ці «няўдача». Экспазіцыя, што складалася з работ брэсцкіх, віцебскіх, гомельскіх, гродзенскіх і магілёўскіх мастакоў, прадэманстравала вельмі канкрэтны пласт мастацтва даволі поўна і падрабязна. Гэта сур'ёзны матэрыял для мастацтвазнаўчага аналізу, якому супрацьпаказаны эмацыянальна-густавы падыход і паспешлівыя абагульненні, накшталт: «А, гэта ж перыферыя, правінцыя... што з яе возьмеш!!»**

ЯКОЕ Ж агульнае ўражанне ад выстаўкі? Увогуле добрае. Менавіта аб правінцыялізме сёння ўжо нельга гаварыць — экспазіцыя не саступае іншым рэспубліканскім як па тэматычнай разнастайнасці, так і па мастацкаму ўзроўню. У абласцях працуюць не толькі добра знаёмыя нам па шматлікіх папярэдніх выстаўках П. Данэлія, Д. Алейнік, М. Казакевіч, А. Захараў, І. Рудчык, У. Церабун, Э. Белагураў, С. Абрамаў, але з'явіліся і новыя імёны (у тым ліку і дэбютанты), ад якіх можна шмат чаго чакаць.

У «геаграфіі» экспазіцыі з'явіліся вельмі рэдкія раней на выстаўках гарады Полацк, Ліда, Ветка, Ваўкавыск, Рэчыца.

Нарэшце адыходзяць рэцэдывы строга рэгламентаванай «цэнзурнай палітыкі» — калі нехта спрабаваў асаджваць мастакоў, а часам і дырэктыўна здымаць са сцен творы. Мастакі самі зрабілі адбор работ, самі зрабілі экспазіцыю і ў якасці гаспадароў Палаца мастацтваў прадстаўлялі сябе на вернісажы.

*Зразумела, што такая дэмакратызацыя мастацкай палітыкі яшчэ шмат у чым нязвыклая.* Не ўсе аказаліся да гэтага гатовымі, таму на выстаўку трапілі і проста слабыя, выпадковыя рэчы. Відаць, мастакоўскую адказнасць перад сабою і часам *яшчэ трэба выхоўваць.*

Абсалютная большасць твораў, за выключэннем работ аб часах сталіншчыны, а таксама работ, дзе на першым месцы пластычны эксперымент, маглі б па свайму зместу ўвайсці ў экспазіцыі, што ладзіліся па інерцыі застойных гадоў. Уласна кажучы, менавіта гэта і *выклікала папрокі з боку мастацкай грамадскасці.* Прэтэнзіі такога роду дастаткова сур'ёзныя, але яны са сферы эмацыянальнага ўспрымання мастацтва. Так, адлюстраванне рэчаіснасці ва ўсіх яе складанасцях і супярэчлівых *калізіях, якія добра прадэманстравала* сучасная публіцыстычная літаратура, для пластычных мастацтваў пакуль што толькі праграма на далёкую перспектыву. І тым не менш творы, выкананыя насуперак стэрэатыпам мыслення апошніх дзесяці гадоў, *на* выстаўцы былі.

Размова, зразумела, ідзе не аб скараспелых карцінах пад умоўнай назвай «У гушчы перабудовы». Размова аб іншым.

Напрыклад, узрасла ўдзельная вага філасофска-алегарычных рашэнняў тэматычнай карціны (А. Малей, С. Палякоў, У. Качан); эмацыянальная акрэсленасць лірычнага краявіду прадстала як адна з найважнейшых характарыстык гэтага жанру (Д. Алейнік, А. Багустаў, Я. і Л. Пакаташкіны); у скульптурным партрэце ўсё больш увагі надаецца «рукатворнасці» пластыкі (Г. Буралкін, К. Аляксееў, Д. Папоў); спавядальна-асабістыя інтанацыі праходзяць і ў кампазіцыйнай скульптуры (У. Церабун, А. Гвоздзікаў).

Калі абагульніць тэмы, сюжэты і вобразы выстаўкі, дык кідаецца ў вочы, як часта і нават дэманстратыўна мастак выносіць на агульны суд менавіта сацыяльныя, маральныя катэгорыі — «чалавек і прадмет» (М. Дундзік), «цывілізацыя і прырода» (С. Цімохаў), «твар і маска» (А. Концуб, У. Рубцоў), «час і памяць» (Э. Куфко, Б. Кузьмічоў), «мастак і мадэль» (У. Коўзусь, М. Палкоўнічэнка).

Некаторыя мастакі спрабуюць даследаваць вострыя, а дакладней кажучы, болевыя праблемы айчыннай гісторыі і *сённяшняга дня.*

Такія карціны, як «Стары блазен», «Сляпыя» і «Выбар» Ю. Нікіфарава, «Дэфармацыя асобы» А. Малея, «Вясельнае падарожжа» А. Концуба, «Мая радаслоўная» У. Рубцова, «Табе, чалавек» Г. Мазурава, *няпростыя па форме і нялёгкія* для імгненнага ўспрымання. Яны шчасліва пазбаўлены тых прыёмаў, якімі ствараліся карціны, дзе ўсё міла, прыемна, да непазнавальнасці прыгожа... і відавочна непадобна на тое, што мы *бачым вакол сябе.* Такога роду творы (тут я яшчэ прыгадаў палотны В. Куфко, У. Качана, С. Грынкевіча) маюць выразны сэнсавы, праграмны характар. Складаецца ўражанне, нібыта мастак сам сябе абараняе ад нейкіх падсвядомых, падспудных унутраных калізій — скрытнічае праз дэманстратыўную «шчырасць», увесь час падкрэслівае, як ён заняты капітальнымі, вечнымі пытаннямі чалавечага быцця.

Гэта, зразумела, не больш чым гіпотэза, але яна пэўным чынам пацвярджаецца не толькі гэтай выстаўкай, але і творчасцю мінскіх мастакоў.

Тэма чалавечых кантактаў, узаемаразумення ставіцца некаторымі ўдзельнікамі выстаўкі ў форме пытання, папярэджання, трывожнага роздуму. Карціны «Апошнія кветкі года» А. Малея, «Расчыненае акно» Р. Ландарскага, «Змова» С. Палякова, «Чырвоная лямпа» А. Канавалава рашаюць, па сутнасці, такія філасофскія праблемы, як суадносіны «я» і «не я». У падобных творах гучыць пытанне аб духоўнай еднасці людзей.

У жывапісных творах у якасці «рэквізіту» скарыстоўваюцца такія мастацкія сістэмы, як тэатралізацыя, алегорыя, прымітыў, «цытаты» з мастацтва мінулых часоў. Іх «рэквізітнасць» у тым, што названымі сродкамі карыстаюцца даволі свабодна, іх выбіраюць і камбінуюць па жаданні. Тут на першым месцы не столькі творчая неабходнасць, як вынаходлівасць мастака. Творчасць Ю. Нікіфарава, У. Рубцова і шэрагу іншых гэта пацвярджае. Калі ў мастацтве ёсць фасадны бок, дык павінны існаваць і глыбінныя з'явы, якія маюць адносіны не столькі да стылёвых характарыстык, як да сферы творчага ўсведамлення.

Часта гавораць пра тое, што мысленне мастака 80-х гадоў набывае большую ў параўнанні з мінулым шматпластавасць, палярнасць і супярэчлівасць. Сапраўды, пакаленне мастакоў-«бацькоў» валодае больш цэльным і кампактным мысленнем. І гэта нельга разглядаць як адмоўную з'яву, магчыма, нават наадварот. Справа ў тым, што ўнутраны свет мастакоў старэйшага пакалення характарызуецца той трываласцю, якая для іх малодшых калег з'яўляецца мэтай, якую цяжка дасягнуць.

У гэтым сэнсе лёгка прасачыць глыбінную вобразна-пластычную эвалюцыю жывапісу П. Данэліі. На змену «графічнаму» прастораваму геаметрызму ягоных ранейшых работ з'яўляецца пругкая жывапісная плаўнасць, каларытны аналіз. І ў апошніх творах І. Фецісава эвалюцыя пластычных ідэй дазваляе гаварыць пра новыя нюансы ў творчасці мастакоў старэйшага пакалення. Ад жанру ён зДолеў рэзка пайсці наперад, стварыўшы такія палотны, як «Разведчыкі» і «На зямлі Афганістана». Апошняя асабліва прыцягвае ўвагу гледачоў: на гэту трагічную тэму ў савецкім жывапісе работ няшмат. Аднак, творчасць іншых мастакоў, калі меркаваць па экспазіцыі, нібыта «застаялася» ў часе. Па стылістычных прыёмах, аднойчы знойдзеных, па тэмах, па апрабаваных рэцэптах, што ператварыліся ў штампы і стэрэатыпы. Я маю на ўвазе работы П. Явіча, У. Кухарава, М. Ягоравай.

І вельмі многа на выстаўцы гэткай паўсоннай сузіральнасці, асабліва ўласцівай акварэлістам. Пра гэта яскрава гавораць нават назвы работ: бясконцыя «вёсны» і «восені», «цёплыя вечары» і «сонечныя дні», «першы снег» і «змярканне», «туманы» і «захады». Зразумела, сярод іх ёсць і эфектныя, прыгожыя, якія б маглі ўпрыгожыць інтэр'ер, пацешыць вока... Але сёння гэтага ўжо мала.

Сёння сацыяльны статус выяўленчага мастацтва ў нашым грамадстве да жалю нізкі. Гэта выстаўка таксама не дае падстаў для аптымізму. Магчыма, мастацтва проста перастала быць спосабам спасціжэння свету. І, адпаведна, паніжаецца маральны прэстыж мастака?

Патрэбна велізарная планамерная і мэтанакіраваная праца па эстэтычнай асвеце. Час вымагае актыўнасці мастака ў фарміраванні вобраза і стылю жыцця, у асэнсаванні традыцыі і захаванні майстэрства. У гэтым сэнсе выстаўка твораў абласных мастакоў марна не прайшла. Не будзем загадваць, што будзе наперадзе. Мы жывём у дынамічны час. Так сёння «статус» беларускага выяўленчага мастацтва вызначаюць сталічныя мастакі. Але ці доўга захаваецца такое становішча?

**Барыс КРЭПАК.**



Ж. ЧЫСТАЯ. Прахожы аб Гесэ. Алей. 1987.



С. ПАЛЯКОЎ. Мастакі і іх музы. Алей. 1987.



М. МАЕЎСКІ. Рэквіем. Алей. 1988.

## З паэтычнай пошты

**Анатоль ДЭБІШ**

●

У грудзі б'юць: маўляў, мы за народ,
Жыццём сваім ахвяраваць гатовы,
І пройдзем скрозь агонь, ваду і лёд
Дзеля яго. І словы... словы... словы...

Нашто крычаць, скажыце, без патрэб?
Ад крыку не прыбудзе ў краме хлеба.
Араты ў полі моўчкі сее хлеб —
У грудзі біць няма яму патрэбы.

**Міхась КУРЫЛА**

●

Асенні сад зноў лісцем зацярушаны,
і веснічкі пры ўваходзе — насцеж...
Як самае святое, непарушнае
жыве тут цёплы успамін пра маці.
У сад акно цяпер не расчыняецца,
зашпакляваны шыбы да вясны.
Над градкамі яна ўжо не схіляецца,
ды ўсё не верыцца...
Чакаецца.
Прыходзіць маці толькі ў сны.

**Валянціна ПЧОЛКА**

### Вуліца Еўдакіі Лось у Віцебску

Тут вулачка яе
Ля Юр'евай гары,
Уся ў чаромсе,
У суквеццях бэзу.
На белым мармуры гарыць
Імя выдатнай паэтэсы.
Удалячынь глядзіць сасна,
Прад ёю горад — на далоні,
А мне здаецца, то — Яна
З вятрамі, сонейкам гамоніць.

**Лідзія ЯЛОЎЧЫК**

### Пах бэзу

Там, за даллю, радзіма мая.
Небасхіл палымнее зарою.
Дом стары, немалая сям'я,
Куды памяць прыводзіць парою.
Агародчык і бэзу кусты
Пабялелі, нібы ў завіруху.
Дом цяпер адзінокі, пусты —
Дзверы, вокны забіты наглуха.
Басанож па сцяжынцы прайду
Да маўклівага дому старога
І шчакой да сцяны прыпаду,
Як да любага сябра былога.
Абдыму з міламаннем кусты,
Твар абмыю празрыстай расою.
Бэзу пах асаблівы, густы...
Дом праветрыць пара ад застою.
Паціхеньку я ў хату ўвайду,
Расчыню шырэй вокны і дзверы.
Як бывала, усё там знайду...
Радасць сэрца запоўніць без меры.
Зноў убачу, што дома сям'я,
Бэз духмяніць праз вокны і сені...
Там, за даллю, юнацтва зямля,
Дарагія мінулага цені.

**Таццяна КАНАПЛЁВА**

### Згадка

Мядзведзіца купалася ў Лучосе, —
Па вясне ў вадзе высокай.
Абнюхвала над берагам
Пахучую чаромху.
Падсушвала на мосце лапы.
Затым — далей плыла.
Трапляла у Дзвіну,
Ды не адна, —
Вяла яшчэ Малую.

# ПАРТЫЯ ГЕРАІЧНАГА ПОДЗВІГУ І ТРАГІЧНАГА ЛЁСУ



**З карэспандэнтам «ЛіМа» гутарыць ветэран партыі, былы член Бюро ЦК КПЗБ М. С. АРЭХВА**

**Звяртаючыся да старонак гісторыі, мы імкнёмся па-новаму, глыбока і бескампрамісна асэнсаваць шлях, пройдзены нашым народам, партыяй. Пра важнасць такога асэнсавання сведчыць і лімаўская пошта. Так, В. Г. Саковіч з Бабруйска заклікае нас больш змяшчаць матэрыялаў аб удзеле беларускага народа ў сацыялістычнай рэвалюцыі, аб утварэнні БССР, аб беларускіх дзяржаўных і партыйных дзеячах мінулага.**

**Сёння мы друкуем гутарку з чалавекам незвычайнага лёсу, удзельнікам рэвалюцыйнай барацьбы ў Заходняй Беларусі.**

**— Паважаны Мікалай Сямёнавіч! Вы былі адным з кіраўнікоў ЦК КПЗБ, 15 гадоў працавалі ў падполлі. Двойчы былі арыштаваныя, тройчы польскі буржуазны суд прыгаворваў вас да турэмнага зняволення, больш як 5 гадоў праведзена ў буржуазных турмах. Вы былі актыўным удзельнікам гераічных падзей, добра ведалі дзеячаў КПЗБ, імёны якіх сталі сёння легендарнымі...**

— Камуністычная партыя Заходняй Беларусі — гэта партыя рэвалюцыйнага подзвігу і трагічнага лёсу. Яна змагалася за звяржэнне капіталістычнага ладу рэвалюцыйным шляхам і ўстанаўленне Савецкай улады, канфіскацыю землеўладання памешчыкаў з раздачай яе сялянам. КПЗБ заклікала да самавызначэння Заходняй Беларусі аж да аддзялення яе ад Польшчы, выступала ў абарону СССР. Зразумела, буржуазія не магла прымірыцца з дзейнасцю Кампартыі і вяла з ёй самую жорсткую барацьбу.

Як вядома, у 1921-м годзе заходнія землі Беларусі адышлі па Рыжскаму дагавору да буржуазна-памешчыцкай Польшчы. Жыхары заходніх абласцей Беларусі сталі грамадзянамі Польшчы. Партыйныя арганізацыі РКП, якія дзейнічалі на гэтых тэрыторыях, перайшлі ў падполле і ўліліся ў Камуністычную партыю Польшчы. У яе ўваходзіла тэрытарыяльная аўтаномная частка — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, якая была створана ў 1923-м годзе.

Ва ўмовах падполля выкананне любога задання партыі было гераічным учынкам. Амаль палавіна ўсіх членаў КПЗБ пастаянна знаходзілася ў турмах. Наўрад ці была ў 30-ыя гады іншая такая нелегальная партыя, на долю якой выпала б столькі самых жорсткіх рэпрэсій, столькі судовых расправ, колькі іх давялося вытрымаць Камуністычнай партыі Польшчы і асабліва Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. І камуністы з гонарам вытрымалі ўсе выпрабаванні. Камуністы Польшчы лічыліся самым моцным атрадам еўрапейскага камуністычнага руху.

Будучы нелегальнай і працуючы ў падполлі, у строгай канспірацыі, у жорсткіх умовах рэжыму дыктатуры Пілсудскага, КПЗБ узначаліла выступленні рабочых, сялян, беспрацоўных. І амаль усе яны заканчваліся перамогай. На Навагрудчыне, на брэсцкім Палессі, Гродзеншчыне, на Мядзельшчыне і ў Беластоку і цяпер расказваюць легенды аб тым, як з лозунгамі «Зямля сялянам без выкупу», «Далоў дыктатуру пілсудчыкаў!» ішлі на мітынгі і дэманстрацыі, як баставалі, уступалі ва ўзброеныя сутыкненні з паліцыяй.

КПЗБ мела падпольныя друкарні ў Вільні, Беластоку, у розных гарадах працавалі друкарскія ўстаноўкі. Выдаваўся цэнтральны орган КПЗБ — газета «Чырвоны сцяг», тэарэтычны часопіс «Большевик», друкаваліся лістоўкі, адозвы на беларускай, рускай, польскай, яўрэйскай, літоўскай мовах. Камуністы ўдзельнічалі ў выданні легальных органаў — газет «Барацьба», «Беларуская газета», «Наша воля», сатырычных часопісах «Маланка» і «Асва». Спалучаючы падпольную барацьбу з легальнымі метадамі, камуністы актыўна працавалі ў прафсаюзах, у Беларускай сялянска-рабочай грамадзе, Таварыстве беларускай школы, у Беларускім сялянска-рабочым клубе «Змаганне», удзельнічалі ў выбарах прадстаўнікоў беларускага народа ў Польскі сейм, кіравалі Камуністычным Саюзам Моладзі Заходняй Беларусі.

Рэвалюцыйная барацьба ва ўмовах падполля нараджала людзей, якія былі сапраўднымі волатамі духу. Мікалай Дворнікаў, Сяргей Прытыцкі, Сямён Клінцэвіч, Вера Харужая, Раман Вольф... Я мог бы называць дзесяткі імёнаў...

**— Але ці ўсё пра лёс КПЗБ расказалі ўжо гісторыкі? Можа, ёсць старонкі, якія закрыты нават для іх?**

— Такія старонкі ёсць. І далёка не да ўсіх дакументаў, галоўным чынам звязаных з роспускам Кампартыі Польшчы і яе састаўных частак — КПЗБ і КПЗУ, — знішчэнню кіруючага актыву гэтых партый маюць доступ даследчыкі.

Вазьміце такую падзею, як роспуск партыі. Асобнага рашэння аб роспуску Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі не было — яно ахоплівалася рашэннем Прэзідыума Выканкома Камінтэрна ў жніўні 1938 года аб роспуску Камуністычнай партыі Польшчы (жнівень 1938 года).

21 лютага 1956 года ў «Праўдзе», у дні работы XX з'езда КПСС была апублікавана заява Цэнтральных Камітэтаў камуністычных партый Савецкага Саюза, Балгарыі, Фінляндыі і Італіі сумесна з Польскай Аб'яднанай рабочай партыяй. У ёй гаварылася, што абвінавачанне супраць Кампартыі Польшчы, а значыць, і супраць КПЗБ і КПЗУ, было сфабрыкавана правакатарамі, а роспуск яе быў неабгрунтаваны. Як фальсіфікаваліся дакументы, якія ляглі ў аснову лжывага абвінавачання? Існуе версія, што гестапа падсунула Сталіну спіс тых кіраўнікоў камуністычных партый, якія быццам бы былі тайнымі агентамі гестапа. Але гісторыя грунтуецца на фактах, а доступу да многіх дакументаў аб дзейнасці Камінтэрна мы да пэўнага часу не мелі. Будучы навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, я спрабаваў атрымаць тыя дакументы, на падставе якіх былі органамі НКУС арыштаваны ў 1937-ым годзе кіруючыя работнікі ЦК КПЗБ. Такія дакументы я не атрымаў. А матэрыялы следства... Пра што мне маглі сказаць «прызнанні» ў шпіянажы і правакатарстве сумленных, праверaных шматгадовай падпольнай работай, адданых ленінізму людзей, якіх я сам добра ведаў? Гэтыя следчыя матэрыялы — у крыві. Я адмовіўся іх глядзець...

**— Якія падзеі папярэднічалі роспуску КПЗБ? Якія з іх вы лічыце асабліва важнымі?**

— Такой падзеяй быў VII кангрэс Камінтэрна, які праходзіў летам 1935 года ў Маскве. Ён меў велізарнае, паваротнае значэнне для ўсяго міжнароднага камуністычнага руху.

Трэба сказаць, што Сталін у 1924-ым годзе пасля V кангрэса Камінтэрна адступіў ад ленінскіх прынцыпаў арганізацыі дзейнасці камуністычных партый. Тое, што Ленін называў памылковым, лявацкім ухілам, запанавала ў дзейнасці камуністаў у розных краінах. У Польшчы — таксама. Ленін у «Дзіцячай хваробе «левізны» ў камунізме» даў класічную фармулёўку рэвалюцыйнай сітуацыі. Калі ж яе няма, камуністы павінны весці ўпартую работу ў масах, выкарыстоўваць усе магчымыя формы легальнай барацьбы, ісці на саюз з дэмакратычнымі партыямі ў абарону буржуазных свабод.

Сталін у 1924 годзе ў артыкуле «Да міжнароднага становішча» выставіў тэзіс: «Фашызм ёсць баявая арганізацыя буржуазіі, якая абапіраецца на актыўную падтрымку сацыял-дэмакратыі. Сацыял-дэмакратыя ёсць аб'ектыўна ўмеранае крыло фашызму... Гэтыя арганізацыі не адмаўляюць, а дапаўняюць адзін аднаго. Гэта не антыподы, а блізняты...» Сталінскія тэарэтычныя палажэнні штурхнулі Камінтэрн улева і прадвызначылі на доўгія гады яго лявацкую тактыку. Але мы, рэвалюцыянеры - падпольшчыкі, не маглі не адчуваць, што ў нашай тактыцы штосьці памылковае. Заклікі да паўстання, да захопу ўлады, звяржэння буржуазнага ўрада, ліквідацыі буржуазіі і канфіскацыі землеўладання памешчыкаў — гэта праграмныя, стратэгічныя лозунгі, за імі ідзе толькі вузкі авангард, а наша задача была ўцягнуць у барацьбу шырокія масы.

Мы не ішлі ні на якія кампрамісы нават з апазіцыйнымі да дыктатуры Пілсудскага сіламі, напрыклад, з ППС, Сялянскай партыяй, БУНДам і іншымі дэмакратычнымі сіламі. Такая тактыка прыводзіла да сур'ёзных страт у барацьбе.

Вазьміце Германію. Гітлер жа не захопліваў уладу ўзброеным шляхам — ён атрымаў яе ў выніку выбараў. Процістаяць НСДАП мог толькі блок камуністаў і сацыял-дэмакратаў. Блока не было. Гітлер атрымаў адносную большасць галасоў выбаршчыкаў, і Гіндэнбург даручыў яму фарміраваць урад. Вось дзе пацярпеў паражэнне тэзіс Сталіна!

І вось VII кангрэс Камінтэрна. Уявіце сабе Калонную залу Дома Саюзаў. Ліпень. Дзімітраў на трыбуне без пінжака: горача. І раптам быццам вецер пранёсся па зале — кожная фраза Дзімітрава адпавядала таму, што выспявала ва ўсіх нас, да чаго мы падыходзілі навобмацак.

Георгій Дзімітраў па сутнасці абагульніў набыты з часу V кангрэса Камінтэрна вопыт міжнароднага рабочага руху і крытычна, з ленінскіх пазіцый ацаніў яго. Ён сказаў, што калі пры Леніне «сектанцкія недахопы» былі ўсяго толькі «дзіцячай хваробай», дык цяпер яны глыбока ўкараніліся і сталі заганамі. Неабходна, заклікаў ён, адмовіцца ад лявацкіх, сектанцкіх метадаў партыйнай работы, стварыць адзіны рабочы і антыфашысцкі народны фронт, абараняць дэмакратычныя свабоды ад наступу фашызму. Вопыт міжнароднага рабочага руху сведчыць, пераконваў Дзімітраў, што камуністам для перамогі неабходны сумесныя дзеянні з сацыял-дэмакратыяй, гэта значыць з нацыянальна-вызваленчым рухам і іншымі прагрэсіўнымі партыямі.

Мы слухалі яго і адчувалі, што да кіраўніцтва міжнародным камуністычным рухам прыходзіць новы правадыр. Дзімітраў выпакутаваў гэтае права — быць правадыром пралетарыяту — пасля працэсу ў Лейпцыгу, дзе ён адчуў на сабе, што такое фашызм, і здолеў даць яму бой.

**— А як прарэагаваў на выступленне Дзімітрава Сталін?**

— Сталін на некаторых пасяджэннях сядзеў у прэзідыуме кангрэса. З левага боку ад яго — часам Яжоў.

Справаздачу аб дзейнасці Выканкома Камінтэрна паміж VI і VII кангрэсамі рабіў Вільгельм Пік, з дакладам аб барацьбе камуністаў супраць пагрозы другой сусветнай вайны выступаў Пальміра Тальяцці (Эрколі). А Сталін маўчаў... Гэта нечуваная справа, каб Генеральны сакратар ЦК ВКП(б) на кангрэсе Камінтэрна — маўчаў!

Ленін на кангрэсах заўсёды выступаў на агульных пасяджэннях, быў у курсе работы секцый, пераконваў, спрачаўся, даказваў... А тут ідзе кангрэс, які вызначае стратэгічны паварот на саюз пралетарыяту з буржуазнай дэмакратыяй супраць фашызму!

Мне здаецца, Сталін прамаўчаў таму, што выступіць і ўхваліць даклад Дзімітрава азначала прызнаць памылкай свае ранейшыя канцэпцыі. А пайсці супраць — значыць, процівапаставіць сябе міжнароднаму камуністычнаму руху. Сталін не мог дазволіць сабе ні таго, ні другога. Але тады, у 1935-м, мы яшчэ не ведалі цану яго красамоўнаму маўчанню... У глыбіні душы ён, напэўна, быў супраць тактыкі антыфашысцкага народнага фронту. І гэта пацвердзілася ў наступныя гады, напярэдадні вайны, калі галоўным сваім ворагам Сталін стаў лічыць не германскі фашызм, а краіны буржуазнай дэмакратыі.

Гэта нанесла вялікі ўрон усяму міжнароднаму камуністычнаму руху, у тым ліку і ў Польшчы.

**— А як склаўся лёс членаў КПЗБ у момант роспуску Камуністычнай партыі Польшчы і пасля яго?**

— Камуністычная партыя Польшчы і яе састаўныя часткі — КПЗБ і КПЗУ — былі распушчаны і спынілі сваё існаванне ў 1938 годзе.

Паміж КПБ і КПЗБ былі ў свой час дружалюбныя адносіны, і па ўмовах канспірацыі з'езды КПЗБ праходзілі на тэрыторыі БССР. У Мінску знаходзіліся некаторыя ўстановы КПЗБ, было прадстаўніцтва пры ЦК КПБ з невялікім апаратам супрацоўнікаў і рэдакцыйных работнікаў. Была таксама школа, у якой на працягу 9-ці месяцаў вучыўся партыйна-камсамольскі актыў з падполля Заходняй Беларусі (каля 30-ці чалавек), пры Гістпарце дзейнічаў Заходні сектар, а пры Акадэміі навук БССР — камісія па вывучэнні Заходняй Беларусі. Усе гэтыя ўстановы былі ліквідаваны, а іх супрацоўнікі — рэпрэсіраваны.

На тэрыторыі Беларусі і іншых саюзных рэспублік было нямала палітычных эмігрантаў, якія знайшлі ў СССР палітычны прытулак ад праследавання буржуазных улад і працавалі на савецкіх прадпрыемствах. Усе гэтыя людзі былі рэпрэсіраваны, большая частка іх — расстраляна.

Потым, у пасляваенныя гады, мне стала вядома, што Яжоў у 1937 годзе будучы наркомам унутраных спраў аддаў загад аб расстрэле ўсіх камуністаў сярод эмігрантаў-палякаў, якія жылі ў СССР.

У 1937 годзе і раней былі рэпрэсіраваны члены кіруючага цэнтральнага актыву, якія знаходзіліся ў Мінску ці былі спецыяльна выкліканы ў СССР з польскага падполля: Р. Вольф, Э. Ідэль, І. Лагіновіч (Корчык), М. Майскі, М. Маслоўскі, С. Мертэнс (Скульскі), А. Альшэўскі, А. Розеншайн, І. Сяменнікаў, А. Славінскі, М. Словік, В. Харужая, Я. Шаломаў, Л. Янкоўская і многія іншыя.

Я пазбегнуў гэткай долі толькі таму, што знаходзіўся ў той час за межамі СССР, на нелегальным становішчы ў Чэхаславакіі, дзе займаўся справамі Пражскага аддзялення ЦК КПЗБ. Але мая жонка Алена Ваявудская, якая заставалася з малым дзіцем у Мінску, загінула ў 1937 годзе.

Яшчэ раней, у 1933 годзе, былі рэпрэсіраваны былыя кіраўнікі Сялянска-рабочай грамады і «Змагання» — былыя дэпутаты польскага сейма П. Валошын, Ф. Валынец, І. Гаўрылік, І. Гарэцкі, І. Дварчанін, П. Крынчык, П. Мятла і С. Рак-Міхайлоўскі, а трохі пазней — Б. Тарашкевіч. Разам з імі былі арыштаваны таксама і некаторыя кіруючыя дзеячы ЦК КПЗБ — Я. Бабровіч, А. Капуцкі, П. Клінцэвіч (Гарбацэвіч), Л. Родзевіч і іншыя.

**— У 1937 годзе, у момант роспуску КПП, у радах КПЗБ было амаль 7 тысяч членаў, ці былі яны пазней прыняты ў ВКП(б)?**

**(Заканчэнне на стар. 14—15).**

# ЧАСОПІСЫ-89: планы, задумы, пошукі

**Рэдакцыя працягвае друкаваць інтэрв'ю з галоўнымі рэдактарамі рэспубліканскіх часопісаў. Сёння на пытанні нашага карэспандэнта адказваюць А. Грачанікаў і А. Шабалін.**

## Анатоль ГРАЧАНІКАЎ, галоўны рэдактар часопіса «МАЛАДОСЦЬ»

**— Анатоль Сямёнавіч, часопіс, рэдакцыю якога вы ўзначальваеце, як ужо бачна з яго назвы, шмат друкуе твораў маладых аўтараў...**

— Часопіс і ў далейшым мае намер падтрымліваць кожны талент, які спрабуе заявіць аб сабе. У такой важнай справе, як выхаванне творчай моладзі, не трэба баяцца, што нехта не апраўдае ўскладзеных на яго надзей. Большасць з тых, хто па-сур'ёзнаму ставіцца да літаратуры, мае мастакоўскія задаткі, з цягам часу, перакананы, сцвердзіцца як творчая асоба, індывідуальнасць.

І ў наступным годзе нашы чытачы пазнаёмяцца з творчасцю шэрагу новых аўтараў. У паэзіі дэбютуюць выпускніца адной са школ з Крупскага раёна Алена Якаўлева, навучэнка Гомельскага педагагічнага вучылішча Алена Алешына, настаўнік з Крупскага раёна Мікалай Цялега. Цікавай мае быць падборка вершаў будаўніка з Цюменскай вобласці Мікалая Сазонава. Калі ўжо гаворка зайшла аб паэзіі, нагадаю, што адбудзецца працяг сустрэч з нашымі мінулагоднімі дэбютантамі — А. Дэбішам, В. Куртаніч, Л. Рублеўскай, Т. Зіненка, якія пакуль што не выдалі сваіх першых зборнікаў. Маладыя ж паэты А. Сыс, П. Шруб, В. Шніп, В. Аколава, А. Глобус, У. Мазго, кнігі якіх добра вядомы чытачу, нашы пастаянныя аўтары.

Што тычыцца прозы, дык і тут адбудуцца маладосцеўскія дэбюты. З першымі апавяданнямі выступіць навуковец, фізік па прафесіі Стах Дзедзіч. Асноўная праблематыка яго твораў — сучаснае гарадское жыццё, праблемы моладзі ва ўмовах урбанізацыі грамадства. Тэма сучаснасці хвалюе і метадыста Глыбоцкага Дома культуры Ірыну Папурэнка, журналіста Уладзіміра Бельскага, якія таксама спрабуюць свае сілы ў малым празаічным жанры. А вось У. Міхно не так даўно дэбютаваў у «Маладосці» з апавяданнямі. Цяпер рыхтуецца да друку яго аповесць «Сэрца, розум і пачуццё», што мае падзагаловак «З армейскага блакнота». Аўтар расказвае пра сённяшнія будні арміі, закранае яе няпростыя праблемы.

**— Няблага заявіла аб сабе і маладосцеўская бібліятэка. Калектыўныя зборнікі маладых паэтаў і празаікаў, кніжка Анатоля Сыса... Што чакае чытача ў наступным годзе?**

— «Горкі вырай» — так назваў свой зборнік паэзіі М. Мятліцкі. Вершы і паэма, якія ўвайшлі ў яго, расказваюць пра драматычны лёс прычарнобыльскай вёскі. Убачаць свет паэтычныя зборнікі С. Шах, Л. Рублеўскай, А. Зэкава, Я. Малеца.

Выйдуць таксама першая кніга празаіка А. Наварыча «Ноч пацалункаў», вострасюжэтная аповесць У. Ягоўдзіка «Вочы начніцы», рыхтуецца зборнік прыгод, фантастыкі, дэтэктываў.

«Пад небам вечнасці» — кніга літаратурна-крытычных артыкулаў, нарысаў, эсэ, у якой паўстаюць постаці заўчасна пайшоўшых пісьменнікаў Еўдакіі Лось і Аляксея Пысіна, Сцяпана Гаўрусёва і Міхася Стральцова, Сымона Блатуна і Артура Цяжкага, Анатоля Сербантовіча і Уладзіміра Лісіцына. Іх няма з намі, ды іх уплыў на літаратуру па-ранейшаму адчувальны, бо гэта былі яркія творчыя асобы.

**— Гэта добра, што такая шырокая дарога даецца ў «Маладосці» маладым аўтарам. Але ж чытачу, пагадзіцеся, не так важна, якога ўзросту пісьменнік, яго цікавяць перш за ўсё самі творы, тыя праблемы, якія яны ўзнімаюць...**

— «Маладосць» — па аб'ёму другі «тоўсты» часопіс у рэспубліцы на беларускай мове. І, зразумела, мы не можам абмяжоўвацца толькі творамі маладых аўтараў. Прытрымліваемся такога правіла: адразу даваць дарогу ўсяму таленавітаму, незалежна, кім гэта напісана.

У паэтычным «партфелі» падборкі А. Звонака, С. Грахоўскага, К. Кірэенкі, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, П. Макаля, В. Зуёнка, А. Вярцінскага, Д. Бічэль-Загнетавай, С. Панізніка, С. Законнікава, У. Някляева, М. Мятліцкага, Р. Баравіковай, Т. Бондар, Г. Каржанеўскай, Г. Пашковай, А. Салтука, М. Дукса, К. Камейшы, В. Макарэвіча, А. Разанава, Л. Тарасюк, Ю. Голуба, В. Яраца...

Жыццё працоўных былой Заходняй Беларусі ўзнаўляецца ў рамане У. Дамашэвіча «Дарога да небакраю». Пра аповесць М. Аўрамчыка гаворыць ужо яе назва — «Палон». Духоўны свет сучаснай жанчыны даследуе ў аповесці «Марыя» Т. Бондар. Абяцаюць свае творы часопісу Я. Брыль, В. Быкаў, І. Пташнікаў, І. Чыгрынаў і іншыя вядомыя празаікі.

**— Звычайна кажуць, што любое перыядычнае выданне настолькі папулярнае, наскольні шырока адлюстроўвае дзень сённяшні. Але цяпер, у сувязі са зрухамі ў жыцці грамадства, акцэнты некальні змясціліся: небывалая цікавасць да гісторыі роднага краю, да гісторыі яго культуры...**

— Шырокі чытацкі рэзананс выклікалі гістарычныя нарысы М. Ермаловіча «Старажытная Беларусь», якія мы друкуем з сёмага нумара. Не палічыце нясціплым, але «Маладосць» адразу ж пасля выхаду чарговага нумара ў кіёсках не знайсці. Чарговыя нарысы М. Ермаловіча будуць публікавацца сёлета, а таксама ў наступным годзе. Гістарычная праблематыка знойдзе месца і ў іншых матэрыялах, якія дапамогуць знікненню так званых «белых плям».

**— У сувязі з гэтым узрастае роля публіцыстыкі...**

— Пастаянныя чытачы «Маладосці», відаць, даўно заўважылі, што ў другой палове кожнага нумара раздзел «Публіцыстыка» як бы аб'яднаны ў спецыяльны сшытак. Прытым паняцце публіцыстыка мы разумеем шырока. Гэта — і вострапраблемныя артыкулы, і выступленні пісьменнікаў, і нарысы, і творчыя партрэты вядомых дзеячаў літаратуры і мастацтва, і літаратурна-крытычныя артыкулы, прысвечаныя надзённым творчым праблемам. У гэтым жа накірунку будзем працаваць і надалей.

Назаву некалькі найбольш значных публіцыстычных *выступленняў наступнага года:* «Перабудова: рупліўцы і спажыўцы», «Адраджэнцы ці адрачэнцы» (пра нацыянальны нігілізм), «Салодкая вата» (праблемы кааператыўнага руху), «Азбука распусты» (дзённік маладой дзяўчыны).

## Аляксандр ШАБАЛІН, галоўны рэдактар часопіса «БЕЛАРУСЬ»

**— Аляксандр Андрэевіч, сёлета запомнілася шэраг публікацый часопіса «Беларусь», сярод якіх — старонкі «Анталогіі беларускай паэзіі 20-х гадоў». Ці ёсць намер прадоўжыць гэтыя публікацыі ў наступным годзе?**

— Найперш адзначу, што названая вамі «Анталогія...» даецца часопісу не так проста. Больш за шэсць дзесяцігоддзяў мінула з таго часу, як былі напісаны ці надрукаваны творы, да якіх мы вяртаемся сёння. Многае пакрыта пылам гісторыі. Бывае цяжка разабрацца, дзе дабро, дзе зло, хто правы, хто вінаваты, бо адна і тая ж падзея, адзін і той жа факт, адна і тая ж асоба разглядаюцца рознымі людзьмі, нават рознымі дакументальнымі даведкамі, з розных пазіцый, часам узаемавыключальных. І справа тут не ў журналісцкай боязі памыліцца, «паслізнуцца», а ў глыбокім усведамленні нашага абавязку гістарычна аб'ектыўна данесці да сучаснага чытача падзеі, імёны, супярэчнасці нашай мінуўшчыны. Хопіць памыляцца. Хопіць зыходзіць з *пазіцый бессаромнага* суб'ектывізму. Урэшце, хопіць баяцца сваёй мінуўшчыны, асцерагацца ўспамінаць імёны і падзеі, што выходзяць за межы стандартных уяўленняў ці кан'юнктурных афіцыйных меркаванняў. Гэта наша гісторыя, *якая б яна ні была.* Трэба вывучаць яе, ганарыцца ёю, а дзе трэба — і вучыцца на ўласным горкім вопыце. Лепш за нас саміх гэтага ніхто не зробіць...

Так што лічым сваім творчым абавязкам працягнуць пачатую справу. А калі спіс імёнаў, вартых чытацкай увагі, будзе вычарпаны, маркуем звярнуцца да старонак беларускай паэзіі 30-х гадоў. Не сумняваемся, што не толькі масавы чытач, а і прафесійны літаратар адкрыюць тут для сябе нямала новага і нечаканага. Рыхтуюцца да друку першыя выпускі «Анталогіі беларускага апавядання 20-х гадоў».

**— У адрозненне ад нашых «тоўстых» часопісаў, «Беларусь» абмежавана ў памерах, не мае магчымасці друкаваць вялікія празаічныя творы. Тым не менш, і такія спробы ёсць. Ці будзе нешта падобнае прапанавана ў 1989 годзе? Скажам, вострасюжэтнае, што прымушае з нецярпеннем чакаць кожны чарговы нумар?**

— У 1989 годзе плануем надрукаваць з працягам невялікую, цікавую, на наш погляд, фантастычную аповесць Васіля Гігевіча «Штучны розум». Ёсць у рэдакцыйным партфелі вострасюжэтныя фантастычныя творы і меншага памеру — апавяданні Станіслава Лема, Гора Відала, Анры дэ Рэнье ў перакладзе на беларускую мову.

Практыка паказвае, што нумары часопіса з падобнымі публікацыямі не залежваюцца на палічках кіёскаў. А мы маем патрэбу ў рэкламе, у далейшым павелічэнні тыражу. Ведаем: «зачапіўшыся» за дэтэктыў, чытач абавязкова пагартае і іншыя старонкі.

**— І ўсё ж асноўны накірунак у прозе — невялікае апавяданне?**

— Так, наш «фірменны» празаічны жанр — кароткае апавяданне. Мы нават у сваіх выхадных дадзеных надрукавалі прыпіску: «Рэдакцыя разглядае

# ПАРТЫЯ ГЕРАІЧНАГА ПОДЗВІГУ І ТРАГІЧНАГА ЛЁСУ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13).

— Былых членаў КПЗБ пачалі прымаць у ВКП(б) яшчэ перад вайной. Але прымалі іх толькі пасля ўсебаковай праверкі і на ўмовах больш строгіх, чым існаваўшыя для тых, хто ўступаў у партыю ўпершыню. Ім трэба было ўзяць рэкамендацыі двух членаў партыі, якія маюць стаж не менш як 10 гадоў і ў аднаго члена ВКП (б) з дарэвалюцыйным партыйным стажам. Выканаць гэтыя патрабаванні ва ўмовах Беларусі было практычна немагчыма. І толькі пасля XX з'езда і заявы пяці камуністычных партый у жніўні 1956 года ЦК КПСС прыняў рашэнне аб аднаўленні партыйнага стажу ўсім членам КПСС, якія раней былі ў КПП, КПЗБ, КПЗУ.

У выніку ў даваенныя гады было прынята ў ВКП(б) не больш як 30 былых членаў КПЗБ, а ў наступныя — у ваенныя і пасляваенныя, аж да рэабілітацыі КПЗБ у 1956 годзе — 300—400 чалавек. Гэтую лічбу назваў мне Прытыцкі ў асабістай размове са мной незадоўга да сваёй смерці. Асноўная маса былых членаў КПЗБ засталася ў глыбінных вёсках Заходняй Беларусі па-за партыяй. Я быў адноўлены ў правах члена ВКП(б) з партыйным стажам з 1920 года ў верасні 1945 года спецыяльным рашэннем бюро ЦК КПБ (б).

**— Пасля роспуску партыі члены КПЗБ аказаліся адарванымі ад рэвалюцыйнай справы, з якой звязалі свой лёс, ад партыі, часцінкай якой сябе лічылі. Іх, як вядома, падазравалі ў здрадніцтве... Як дзейнічалі былыя члены КПЗБ у гэтых умовах?**

— Мы былі ўпэўнены, што роспуск КПЗБ — з'ява часовая, што яе добрае імя будзе адноўлена.

Адным удавалася прабрацца праз межы некалькіх дзяржаў і прадоўжыць рэвалюцыйную барацьбу ў інтэрбрыгадах у Іспаніі. У брыгадзе Дамброўскага і ў іншых інтэрнацыянальных добраахвотных фарміраваннях рэспубліканскай арміі змагаліся многія выхадцы з Заходняй Беларусі — выхаванцы Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і Камуністычнага Саюза Моладзі Заходняй Беларусі: М. Мяткоўскі (Бабравіцкі), Г. Дуа (Боген), П. Буцько, В. Панюшка, В. Вялічка, А. Сяглюк... Іншыя імкнуліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі прадоўжыць барацьбу ў адзіночку. Паліцыянты, якія іх арыштоўвалі, гаварылі: «Пся крэў! Кампартыі няма, а камуністы дзейнічаюць!»

**— У канцы 60-х гадоў вучні сялянскай школы, дзе я тады працавала, вырашылі наведаць былога члена КПЗБ, які некальні гадоў прасядзеў у канцлагеры ў Картуз-Бярозе. Ён паміраў. Калі яму паведамілі, што прыйшлі камсамольцы, гэты чалавек прымусіў сябе ўстаць, і, перасільваючы крывавы кашаль, расказваў... Пэўна, падлеткі ўпершыню ўбачылі, што адданасць рэвалюцыйнай справе, грамадзянская мужнасць бываюць *такімі — у небагатай* хаце, без раскошы і пашаны. Яны пайшлі ўзрушаныя. А гаспадыня, жонка таго чалавека, усё даганяла іх, усё працягвала ім чырвоныя яблыкі, усё гаварыла, не выціраючы слёз: «Дзякую вам, дзеткі! Вы ж такую добрую справу зрабілі! Яму ж паміраць хутка. Яму ж трэба ведаць, што не дарма яго ў турмах катавалі, што аб ім помняць людзі!» ...Бяжыць час, а ўсё стаяць перад маімі вачамі яе працягнутыя рукі з яблыкамі...**

— Так... Вось што я скажу. Члены КПЗБ, якая была падвергнута роспуску, сустрэлі 17 верасня 1939 года як перамогу сваёй падпольнай барацьбы і ажыццяўленне сваёй мары аб аднаўленні Савецкай улады ў Заходняй Беларусі і ўз'яднанні яе з БССР.

Аднак пасля вызвалення заходніх абласцей Савецкай Арміяй тых, хто быў раней членам КПЗБ, рэдка прыцягвалі да савецкай і партыйнай кіруючай работы. А ў 1941-ым — *вайна. Першы на тэрыторыі* Беларусі партызанскі атрад ужо 26 чэрвеня 1941 года стварае В. Корж, удзельнік нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў Заходняй Беларусі. Падпольныя арганізацыі сталі адразу ўзнікаць там, дзе раней быў *моцны* ўплыў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Многія былыя члены КПЗБ кіравалі антыфашысцкім падполлем, стварылі антыфашысцкія камітэты. У Беларусі добра ведаюць імёны С. Прытыцкага, В. Харужай, У. Царука, В. Маркава, І. Урбановіча, В. Самуціна, А. Валынца, М. Крыштафовіча, З. Паплаўскага, С. Пацярухі, А. Федасюк... Але і пасля Перамогі аж да 1956 года недавер да былых членаў КПЗБ працягваўся.

Вазьміце такі прыклад. Пасля вайны быў вызвалены пасля адбыцця поўнага тэрміну зняволення адзіны, хто застаўся ў жывых з усіх рэпрэсіраваных кіраўнікоў Беларускай рабоча-сялянскай грамады і «Змагання» дэпутатаў Польскага сейма— Павел Крынчык. Працаваць навat на пасадзе старожа драўлянага склада ў Слоніме, куды ён вярнуўся, яму не дазволілі. А гэта ж быў чалавек, аддадзены справе рэвалюцыі. Перажыць усё гэта было цяжка.

Толькі ў 1956-ым годзе, пасля заявы ЦК пяці кампартый і рашэння ЦК КПСС аб аднаўленні партыйнага стажу члена КПСС былым членам КПП, КПЗБ, КПЗУ, мы ўздыхнулі свабодна. Гэта было для нас як вызваленне, як другое нараджэнне. Мы дажылі да моманту, калі дзейнасць у падпольнай КПЗБ перастала быць для нас падазронай плямай у біяграфіі, а стала тым, чым трэба ганарыцца. Але, *паўтару*, тысячы членаў КПЗБ засталіся па-за радамі КПСС, асабліва ў глухіх вёсках.

Цяпер тых, хто прымаў удзел у дзейнасці КПЗБ, засталося зусім мала. Яны маюць патрэбу і ў грамадскім прызнанні і ў простым чалавечым спачуванні.

У 1987 годзе, у сувязі з 70-годдзем Кастрычніка, прынята рашэнне аб невялікай прыбаўцы да пенсіі тым людзям, якія ў гады панавання буржуазнага ладу вялі барацьбу за ўстанаўленне Савецкай улады. Тады нам патрабавалася доўга ламаць супраціўленне некаторых работнікаў органаў сацзабеспячэння, тлумачыць ім, не толькі ім, што ва ўмовах БССР да такіх людзей адносяцца менавіта былыя члены КПЗБ. Што ж стала з нашым грамадзянскім сумленнем, калі пра тое, да чаго беларусы маюць права ставіцца як да сваёй нацыя-

рукапісы памерам не больш як 12 машынапісных старонак». А вось бачыце, даводзіцца друкаваць, у парадку выключэння, вядома, аповесці з працягам. Справа тут далёка не ў прабіўной сіле іх аўтараў, як лічаць некаторыя. Гэта ў прынятыя правілы ўносіць карэктывы само жыццё. Чытач хоча пазнаёміцца і з фрагментам новага рамана любімага пісьменніка, і з прыгодніцкай аповесцю. Што датычыць навеліста, то і ён не заўсёды ўкладваецца ў абмежаваную колькасць старонак. Кароткасць, канечне, сястра таленту, але і сам талент — паняцце наравістае, часам яму цеснавата ў межах дванаццаці старонак...

Пры ўсім пры гэтым, не магу не спаслацца і на пэўны «дэфіцыт» у нашай літаратуры кароткага апавядання. Часопісу цяжка ўплываць на яго развіццё, бо ён, часопіс, не столькі фарміруе, колькі адлюстроўвае стан сучаснай беларускай навелістыкі. Маладыя яшчэ пішуць — часам мы друкуем зусім неблагія іх творы! — а вось больш сталыя пісьменнікі, асабліва каранаваныя, з цягам часу адыходзяць ад апавядання. Ды гэта ўжо тэма іншай гаворкі.

У наступным годзе мяркуем надрукаваць новыя апавяданні Янкі Брыля, Івана Чыгрынава, Міколы Ракітнага, Яна Скрыгана, Анатоля Кудраўца, Георгія Марчука, Раісы Баравіковай, Уладзіміра Арлова.

**— Чым багаты паэтычны «партфель»?**

— Тут чытача таксама чакае нямала цікавых сустрэч. Назаву імёны Пімена Панчанкі, Дануты Бічэль-Загнетавай, Генадзя Бураўкіна, Васіля Зуёнка, Рыгора Барадуліна, Пятра Прыходзькі, Святланы Басуматравай, Юркі Голуба, Мар'яна Дукcы, Валянціны Коўтун, Віктара Яраца.

Больш будзем друкаваць перакладной паэзіі, пераважна аўтараў з братніх савецкіх рэспублік. Рыхтуюцца да друку нізкі сучаснай рускай, літоўскай, латышскай, грузінскай, украінскай паэзіі.

А пад рубрыкай «Упершыню ў «Беларусі» выступяць маладыя: В. Маслюк, А. Бадак, В. Куртаніч, У. Бабкоў, У. Сазонаў, А. Бембель.

**— І, напэўна ж, па-ранейшаму «Беларусь» будзе прадастаўляць «зялёную вуліцу» публіцыстычным выступленням?**

— Публіцыстыка — гэта стрыжань, калі хочаце, візітная картка кожнага выдання, асабліва нашага профілю. Сёння, калі краіна вырашае найадказныя задачы рэвалюцыйных пераўтварэнняў, калі надзвычай патрэбен пільны і грунтоўны публічны аналіз знаходак і пралікаў на шляхах перабудовы, гэтага і даказваць нікому не трэба.

Толькі правільна гавораць: нашы недахопы — гэта працяг нашых вартасцей. Так і тут. Не захапіцца б словам. Няхай нават яно будзе самым праніклівым і палкім. Трэба яшчэ нешта канкрэтнае рабіць, арганізоўваць, што, дарэчы, прама вынікае і з ленінскага вызначэння функцый друку. Мы выдатна ўжо навучыліся заклікаць адзін аднаго да барацьбы за працоўныя перамогі, не заўсёды самі імкнучыся да гэтых перамог. А, ужываючы вобраз вядомых сатырыкаў, усё агітуем іншых падмятаць вуліцу замест таго, каб самім брацца за мятлу...

Тут і мы, журналісты «Беларусі», бачым для сябе амаль некранутае поле дзейнасці. Сёетое, праўда, зроблена. Тая ж «Анталогія беларускай паэзіі 20-х гадоў» якраз і ёсць прыклад пераходу ад слоў пра барацьбу за захаванне імёнаў забытых творцаў да рэальнага паказу іх творчасці. Гэтак жа на рэйкі практычнай справы пераводзім прапаганду роднай мовы. Чытачы пазнаёміліся ўжо з першымі выпускамі старонкі «Роднае слова», дзе мы мяркуем даваць папулярныя ўрокі беларускай мовы. З новага года старонку апякуе новы вядучы — старшыня моўнай камісіі Беларускага фонду культуры Пятро Садоўскі. Ён, маем надзею, удыхне новае жыццё ў гэты каштоўны, на наш погляд, выпуск.

Канечне, у нашым перспектыўным плане цэлы шэраг уласна публіцыстычных артыкулаў, нарысаў, эсэ. Як вы правільна адзначылі ў сваім пытанні, практычна кожнае выступленне сёння мае сваю публіцыстычную скіраванасць.

Запрашаю ўсіх прыхільнікаў нашага часопіса да новых спатканняў. Калектыў рэдакцыі робіць усё магчымае, каб яны сталі цікавымі для вас.

*Вяртаючыся да надрукаванага*

# УСЁ Ў ТОЙ ЖА ПАЗІЦЫІ?

Нашы чытачы, напэўна, памятаюць, што пад такой назвай у нумары за 15 ліпеня «ЛіМ» змясціў агляд пошты, дзе закраналіся розныя аспекты той складанай сітуацыі ў справе аховы помнікаў гісторыі і культуры беларускай сталіцы, якая склалася ў сувязі з будаўніцтвам другой чаргі метрапалітэна. Нагадаем таксама, што своеасаблівым «каталізатарам» грамадскай думкі з'явіўся шэраг, мякка кажучы, некарэктных і тэндэнцыйных публікацый у газеце «Вячэрні Мінск», аўтары якіх не здолелі ўзняцца да асэнсавання цікавых і неадназначных працэсаў нашага жыцця, зняважылі прафесійную і чалавечую годнасць некаторых людзей, у прыватнасці, вядомага археолага і публіцыста Зянона Пазняка.

Да агляду «Усё ў той жа пазіцыі?» быў дададзены пастскрыптум. У ім мы палічылі патрэбным адгукнуцца на змешчанае ў «ВМ» 13 ліпеня рэагаванне «Партком АН БССР паведамляе». Падпісаны сакратаром парткома В. Мулярчыкам, дакумент, які кампраміснасцю сваёй выдаваў нежаданне займаць прынцыповую пазіцыю, засмуціў нас падменай сутнасці праблем — разглядам праз лупу таго ці іншага выказвання, неасцярожна прамоўленай фразы, палемічна завостранай думкі. Карацей кажучы, то быў яшчэ адзін узор бюракратычнай пільнасці, прыклад чарговай «разбіралаўкі». Пасля «вывучэння пытанняў» прымалася рашэнне «ўзмацніць работу»...

Можна было б, вядома, і не вяртацца ў верасні да падзей летняга месяца ліпеня. Гэтаксама наўрад ці мэтазгодна працягваць — пасля таго, як пазіцыі канчаткова акрэсліліся — абмен рэплікамі з «Вячэрнім Мінскам» (праўда, рэдакцыя гарадской газеты, на ўсялякі, відаць, выпадак, завяла новую рубрыку «Алё, «ЛіМ»!»). Разам з тым, нам сталі вядомыя некаторыя факты, якія папярэднічалі з'яўленню на старонках «ВМ» рэагавання «Партком АН БССР паведамляе» і якія, на нашу думку, трэба зрабіць здабыткам галоснасці.

Справа ў тым, што пасля публікацыі артыкула «Пазіцыя ці поза?» навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, кандыдат мастацтвазнаўства З. С. Пазняк напісаў заяву ў партбюро, адміністрацыю і мясцком акадэмічнай установы, дзе ён працуе, з просьбай абмеркаваць у калектыве згаданы артыкул, які сярод іншага закранаў яго імя як навукоўца і зневажаў яго годнасць. На падставе гэтай заявы была створана камісія, а неўзабаве на працягу двух дзён адбылося абмеркаванне. Выступіла некалькі дзесяткаў чалавек, была прынята рэзалюцыя сходу, падпісаная сакратаром партбюро Інстытута гісторыі АН БССР М. Бічом і старшынёй прафкома А. Сарокіным. Рэзалюцыю даслалі ў рэдакцыю «Вячэрняга Мінска», згодна дамоўленасці, якая існавала паміж камісіяй і кіраўніцтвам «ВМ».

Мы таксама атрымалі магчымасць пазнаёміцца з вывадамі, зробленымі камісіяй і сходам супрацоўнікаў Інстытута гісторыі. І зразумелі, чаму гэты дакумент (дарэчы, не вольны ад дваістасці) так і не быў апублікаваны. У ім, у прыватнасці, адзначалася: «Партыйнае бюро і прафком прызналі карыснай дзейнасць З. С. Пазняка, накіраваную на зберажэнне і прапаганду помнікаў гісторыі і культуры г. Мінска, і лічаць, што яна заслугоўвае падтрымкі. Па аднадушнай думцы членаў партбюро і членаў прафкома Б. Залескаму і М. Ільюшэнку (аўтарам артыкула «Пазіцыя ці поза?».— **А. Г.**) трэба было б публічна папрасіць у З. С. Пазняка прабачэнне за дапушчаныя ў артыкуле неаб'ектыўнае асвятленне яго дзейнасці па ахове помнікаў гісторыі і культуры і абразу яго годнасці».

Ці ж дзіўна, што рэдакцыі «Вячэрняга Мінска» больш даспадобы прыйшлося паведамленне В. Мулярчыка? Мы, вядома, не ставім пад сумненне права парткома Акадэміі навук БССР карэкціраваць, папраўляць у выпадку неабходнасці рашэнні партбюро Інстытута гісторыі АН БССР. Але, пагадзіцеся, паміж сцвярджэннем «аўтары артыкула «Пазіцыя ці поза?» у цэлым правільна паставілі праблему» (так у паведамленні В. Мулярчыка) і думкай людзей, якія ведаюць З. Пазняка па шматгадовай сумеснай працы, «трэба было б публічна папрасіць прабачэння»,— існуе, як кажуць, вялікая розніца.

Гэта ўжо не проста «ўдакладненне». І наводзіць яно на невясёлыя развагі пра надзвычайную жывучасць «правілаў гульні», паводле якіх ідэальны варыянт — прамаўчаць; калі немагчыма прамаўчаць — сказіць; калі і сказіць не выпадае — прыцішыць...

**А. ГАНЧАРОЎ.**

нальнай святыні, сёння так мала ведаюць?..

**— Пад вашым кіраўніцтвам у беларускай гісторыка-партыйнай навуцы з пяцідзесятых гадоў да апошняга часу распрацоўвалася гісторыя Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Як вы лічыце, што трэба зрабіць, каб кожны ў БССР больш ведаў аб рэвалюцыйнай барацьбе і трагічным лёсе КПЗБ?**

— Давайце адзначым, што ўжо зроблена. Асноўнай навуковай працай па гісторыі КПЗБ была манаграфія «Рэвалюцыйны шлях Кампартыі Заходняй Беларусі». Гэта праца калектыву навуковых супрацоўнікаў — цяпер дактароў гістарычных навук А. Мацко, Т. Прытыцкай, кандыдатаў гістарычных навук І. Хаўратовіча, А. Царука і мая. Яна была выдадзена ў 1966 годзе, калі курс, узяты XX з'ездам КПСС, стаў адчувальна мяняцца, і настаяць на публікацыі многіх яе старонак было зусім не проста. За апошнія чвэрць веку па гісторыі КПЗБ абараняліся дысертацыі, выпускаліся манаграфіі... У «БелСЭ» змешчана нямала глыбокіх артыкулаў пра справы і людзей КПЗБ — зрабіць гэта рэдактарскаму калектыву ў гады застою было нялёгка... Але гэтая літаратура, за некаторым выключэннем, і па характары выкладання, па аб'ёме тыражоў не была масавай. Напрыклад, «Рэвалюцыйны шлях»... была выдадзена тыражом усяго 8000 экземпляраў. Гэта ж мізэр! А гэта работа застаецца найбольш поўным і глыбокім даследаваннем па гісторыі КПЗБ.

І потым, справа не проста ў веданні гісторыі КПЗБ, а ў адносінах да людзей, у выхаванні маладога пакалення на рэвалюцыйных інтэрнацыяналістычных традыцыях. Цяпер на месцах многіх знамянальных падзей у Заходняй Беларусі ўстаноўлены памятныя дошкі, працуе музей на базе былога канцлагера ў Картуз-Бярозе, вялікая экспазіцыя ў Мінскім дзяржаўным гістарычным музеі, прынята рашэнне аб стварэнні музея КПЗБ у Гродне... Але гэтага мала. Шырокія пласты насельніцтва, асабліва Заходняй Беларусі, павінны больш ведаць пра лёс камуністаў майго пакалення.

Дзейнасць КПЗБ — гэта выдатная старонка ў барацьбе працоўных Заходняй Беларусі за Савецкую ўладу. Усе былыя члены КПЗБ — і тыя, што цяпер з'яўляюцца членамі КПСС, і тыя, што засталіся «беспартыйнымі камуністамі», заслужылі права на большую ўвагу да іх з боку партыйных і савецкіх органаў. Няхай лозунг «Ніхто не забыты, нішто не забыта» стане рэальнасцю і ў дачыненні да нас, былых камуністаў-падпольшчыкаў Заходняй Беларусі.

**— Дзякуй вам, Мікалай Сямёнавіч, за цікавую гутарку.**

**Інтэрв'ю ўзяла**
**Ларыса ЭТЭНКА.**

# Запрашае Дом літаратара

Вялікім паэтычным вечарам 4 кастрычніка пачнецца новы сезон у Доме літаратара. Прагучаць вершы Максіма Багдановіча, Пімена Панчанкі, Уладзіміра Караткевіча, Міхася Стральцова, Алеся Разанава, песні Ігара Лучанка. У шчырай размове з чытачамі і прыхільнікамі беларускай паэзіі прымуць удзел паэты розных пакаленняў і творчых манер. На вечары мяркуецца паказаць дакументальныя стужкі 1936—1939 гадоў.

Гэты паэтычны вечар пачынае цыкл мерапрыемстваў, прысвечаных 70-годдзю ўтварэння Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі. Павядзе яго паэт Сяргей Законнікаў, пачатак у 19 гадзін.

З пачаткам сезона аднаўляюць работу і творчыя секцыі пры Саюзе пісьменнікаў. 3 кастрычніка ў 15 гадзін адбудзецца пашыранае пасяджэнне секцыі прозы, на якім гаворка пойдзе пра творчасць маладых.

Вечары з цыкла «Літаратурныя сустрэчы» сталі ў Доме літаратара ўжо традыцыйнымі. Вось і 6 кастрычніка часопіс «Беларусь» запрашае на сустрэчу з супрацоўнікамі рэдакцыі і аўтарскім актывам. Пачатак у 19 гадзін. Удзельнікі вечара змогуць пазнаёміцца з бліжэйшымі і перспектыўнымі планамі часопіса, выказаць свае пажаданні і заўвагі.

У верасні шырока адзначалася 160-годдзе з дня нараджэння вялікага рускага пісьменніка Льва Мікалаевіча Талстога. 18 кастрычніка ў 19 гадзін Дом літаратара запросіць на агульнагарадскі вечар, які адкрые і павядзе народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. У праграме вечара — урыўкі з дакументальных фільмаў, сцэны з твораў Льва Талстога.

12 і 19 кастрычніка для пісьменнікаў дэманструюцца новыя фільмы. Мяркуецца паказ кінастужак «Дарагая Алена Сяргееўна» і «Маленькая Вера». Пачатак сеансаў у 18.30. Білеты прадаюцца з 18 гадзін.

У праграме вечара, прысвечанага 90-годдзю з дня нараджэння беларускага пісьменніка, драматурга Рыгора Кобеца, які мае адбыцца 13 кастрычніка ў 19 гадзін, — урыўкі з кінастужак «Шукальнікі шчасця», «Двойчы народжаны», сцэны з п'есы «Гута», іншых твораў пісьменніка.

Праблемы экалогіі сёння хвалююць кожнага сумленнага чалавека. Не застаюцца ўбаку ад іх і пісьменнікі рэспублікі. Секцыя нарыса і публіцыстыкі пры Саюзе пісьменнікаў праводзіць у кастрычніку два важныя мерапрыемствы: «круглы стол» «Экалогія, закон, грамадскасць», які мае адбыцца 20 кастрычніка ў 14 гадзін; І рэспубліканскую нараду вучоных, эколагаў, краязнаўцаў, пісьменнікаў «Азёры Беларусі» — 28 кастрычніка ў 10 гадзін.

«...Сапраўдны крытык павінен уплываць на творчы працэс. Слова Рыгора Бярозкіна было такім — важкім і дзейным. Да яго прыслухоўваліся, з ім лічыліся нават тыя, хто ў нечым не падзяляў высновы і ацэнкі крытыка. Рыгор Бярозкін шчыра любіў мастацкую літаратуру, асабліва паэзію, умеў захапляцца і радавацца, аддаць належнае творчай удачы. Але ён быў крытыкам строгім і не пагаджаўся на паблажлівасць, зніжэнне крытэрыяў. Некаторых, часам нават і тых, каго ён цаніў, гэта раздражняла...» — гэтыя радкі з успамінаў Варлена Бечыка пра вядомага крытыка Рыгора Бярозкіна, якому сёлета споўнілася б 90 гадоў з дня нараджэння. Дом літаратара рыхтуе вечар, прысвечаны гэтай даце. Адбудзецца вечар 25 кастрычніка ў 19 гадзін, павядзе яго Рыгор Барадулін.

Народны вячэрні універсітэт літаратуры пачатковыя заняткі ў сёлетнім сезоне праводзіць 27 кастрычніка ў 19 гадзін.

Імя Генадзя Чацверыкова — таленавітага каскадзёра з кінастудыі «Беларусьфільм» — добра вядома гледачам па кінастужках «Расія маладая», «Піраты XX стагоддзя», «Емяльян Пугачоў», «Апошняя ноч Шахеразады» і інш. На сустрэчы, якая адбудзецца 27 кастрычніка ў 19 гадзін, ён раскажа не толькі аб прафесіі кінаакцёра, пра пастаноўку трукаў, але і пра фізічнае ўдасканаленне чалавека. На вечары «Адвага, мужнасць, майстэрства» будуць дэманстравацца ўрыўкі з многіх кінастужак, у якіх здымаўся Генадзь Чацверыкоў.

Дом літаратара шчыра запрашае вас на сустрэчы і вечары, якія адбудуцца ў кастрычніку, і напамінае, што ўваход на ўсе мерапрыемствы па запрашальных білетах.

**А. НОВІКАВА,**
**метадыст Дома літаратара.**

**Калектыў Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Беларускай ССР выказвае глыбокае спачуванне загадчыку аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Н. Р. Цвірка з выпадку цяжкага гора — смерці брата.**

**Супрацоўнікі часопіса «Маладосць» выказваюць глыбокае спачуванне члену рэдкалегіі часопіса, пісьменніку Уладзіміру Дамашэвічу з выпадку напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

*Музам на пацеху*

**Міхась ПЯНКРАТ**

# Наменклатурнае пустазелле

## ПАРТРЭТ АДНАГОДКА

Антон Бэцала — мой былы аднакласнік. Некалі разам вучыліся, гулялі, марылі аб вялікіх адкрыццях і сусветнай славе...

Прайшлі школьныя гады, і ружовыя міражы дзіцячых мараў растаялі, як дым, як ранішні туман... Наступіў цвярозы жыццёвы будзень. Ён вызначыў кожнаму з нас свой лёс і сваё прызначэнне...

Я не дацягнуў да выпускнога дзесятага. Мяне настойліва клікала зямля, і я падаўся ў сельскае прафесійнае вучылішча набываць спецыяльнасць механізатара, асудзіўшы гэтым самым сваіх бацькоў на працяглае бяссонне...

Іншае сталася з Антонам Бэцалам. Ён так-сяк закончыў дзесяцігодку. Так-сяк агораў сельскагаспадарчы інстытут. Затым, пры дапамозе прабіўных бацькоў і высокіх пратэкцый, замест калгаснага поля патрапіў у... аспірантуру...

Не падумайце, што свежаспечаны аграном-палявод пачаў са смакам грызці граніт навукі, як моркаўку. Зусім не. Ён ішоў паўзбоч навуковага воза, а воз патроху піхалі тыя ж самыя памагатыя — уплывовыя бацькі. Але сказаць, што Бэцала зусім не займаўся навукай, будзе няправільна. Ён, па меры магчымасці, нешта рабіў, тым больш, што навуковы воз, у які яго запрэглі, не вызначаўся асабліва важкай паклажай. Нават яго кандыдацкае даследаванне называлася не па навуковаму лёгка і проста: «Рэжучы апарат каларадскага жука».

На працягу трох гадоў, зімой і летам, даследчык вывучаў сківіцы бульбянога драпежніка. Асабліва будучаму кандыдату навук падабалася працаваць у летнюю, сонечную пару. Тады ён выходзіў у плаўках на доследны ўчастак, непадалёку ад ціхай вясковай рачулкі, лажыўся пузам на ласкава-цёплую зямлю і наглядаў за тым, як падвопытны жук упісваў сакавіты бульбяны ліст...

Тры гады праляцелі, нібы тыя дні адпачынку на Чарнаморскім узбярэжжы. А потым была абарона жукакаларадскай дысертацыі. Было мнагалюднае застолле і шумныя віншаванні. А далей і пайшло, і паехала!

Новенькі, з іголачкі, кандыдат сельскагаспадарчых навук прадаўжаў сваю працу ў выбранай галіне навукі. Цяпер ён ужо заняўся больш складанай праблемай: ён наважыўся шукаць найбольш радыкальныя сродкі барацьбы з бульбяным разбойнікам. Праўда, шукаў ён, як гаворыцца, сякеру пад лаўкай. Усе яго навуковыя пошукі не выходзілі за рамкі газетных і часопісных падшывак. У выніку кожнае лета ў сельскагаспадарчай газеце з'яўляліся яго невялічкія артыкулы пад адной і той жа назвай: «Каларадскі жук і меры барацьбы з ім».

Ішлі гады, расла колькасць кампіляцыйных артыкулаў-блізнят, але не рос толькі сам кандыдат навук. Справа яўна хілілася да кандыдацтва «па ўласнаму жаданню». Тады адзін з «хросных бацькоў» няўдалага вучонага даў праграмную параду:

— Антон, не будзь дурнем! На сваім каларадскім жуку ты далёка не заедзеш, — не той транспарт. Цябе можа выратаваць хіба што кіруючая наменклатура. Зможаш туды патрапіць, то будзеш надзейна сядзець там, быццам патрон у абойме, да самай зацяглай пенсіі і ніхто, ніякі чорт цябе адтуль выкалупаць не зможа. *А як туды патрапіць* — сам пакруці мазгамі...

Антон Бэцала не быў дурнем. Ён пакруціў мазгамі і падаў заяву ў адпаведную інстанцыю з просьбай накіраваць яго ў... адстаючы калгас нашага раёна на пасаду старшыні...

Жыццёвая хваля адразу ж падкінула Антона Бэцалу на свой высокі грэбень. Усе сродкі інфармацыі наперабой праслаўлялі вучонага, які ў імя дзяржаўных інтарэсаў прынёс у ахвяру недабітага, недазнішчанага каларадскага жука!

Не прайшло і паўгода, як Антона Бэцалу ведала ўжо ўся рэспубліка. Ён — на газетных здымках і экранах тэлевізараў, за сталамі розных прэзідыумаў і за высокімі трыбунамі. Яго персанальная «Волга» часцяком стаяла каля парадных пад'ездаў высокіх устаноў і ведамстваў...

З прыходам вучонага старшыні ў калгасе і сапраўды пачалося рабочае ажыўленне. Шырока разгарнулася будаўніцтва. У першую чаргу, нібы ў казцы, вырас Палац культуры, узведзены па арыгінальнаму індывідуальнаму праекту. Адна толькі люстра для гэтага палаца, па падліках «народнай бухгалтэрыі», каштавала калгасу не меньш васьмі фуражных кароў... Затым вырасла сауна з паўгектарным басейнам, гасцініца з мармуровымі камінамі...

І раптам атрымалася замінка: аказалася, што няма каму карыстацца гэтай раскошаю — усе працаздольныя калгаснікі разбегліся хто куды: адны ў суседні калгас, другія ў горад. І было ад чаго разбягацца. Канчаткова заняпала жывёлагадоўля, а за ёю і паляводства. Заробак калгаснікаў паграderжальна пачаў набліжацца да нуля... Да старых калгасных даўгоў вучоны старшыня дабавіў яшчэ паўтара мільёна банкаўскай запазычанасці...

Патрон у наменклатурнай абойме не стрэліў, даў асечку. Але яго, як і прадбачыў некалі «хросны бацька» кандыдата навук, вышэйшае начальства не выкінула з наменклатурнай абоймы, а далікатна пераставіла ў другую...

І пайшлі тыя перастаноўкі адна за другою, як на шахматнай дошцы. Пабываў Антон Бэцала на кіруючых пасадах і ў раённых, і ў абласных установах, і ўсюды ён «ламаў дровы». Пасля чарговай перастаноўкі Антон Бэцала стаў кіраўніком нашага раённага аграпрома.

Нядаўна, будучы ў райцэнтры па калгасных патрэбах, я нечакана, нос у нос, сутыкнуўся на вуліцы з Антонам Бэцалам. Парукаліся, як мае быць, пра здароўе адзін у аднаго запыталіся.

— Як працуецца на новай пасадзе, Антон Зянонавіч? — цікаўлюся.

— Ат, — махнуў рукой Бэцала, — усё, брат, улукаткі пайшло! Перабудова дужа моцна трасе...

— Яно то так! — падтрымаў гутарку я. — Перабудова — што тое сіта: трасепрасявае. Наверсе важкае зерне застаецца, а ніжэй драбнейшае падае, а разам з ім і пустазелле рознае...

Бэцалу нібы варам спаласнулі:

— Драбнейшае, кажаш?! Пустазелле?! Ды ў мяне ж вучоная ступень, уласным гарбом запрацаваная!..

— А пры чым тут вы, Антон Зянонавіч? Вы, няўрокам кажучы, са сваёй вучонай ступенню ого які ўзлёт яшчэ возьмеце...

— Халеру ў бок я вазьму! Ты ведаеш, што мне прапаноўваюць? Мне прапаноўваюць пасаду калгаснага брыгадзіра! Во, які мой узлёт...

Я зразумеў, што не на тую клавішу націснуў, але адступаць было позна. «Усё ж выскачыў з абоймы», — падумаў я, а ўголас сказаў:

— На Мінскім трактарным заводзе, кажуць, па ўласнай ініцыятыве працуе простым слесарам кандыдат тэхнічных навук. У пашане і гонары ходзіць. А тут — брыгадзір! Гэта, я вам скажу, фігура будзе вышэйшая за радавога слесара. Пасада пачэсная.

Бэцала паглядзеў на мяне бела-шалёнымі вачыма і з прысвістам прашыпеў, нібы той гусак:

— Мне два гады да пенсіі засталося! Ты можаш гэта зразумець?

Потым Бэцала шыпеў нешта пра нейкі навуковы прэстыж, пра свой нешчаслівы лёс, пра чалавечую неспагаду і несправядлівасць.

— Дорага, кажаце? Дык я ж гэтую гародніну па кааператыўных цэнах купляў.

— Не ўздумай стрэліць: ужо тром жонкам аліменты плачу.

Малюнкі М. ШЫШЛОВА.




**З 3 ПА 9 КАСТРЫЧНІКА**

**4 кастрычніка, 20.15**

**«БАЦЬКАЎ ДАР»**

Прагучаць беларускія народныя песні са збору Р. Р. Шырмы.

У першай перадачы — песні часоў Вялікай Айчыннай вайны.

Выканаўца — хор Беларускага тэлебачання і радыё пад кіраўніцтвам народнага артыста БССР прафесара В. Роўды.

**4 кастрычніка, 20.40**

**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЁ ПІСЬМО...»**

Агляд крытычнай пошты тыдня.

**4 кастрычніка, 21.50**

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма знаёміць з праблемамі культурнага жыцця Гродна, захавання і рэстаўрацыі помнікаў.

Вядучая — журналіст М. Гарэцкая.

**7 кастрычніка, 12.00**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы А. Вярцінскага чытае заслужаны артыст БССР В. Белахвосцік.

**7 кастрычніка, 19.25**

**«КАБ НЕ ЗГАСАЎ АГОНЬ...»**

Тэленарыс пра народнага майстра — ганчара С. Шарапу з вёскі Моладзь Лагойскага раёна.

**8 кастрычніка, 17.45**

**«БУГ»**

Літаратурна-мастацкі часопіс.

Выпуск прысвечаны стану музея Суворава ў Кобрыне.

**8 кастрычніка, 19.35**

**«МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ»**

Фестываль музычных праграм.

Г. Цітовіч. Старонкі жыцця і творчасці.

**9 кастрычніка, 16.55**

**«ЛІТАРАТУРА І СУЧАСНАСЦЬ»**

Пра месца асобы ў гісторыі, суадносін нацыянальнага і агульначалавечага развважаюць доктар філасофскіх навук У. Конан, пісьменнікі Э. Ялугін і К. Тарасаў.

Вядучы — П. Садоўскі.

**9 кастрычніка, 19.20**

В. Блакіт. Да 50-годдзя з дня нараджэння.

У перадачы прымаюць удзел пісьменнік П. Місько, журналіст У. Герасюк, мастакі М. Гіргель і А. Гармаза, бацькі пісьменніка К. М. і У. М. Болтачы.

**9 кастрычніка, 23.05**

***«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ».***

Інфармацыйна-музычная праграма.

**АБ'ЯВЫ**



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 01387

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, машынапіснага бюро — 33-44-04, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.